ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

# ЛіМ

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

20 лютага 1998 г. № 8/3936 Кошт 4 000 руб.



### БУДЗЬМА РАЗАМ!

*Шаноўныя чытачы! Пачалася падпіска на наш тыднёвік на другі квартал 1998 года. Спадзяёмся, што Вы, нашы прыхільнікі і аднадумцы, не пакінеце сябе без "ЛіМа", нягледзячы нават на не вельмі спрыяльныя варункі жыцця. Кошт падпіскі на адзін месяц — **15 тысяч рублёў**, на квартал — **45 тысяч рублёў**.*

**Наш індэкс — 63856.**



# А талент — вечна малады!

Ці трэба казаць, якая гэта значная падзея ў жыцці творцы — аўтарскі вечар! Падсумаванне вынікаў рупнай працы. Свята...

Вось такім сапраўдным музычным святам адзначыла наша грамадскасць 75-годдзе народнага артыста Беларусі прафесара Генрыха Вагнера. У той вечар адбыўся яскравы канцэрт з удзелам Акадэмічнага сімфанічнага аркестра РБ, якім дырыжыраваў маэстра Міхал Казінец, хору Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі Беларусі ды хору Акадэміі музыкі (мастацкі кіраўнік маэстра Віктар Роўда), знаных салістаў — піяністаў Ігара Алоўнікава ды Наталлі Ташчылінай. Праграму склалі як добра знаёмыя, так і новыя старонкі багатай творчасці славутага кампазітара.

*(Працяг на стар. 3)*

## ЛіМ КОЛА ДЗЁН

***Бадай, галоўная падзея па-за межамі эканомікі і палітыкі для нас сёння перамога беларускіх хакеістаў у Нагана. Так, мы не памыляемся, перамога, хоць зборная Беларусі не ўзяла ніводнага ачка ў мэтраў сусветнага хакею. Памятаеце, у Арсенія Таркоўскага:***

*Заполонил пол-неба гений,*
*Не для тебя его ступени.*
*Но даже под его пятой*
*Ты должен быть самим собой.*

***У Нагана нашы хакеісты згулялі па максімуму. Перамаглі ў сябе заганную беларускую "сціпласць". І гэта перамога беларускага духу над беларускай рэчаіснасцю. Зрэшты, калі б кожны з нас так рабіў бы сваю справу, дык і наша краіна заняла б пачэснае месца ў "вышэйшай лізе".***

### ПРАБЛЕМА ТЫДНЯ

Спецыяльная камісія Міністэрства культуры РБ рыхтуецца наведаць украінскі горад Ялту. Камісія створана дзеля рэалізацыі ідэі перапахавання парэшткаў Максіма Багдановіча. Гаворка пра гэта ідзе ўжо даўно, і адзінай думкі на гэты конт няма. Ёсць, напрыклад, меркаванне, што ўлада, якая непаважна ставіцца да беларускай культуры і мовы, не мае маральнага права дакранацца да праху нацыянальнага генія. Да таго ж і грамадскасць яшчэ не здольная ўсвядоміць веліч такой падзеі — вяртання Максіма на Радзіму. Іншыя ж мяркуюць, што ўлада і грамадства могуць "саспяваць" бясконца, а вяртанне Максіма трэба найперш нацыянальнай эліце. Калі ж рашэнне аб перапахаванні будзе прынята, дык магіла Максіма Багдановіча хутчэй за ўсё будзе побач з магілай Янкі Купалы і Якуба Коласа.

### ПРЭЗЕНТАЦЫЯ ТЫДНЯ

14 лютага ў Мінскім палацы дзяцей і моладзі адбылася прэзентацыя кнігі "100 пісьменнікаў Вялікабрытаніі" (аўтары В. Судлянкова і Л. Картэс, выдавецтва "Вышэйшая школа"). Для Беларусі выданне такога роду першае. Гэты даведнік будзе карысным і для прафесійнага літаратара і для аматара літаратуры. Кніга на рускай мове, як і ўвогуле большасць прадукцыі выдавецтваў РБ.

### СТРЫПТЫЗ ТЫДНЯ

14 лютага ў начным клубе "Макс-шоу" мела месца эратычнае шоу-праграма з удзелам "зорак стрыптызу Масквы і Санкт-Пецярбурга". Каб убачыць жыўцом тое, чаго хапае на тэлеэкране, трэба было заплаціць 420 тысяч рублёў.

### ВЫСТАВА ТЫДНЯ

Прысвечаная 80-годдзю незалежнасці Літвы выстава адкрылася ў Доме дружбы. Прыгажосць і вытанчанасць — вось, бадай, асноўныя рысы творчасці вядомага графіка і фотамастака Рымантаса Дыхавічаса. Майстра трымаўся сціпла і хваляваўся, узяўшы слова. З нашага боку выступілі старшыня таварыства "Беларусь—Літва" А. Дудараў, намеснік міністра культуры В. Гедройц. Згадваліся агульная гісторыя і сумесныя культурніцкія акцыі, а таксама выказванне другога славутага літоўца — М. Чурлёніса: "Сусветная культура — сімфонія нацыянальных галасоў". Пасол Літвы ў РБ В. Бaубліс не забыўся павіншаваць прысутных з днём святога Валянціна, напярэдадні якога і адкрылася выстава.

### ПРАЕКТ ТЫДНЯ



Рэдкім творчым поспехам назваў спектакль Нацыянальнага тэатра імя Янкі Купалы "Князь Вітаўт" Дзмітрый Бубноўскі, старшыня Камітэта па ахове гісторыка-культурнай спадчыны, — назваў, прапануючы Радзе Еўропы адметны тэатральны праект. Паказаць "Князя Вітаўта" ў Гародні, Вільні ды Кракаве, — там, дзе паводле сцэнічнае і гістарычнае фабулы вырашаліся лёсы нашых народаў і валадароў. Паводле Дзмітрыя Бубноўскага, уласна паказ спектакля мае быць падтрыманы невялікай навуковай канферэнцыяй. Літва і Польшча праект ухвалілі. Апошняе, вырашальнае слова — за Радай Еўропы. Відавочна, рэжысёр спектакля Валерый Раеўскі і драматург Аляксей Дудараў перад усімі ўжо далучыліся да яе дзейнасці, якая, да ўсяго, мае на ўвазе і агульнасць г історыка-культурнай спадчыны.

*На здымку: Георгій Маляўскі (Алясніцкі), Мікалай Кірычэнка (Ягайла).*
*Фота Аляксея МАЦЮША*

### ПАМЯЦЬ ТЫДНЯ

15 лютага — дзяржаўнае свята Дзень памяці воінаў-інтэрнацыяналістаў. У гэты дзень у 1989 годзе для Савецкага Саюза скончылася Афганская вайна. Грамадзянская вайна ў Афганістане праця-ваецца дагэтуль. Як звычайна ў гэты дзень ля мемарыяла на "выспе слёзаў" адбылася ўрачыстая цырымонія.

### ЮБІЛЕЙ ТЫДНЯ

100 гадоў таму, 18 лютага 1898 года, у Мінску было створана Таварыства аматараў прыгожых мастацтваў.

### ВІЗІТ ТЫДНЯ

Беларусь наведаў Экзарх Усяленскага Патрыярхату ў Еўропе, мітрапаліт Швейцарскі Дамаскін. Гэта не першы візіт святара ў Беларусь, і як у мінулыя гады ён прыехаў з грузам гуманітарнай дапамогі. Мітрапаліт Дамаскін сустрэўся з дзяржаўнымі чыноўнікамі і ўладыкам Філарэтам. Такім чынам, можна канстатаваць, што Беларуская праваслаўная царква глядзіць не толькі на Усход.

ВЫСТАВЫ

# Мінск — не Лейпцыг, але горад кніжны

Лейпцыг тут згаданы невыпадкова. Як вядома, у свеце вялікім аўтарытэтам карыстаюцца тамашнія кніжныя кірмашы. Гэтаксама як, дарэчы, і тыя, што ладзяцца яшчэ ў адным нямецкім горадзе — Франкфурце-на-Майне. І ўвогуле, падобных мерапрыемстваў праходзіць паўсюдна шмат і, калі можна так сказаць, кнігавыдавецкая ніша даўно занята. Тым няменш... Памятаецца, як у студзені 1994 года, калі стольны Мінск упершыню сабраў на Міжнародны кніжны гасцей з 8 краін, знайшліся і скептыкі, якія гэта не ўспрымалі ўсур'ёз. Маўляў, яшчэ адна даніна модзе, калі абавязкова хочацца, каб у сталіцы незалежнай дзяржавы праходзіла нешта міжнароднае, хоць і збіраюцца на гэтае мерапрыемства ўсяго-наўсяго бліжэйшыя суседзі з колішніх рэспублік Савецкага Саюза.

Аднак калі праз год, таксама ў студзені, кірмаш праходзіў у другі раз, тыя ж скептыкі патрапілі ў няпэўнае становішча. З аднаго боку, як быццам, прагнозы іх і спраўдзіліся. Калі ў 1994 годзе ў кірмашы ўдзельнічала 315 фірм, дык новы сабраў толькі 220. А з другога... Упершыню ў Мінску з'явіліся выдаўцы і кнігагандляры з Германіі, Польшчы, Кітая, што найлепшым чынам засведчыла аб паступовым ператварэнні Мінска ў яшчэ адзін цэнтр правядзення кніжных кірмашоў, якія набываюць вядомасць у свеце.

І вось — V Міжнародны мінскі кніжны кірмаш. Сёння ён завяршае работу ў Рэспубліканскім выставачным цэнтры, а ўрачыста быў адкрыты 18 студзеня. Тры дні, вядома ж, не так і шмат, але тры дні значаць многа, калі да справы паставіцца належным чынам, лішні раз усвядоміўшы, наколькі культура, а ў дадзеным выпадку кніга, дапамагаюць збліжэнню народаў, спрыяюць стварэнню агульнай культурнай прасторы. А менавіта такую задачу і мелі перад сабой традыцыйныя арганізатары кірмашу: Дзяржаўны камітэт Рэспублікі Беларусь па друку, Беларуская асацыяцыя кнігавыдаўцоў і кнігараспаўсюджвальнікаў, беларуская недзяржаўная выдавецка-кнігагандлёвая фірма "Макбел", а таксама асацыяцыі кнігавыдаўцоў і кнігараспаўсюджвальнікаў з краін СНД.

Пад вялікім дахам выставачнага цэнтра змаглі размясціць свае кнігі больш за 300 выдавецтваў з краін СНД і Балтыі, Германіі і Францыі. Сярод гасцей асабліва шмат выдаўцоў — як дзяржаўных, так і недзяржаўных — з Расійскай Федэрацыі. Яны належным чынам паставіліся не толькі для адбору літаратуры, але і да рэкламавання яе. Бадай, лепш за іншых у гэтым сэнсе выглядала ўсім добра вядомае "Просвещение". Маляўнічыя буклеты, розныя календары, у тым ліку дзелавыя, на штодзень, блакноты, цэлафанавыя пакеты з адзнакай выдавецтва — усё гэта, канечне, не магло не прываблiваць да стэндаў наведвальнікаў. І, зразумела, самі кнігі. І таго ж "Просвещения", і іншых маскоўскіх выдавецтваў. Як ветэранаў на кніжным рынку, так і створаны параўнальна нядаўна, але заваяваўшых ужо добрую славу.

Калі гаворка зайшла аб кнігах з Расіі, дык адразу кідаецца ў вочы, як шмат увагі ўдзяляецца ў гэтай краіне выпуску рознай гістарычнай літаратуры — ад даведнікаў, зборнікаў гісторыка-краязнаўчых нарысаў да мастацкіх твораў. Прытым закранаюцца розныя перыяды даў-ніны. І смела разбураюцца стэрэатыпы. Для прыкладу, у папулярнай серыі "Жизнь замечательных людей" ужо з'явіліся кнігі пра Аляксандра І, Напалеона. Даводзілася чуць меркаванні, што ацэнка падзей у пераважнай большасці з іх даецца з прарасійскіх пазіцый. І нават тых, што адбываліся на тэрыторыі сучасных Беларусі, Украіны, іншых краін. А з якой яшчэ пазіцыі яна павінна давацца? Вось калі б і мы ўважлівей ставіліся да сваёй мінуўшчыны, выпускаючы больш адпаведнай літаратуры, тады б чытач і меў магчымасць выбару.

Гэта, аднак, не значыць, што беларуская экспазіцыя (выставілі сваю літаратуру ўсе дзесяць дзяржаўных выдавецтваў і многія недзяржаўныя) не вартая таго, каб не запыніць на ёй увагу. Заслугоўваюць увагі кнігі "Юнацтва", "Мастацкай літаратуры", стабільным попытам карыстаюцца выданні "Беларускай энцыклапедыі" імя Петруся Броўкі... І іншыя выдавецтвы шукаюць такія рукапісы, якія б у сённяшні складаны час дапамаглі не толькі выжыць, а і дазвалялі годна трымаць сваю выдавецкую марку. Ды хацелася б, каб усё ж кніг было больш. Добрых і розных...

А ўвогуле кірмаш пакінуў прыемнае ўражанне. І не ў апошнюю чаргу дзякуючы прадуманай яго арганізацыі, у чым найперш заслуга старшыні аргкамітэта, намесніка старшыні Дзяржаўнага камітэта па друку, прэзідэнта Беларускай асацыяцыі кнігавыдаўцоў і кнігараспаўсюджвальнікаў С. Нічыпаровіча. І ўжо нават тое, што ўрачыстае адкрыццё не зацягнулася, а абмежавалася кароткімі, лаканічнымі выступленнямі таго ж С. Нічыпаровіча, намесніка кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь І. Пашкевіча, намесніка старшыні Дзяржкамітэта па друку Расійскай Федэрацыі У. Жаркова, пацвердзіла, што сабраліся тут людзі дзелавыя, для якіх на першым плане не словы, а справа.

Дарэчы, сёння павінна быць падпісана міждзяржаўнае пагадненне паміж Беларуссю і Расіяй аб супрацоўніцтве ў галіне друку — першае такога кшталту ў СНД. Пазней аналагічнае пагадненне ў Маскве падпішуць Расія і Украіна і, трэба спадзявацца, да іх далучацца іншыя краіны.

**А. АН-ЕВІЧ**

З НАГОДЫ

# Кахаць па-алімпійску

За апошняе дзесяцігоддзе мы паспелі прызвычаіцца да масавых палітычных мерапрыемстваў. Некаму яны падабаюцца, некага раздражняюць, але, напэўна, ужо нікога не здзіўляюць. Мне падаецца, шэсце і мітынг, якія адбыліся 14 лютага, здольныя былі ўразіць гледача (ці ўдзельніка) менавіта сваім непадабенствам на ўсё, што было дагэтуль. Мабыць, таму, што адбываліся ў Дзень святога Валянціна.

Нагода, з якой апазіцыя ладзіла ўзгаданыя мерапрыемствы, — гэта Алімпійскія гульні ў Нагана. Спорт у былым СССР заўсёды быў цесна звязаны з палітыкай. "Сувязь" гэта крыху прыпынілася з распадам Саюза, але зараз наладжваецца з яшчэ большым імпэтам. Прэзідэнт Беларусі адначасова з'яўляецца кіраўніком нацыянальнага алімпійскага камітэта, дзейнасць спартоўцаў "курыруе" намеснік главы Адміністрацыі і г.д. Зразумела ж, і апазіцыя не жадае заставацца ўбаку ад спартыўных падзей і імкнецца хоць нечым засведчыць сваю цікавасць да гэтай галіны жыццядзейнасці. А паколькі вандроўка ў Нагана не па кішэні пераважнай большасці апазіцыянераў, то не застаецца нічога іншага як правесці свае алімпійскія гульні ў Мінску. Спартоўцы спаборнічаюць на стадыёнах, хлопцы з "Маладога фронту" на вуліцах. Мэта адных — алімпійскія медалі, іншых — падтрыманне духу грамадзянаў.

"Алімпіяда МФ" уключала ў сябе цэлы шэраг спаборніцтваў ад "стральбы" па мішэнях да конкурсу прыгажосці. У суботу ж можна было назіраць, як маладафронтаўцы спяшаюцца данесці да замежных амбасадараў свае віншаванні з днём закаханых і пажаданні поспехаў у Нагана. Перамаглі ў бегу па незвычайным маршруце (пл. Я. Коласа — амбасада) маладыя людзі, "закаханыя" ў Польшчу. За гэта атрымалі адмысловы прыз — некалькі бутэлек піва. Прызы атрымалі таксама "найбольш выбітныя прадстаўнікі СМІ" Алена Лукашэвіч (РТР) і Ірына Халіп (газета "Имя"). Першыя за асабісты ўдзел у адной з акцыяў у абарону Лабковіча і Шыдлоўскага, другая за пакрыўджанага ёю міліцыянта, якому некалькі месяцаў таму мужная журналістка дала аплявуху. Рэзкія словы (і дзеянні) Ірыны ў бок праваахоўных органаў ужо нікога не здзіўляюць. І толькі беларуская мова з вуснаў рускамоўнай журналісткі яшчэ больш упрыгожвае гэтую і без таго прывабную жанчыну. Але сапраўдным "аратарам вечара" з упэўненасцю можна назваць сустаршыню Маладога фронту Паўла Севярынца (якая змена расце лідэру БНФ!). Яго прамова была прасякнута аптымізмам, ён шмат жартаваў і ўвогуле зрабіў усё дзеля таго, каб "свята кахання і спорту" сапраўды атрымалася.

Як заўжды здзівілі міліцыянты. Нават не колькасцю "відэааматараў" і непрафесійнасцю "людзей у цывільным", а сваімі паводзінамі, якія цяжка чымсьці патлумачыць. Калі несанкцыянаванае мерапрыемства разганяюць пры дапамозе АМАПа, гэта можна (хоць і цяжка) зразумець. А вось чым перашкодзіў праваахоўнікам адзін з тысячы дэманстрантаў (якога ўсё ж арыштавалі ў той дзень), сказаць цяжка. А вось яшчэ выпадак. Да маленькага хлопчыка, якому не больш за восем гадкоў, чапляецца здаравенны мужчына ў форме і спрабуе адабраць бел-чырвона-белы сцяжок і, не здолеўшы гэта зрабіць, патрабуе ад малога: "Ідзі дамоў!" Хлопчык толькі засмяяўся, страху ў вачах не было.

Свята працягвалася...

**Вадзім ДОЎНАР**

ПАДЗЕІ

# Беларусь — у Еўропу

З трох кампактдыскаў складаецца выдадзены ў ЗША альбом пад назваю "Музыка Усходняй Еўропы". Аўтары гэтага эксклюзіўнага праекта мелі на мэце прадставіць "гукавыя візітоўкі" краін, якія пазбавіліся таталітарнага ўціску пасля распаду СССР. Такім чынам з лазерных кружэлак можна пачуць музыку народаў былых савецкіх рэспублік (апроч Расіі, тэрыторыя якой прасціраецца пераважна за еўрапейскімі межамі), а таксама колішніх краін "сацыялістычнага лагера", у тым ліку й загадкавай Албаніі. Беларусь — на першым кампакце. Прадстаўлена самабытна, годна, гожа. Мужчынскі камерны хор "Унія" пад кіраўніцтвам Кірылы Насаева выконвае два старабеларускія хрысціянскія песняспевы са збору Супрасльскага манастыра; адмысловцы самабытнага фальклору "Ліцвіны" пад кіраўніцтвам Уладзіміра Бярберава — дзве народныя песні. Наша краіна патрапіла ў сур'ёзны элітарны праект (альбом некамерцыйны, распаўсюджвацца будзе толькі ў ЗША) дзякуючы высокакваліфікаванай і апаратыўнай працы мінскага прадзюсера, гукарэжысёра, музыканта, кампазітара Сяргея Багданава.




*На здымку — вокладка буклета "Музыка Усходняй Еўропы".*

**С.Б.**

# А талент — вечна малады!

*(Працяг. Пачатак на стар. 1)*

Прагучала знакамітая вакальна-сімфанічная паэма "Вечна жывыя", адзін з трагічных і ў пэўным сэнсе аўтабіяграфічных сімвалаў творчага свету Г. Вагнера. Некалькі фрагментаў з балета "Пасля балю" сталіся сапраўдным адлюстраваннем тэатральнай прыроды таленту кампазітара. Яркую вобразнасць, цудоўную імправізацыйную манеру выказвання, прывабныя тэмбравыя знаходкі слухачы маглі адзначыць не толькі ў музыцы балета, а і ў Канцэрце для двух фартэпіяна і аркестра.

Дзівоснае ўражанне выклікала праслухоўванне юбілейнай праграмы знанага творцы: нібыта з часам ён усё больш маладзее душой, бо ў музыцы ягонай усё часцей гучыць амаль юнацкі імпэт, няўрымслівасць, шчырасць, прага і радасць жыцця. Ён звяртаецца да слухачоў сённяшняй музычнай мовай, бо валодае арсеналам сучасных сродкаў мастацкай выразнасці.

Ён, як наватар, эксперыментуе ў сваіх творах з выканальніцкім складам ("няпоўны" аркестр у Канцэрце для двух фартэпіяна ці, напрыклад, спалучэнне сімфанічнай партытуры з народным хорам у нядаўна выкананай Чацвёртай сімфоніі. Ён арыгінальна злучае народную беларускую мелодыю з тэхнікай джазавай імправізацыі. Але пераважна ён прытрымліваецца традыцый акадэмічнай музыкі, выбіраючы жанры ды сродкі развіцця тэматычнага матэрыялу.

Па-маладому няўрымслівы, але адданы добрым традыцыям талент Г. Вагнера выявіўся і ў новым творы, які кампазітар адзначыў сваё 75-годдзе, — у Канцэртных варыяцыях для фартэпіяна і сімфанічнага аркестра. Як і ў многіх сваіх вядомых творах, ён звяртаецца тут да лірычнай народнай тэмы, знойдзенай у зборніку песенных запісаў Рыгора Раманавіча Шырмы. Дзівосна прыгожая тэма, развіваючыся ў партыях аркестра і саліста, шторазы паўстае ў новым вобразным варыянце, у новай жанравай і тэмбравай аздобе. Нібыта ў лірычны аповед кампазітара ўключаюцца скерцозна-жартаўлівыя ды прытоена-трывожныя інтанацыі...

Незвычайныя ўражанні зведалі ў той вечар шматлікія ўдзячныя слухачы. Ад іхняга імя хацелася б пажадаць кампазітару доўгага творчага жыцця і гэткай жа натхнёнай працы, новых сустрэч у канцэртнай зале.

**Ірына СЫРЫЦА**
*Фота К. ДРОБАВА*

ГОСЦІ

# Тэатр без межаў?

Мікалай Трухан і тэатр драмы "Дзе-Я?" прымаюць у гасцях лонданскі "АРТ-ВІС", з якім пазнаёміліся на фестывалі ў Эдынбургу. У рамках культурнай праграмы "Тэатр без межаў" (яна прадугледжвае сумесную пастаноўку па Гогалю) лонданцы пакажуць у Мінску "Выгнанніка" С. Бэкета і казку для дзяцей "Прынцэса-шакаладка". Увогуле ж тэатр "спецыялізуецца" на рускай класіцы, а яго мастацкі кіраўнік Віктар Сабчак паходзіць з Украіны.

У прэм'ерным спектаклі гасцей перад намі разгортваецца жахлівая гісторыя насельнікаў "дна". Тут мінімум дыялогаў (ладныя кавалкі тэксту перакладзены і гучаць "за кадрам"), мінімум рэквізіту (чамаданчык, парасон, каструля, начная пасудзіна, матрас). Музыка гучыць адно да паловы дзеі, а затым, нібы адчуваючы сваю непатрэбнасць у свеце амаральнасці, замаўкае. Бязмоўны персанаж у цяряновым вянцы, белым балахоне і процівагазе не толькі павінен служыць сімвалам пакутніцтва, але і дапамагае парадкаваць няхітры рэквізіт. Галоўных герояў пяцёра. Малады выгнаннік (Філіп Саткліфф) іграе вясковага паўдурка, ён наіўны і прастадушны, безабаронны перад светам. Ён жа сталы, абязножаны і сляпы (Бернард Філд), — цалкам здэградаваная, жорсткая істота, якую ўжо і чалавекам называць не хочацца. Можа, сапраўды, "каханне адкрывае найгоршае ў чалавеку"? Выгнаны з дому перш палюбіў могілкі, дзе і пасяліўся, потым яго прыгрэла прастытутка Лулу — пяшчотная і пачварная Лулу (у цудоўным выкананні Кэралайн Бэркс Кук). Відовішча, што падобна на фарс, узвышаецца да пранізлівага трагізму якраз у эпізодах, дзе Лулу дэманструе несумяшчальнасць кахання і распусты, распусты і мацярынства. Уражанне беспрасветнасці чалавечага існавання, уласцівае нярэдка і спектаклям М. Трухана (што, мабыць, і зблізіла два розныя і разнамоўныя калектывы) тут даходзіць да гранічнай рысы. Натуралізм шакіруе; мясцінамі здаецца, што гэта на самай справе "тэатр без межаў". І мяне як гледача не пакідала пытанне: дык дзе святло ў канцы тунеля? Хіба выжывае Любоў сярод адкідаў — у прамым і пераносным сэнсе? Можа, яна ў той кветачцы, якую юны Выгнаннік падараваў першай сваёй жанчыне? У тым шаліку — яе падарунку, што неверагодным чынам збярогся праз усё жыццё? Можа, любоў у тым, як жабрачка Мол (Джанет Чыркоп) па-мацярынску выцірае сляпому твар, спявае яму песеньку? Але ўсё гэта — адно слабыя праблескі. Грэх бацькоў разрастаецца і перакідваецца на сына (Дэвід Робінсан). Той, што ў балахоне, зноў валачэ кудысьці свой спрадвечны крыж, нашы пытанні застаюцца без адказу, пачуцці абражаны, а Бог у душы пратэстуе і не жадае мірыцца з гэтым царствам цемры.

Зрэшты, філасофія аўтара п'есы і атмасфера яго твораў перададзены дакладна. Наконт прафесійнага майстэрства акцёраў, думаю, нямала добрых слоў скажуць тэатразнаўцы. Толькі няхай яны, услед за журналістамі і складальнікамі праграмак, асцерагаюцца праводзіць параалель паміж героямі Бэкета і "маленькім чалавекам" Чэхава. Такія, як Выгнаннік, з ахвяраў ператвараюцца ў катаў і ў барацьбу двух супрацьлеглых пачаткаў уносяць зусім не малую ўноску. І ці так ужо неабходна зазіраць нам у іхнія "глыбіні пякельныя"?..

**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ**

АБСЯГІ

***"Абсягі..." Менавіта пад такой рубрыкай з гэтага нумара наш тыднёвік пачынае змяшчаць падборку культурна-грамадскіх вестак з абласцей Беларусі. Дзеля больш аператыўных дзелавых стасункаў паведамляем нумар адпаведнага рэдакцыйнага тэлефона: 33-22-04.***

*ГРОДНА...*

## Сход літаратараў

Адбыўся сход аддзялення СП, якое налічвае цяпер 18 чалавек. Таксама ў ім бралі ўдзел маладыя літаратары і госці з Мінска, сакратары СП У. Паўлаў і В. Супрунчук. Справаздачу рабіла Данута Бічэль. У дыскусіі бралі слова А. Пяткевіч, І. Сяргейчык, І. Жук, Л. Ялоўчык, М. Шаўчонак, А. Руцкая, Р. Бялячыц, У. Паўлаў, В. Супрунчук.

Адзначалася, што за апошні час найбольш плённа працавалі паэт Васіль Супрун, які выдаў кнігі "Крык", "Рэха абуджаных дзён", кнігу нарысаў "За смугою часу", а таксама гродзенскія крытыкі (кнігі А. Петрушкевіч "Іду па слядах" і А. Пяткевіча "Літаратурная Гродзеншчына"), добра пачалі і маладыя літаратары (Ю. Гумянюк, С. Астраўцоў і іншыя). Публікацыі Бічэль, Палубяткі, Чобата, Пацюпы былі адзначаны як лепшыя публіцыстычныя работы ў перыядычных літаратурных выданнях Беларусі.

Нейкі час выходзіў літаратурна-гістарычны часопіс "Свіцязь". Цяпер выходзіць часопіс "вольных літаратараў" "Калосьсе", былі выдадзены некалькі калектыўных зборнікаў маладых літаратараў і выкладчыкаў мясцовага універсітэта, а таксама альманахі ў Слоніме і Мастах. Да 80-годдзя смерці М. Багдановіча выйшла кніга "Ты не самотны" ў Гродзенскім музеі паэта.

Няма таго, што раней было, але праходзілі літаратурныя сустрэчы з аматарамі прыгожага слова ў Гродне, Лідзе, Слоніме, Мастах і інш. Гэтаксама выступалі гродзенцы і на розных літаратурных і навуковых канферэнцыях у Беларусі і за мяжой.

Сход разгледзеў і арганізацыйнае пытанне. На наступны тэрмін старшынёй абласнога аддзялення абрана Д. Бічэль.

## Памяці Каліноўскага

У Гродне ў зале гарадскога Дома культуры прайшла вечарына памяці Кастуся Каліноўскага, у якой прыняло ўдзел каля двухсот чалавек. Са словам пра аднаго з бацькоў сучаснай беларускай нацыі выступіў журналіст Д. Кісель. Кожны, апярэдзіўшы свой час, заўжды бывае забыты і вяртаецца пазней — і як жа ж інакай, калі ты апярэдзіў час, то сучаснікі цябе проста не разумеюць. Але важна, каб пры вяртанні чалавека з нябыту, не прыпісвалі яму таго, чаго не было і не выкідвалі таго, што было. Зразумела, што гістарычны міф заўсёды мацней за гістарычныя факты, і таму ў кожнага сваё ўяўленне пра Каліноўскага, але таму і не патрэбныя бясконцыя спрэчкі і доказы. Патрэбна памяць. Чужых не пераканаеш, а сваіх і пераконваць не трэба.

Са сваімі песнямі на вечарыне выступілі вядомыя барды Віктар Шалкевіч і Андрэй Мельнікаў. Прыемна, што дэбютаваў малады бард Валера Жамойцін — пажадаем яму плённай працы. Хлопцы выканалі вядомыя свае творы на тэму паўстання 1863 года, а Шалкевіч прадставіў таксама адну з песняў са сваёй новай касеты, якую спадзяёмся ў недалёкім часе набыць і паслухаць.

**Алесь ЧОБАТ**

*ВІЦЕБСК...*

## Запрашэнне ў Тэгеран

Нягледзячы на палітычнае напружанне на Бліжнім Усходзе, Беларускі тэатр "Лялька", што ў Віцебску, з задавальненнем прыняў запрашэнне з Тэгерана паўдзельнічаць у VII Міжнародным фестывалі тэатраў лялек, які адбудзецца ў верасні бягучага года. Мастацкі кіраўнік "Лялькі" Віктар Клімчук атрымаў яшчэ і запрашэнне на стажыроўку ў Японію. Паездка ў краіну Узыходзячага Сонца стала рэальнай пасля таго, як спектакль тэатра "Чароўная зброя Кэн-Дзо" атрымаў прэмію Юхімуры.

## У чаканні прэм'еры

У нядзелю, 22 лютага, на сцэне Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Якуба Коласа адбудзецца прэм'ера чарадзейнай казкі "Кацігарошак". Аўтар і пастаноўшчык казкі Валерый Маслюк хацеў распавесці знаёмую па беларускіх народных казках гісторыю так, каб яна запомнілася самым маленькім.

Ролі Кацігарошка выконваюць маладыя акцёры Святаслаў Мядзведзеў і Святаслаў Астрамовіч. У спектаклі заняты народныя артысты Беларусі Тадэвуш Кокштыс, Леанід Трушко.

**Святлана ГУК**

*БРЭСТ...*

## І нацюрморты, і пейзажы

У вядомай у горадзе прыватнай мастацкай галерэі (БелАрт), якой кіруе Людміла Крапіўная, — чарговая выстава. На гэты раз прадстаўлена экспазіцыя маладога берасцейскага мастака Уладзіміра Ківачука.

Гэтае прозвішча яшчэ, як кажуць, не на слыху. Уладзіміру толькі дваццаць гадоў. У 1995-ым ён скончыў знакамітую ў Брэсце сярэднюю школу N 10 з архітэктурна-мастацкім ухілам, дзе, дарэчы, на выдатна абараніў дыпломную працу "Разьба па дрэве". У тым жа годзе Уладзімір паступіў у Брэсцкі дзяржаўны педагагічны універсітэт на факультэт выяўленчага мастацтва і мастацкіх промыслаў. Зараз ён студэнт трэцяга курса. А першая яго персанальная выстава адбылася менавіта на універсітэцкім мінулым годзе.

На гэтай выставе прадстаўлена больш за трыццаць твораў маладога мастака. Асаблівую ўвагу прыцягваюць графічныя нацюрморты "Геаметрычныя целы", выкананыя алоўкам. Спецыялісты таксама адзначаюць так званыя акварэльныя пейзажы.

Асаблівасць гэтай выставы і ў тым, што яна носіць дабрачынны характар. Летась паміж "БелАртам" і Брэсцкім дзяржаўным педагагічным універсітэтам падпісана дамова аб супрацоўніцтве ў галіне эстэтычнага выхавання студэнтаў. У мастацкай галерэі ім не толькі рэгулярна чытаюць лекцыі, а яшчэ і прадстаўлена цудоўная магчымасць (таксама бясплатна) выстаўляць свае карціны. Што, дарэчы, і зрабіў Уладзімір Ківачук.

**Іван НАЛІБОЦКІ**

*МАГІЛЁЎ...*

## Завітаў у госці Рэрых

У гарадской выставачнай зале Саюза мастакоў працягвае сваю работу экспазіцыя камп'ютэрных копій работ Мікалая Канстанцінавіча Рэрыха. Прывезена яна Беларускім фондам Рэрыхаў і Самарскім цэнтрам "Агні". На экспазіцыі прадстаўлена 85 копій карцін, арыгіналы якіх знаходзяцца ў ЗША.

**Аляксандр ПЯТРОЎ**

*ГОМЕЛЬ...*

## Выступаюць "Валачобнікі"

У межах дабрачыннай акцыі "Майстры мастацтва працаўнікам вёскі" фальклорны вакальна-харэаграфічны ансамбль "Валачобнікі" Беларускага універсітэта культуры выступіў 17—18 лютага ў чарнобыльскай зоне перад жыхарамі Чачэрскага і Веткаўскага раёнаў Гомельшчыны.

З 19 па 21 лютага "Валачобнікі" бяруць удзел у IV рэспубліканскім фестывалі "Пеўчая акадэмія", які пройдзе ў Гомельскім каледжы мастацтваў імя Н. Сакалоўскага.

**Ларыса ДОЎНАР**

## ЛіМ ЧАСАПІС

### Пётр Машэраў: старонкі жыцця

**Выдавецтва "Юнацтва" напярэдадні 80-годдзя з дня нараджэння былога першага сакратара ЦК КПБ, вядомага дзяржаўнага дзеяча, Героя Савецкага Саюза і Героя Сацыялістычнай Працы Пятра Міронавіча Машэрава выпусціла дакументальна-публіцыстычную аповесць "Пётр Машэраў. Жыццё. Лёс. Памяць", аўтарам якой з'яўляецца Славамір Антановіч. Гэта не першы яго зварот да лёсу П. Машэрава. Аднак новая кніга С. Антановіча, у параўнанні з першым выданнем, дапоўнена і дапрацавана. У прыватнасці, у яе ўвайшлі раздзелы, што расказваюць пра К. Мазурава, Ц. Кісялёва, удаву Пятра Міронавіча П. Машэраву... Кніга багата ілюстравана, змешчаны ў ёй і здымкі, што публікуюцца ўпершыню.**

### Дзе вы, юнкоры?

**Дзяржаўныя камітэты Рэспублікі Беларусь па друку і па справах моладзі, Цэнтральны камітэт Беларускага саюза моладзі і піянерскай арганізацыі, рэдакцыі газет "Переходной возраст" і "Народнай газеты" праводзяць 1 Міжнародны фестываль дзіцячай і юнацкай прэсы. Да ўдзелу ў ім запрашаюцца юныя карэспандэнты ва ўзросце 13—18 гадоў, якія павінны падаць заяўку ў адвольнай форме, а таксама выканаць творчае заданне — зрабіць свайго роду спецвыпуск газеты на некалькіх машынапісных, альбо камп'ютэрных старонках фармату А-4, якая б сваім зместам закранала тэму: "Жыццё — гэта..." Будзе прымацца пад увагу арыгінальнасць падачы матэрыялу, выкарыстанне ілюстрацый. Заяўкі для ўдзелу ў конкурсе прымаюцца да 10 сакавіка па адрасе: 220030, Мінск, вул. К. Маркса, 40, рэдакцыя газеты "Переходной возраст", з паметкай "На фестываль".**

### "Кругазварот"



**Выстава майстроў народнай творчасці "Кругазварот" адкрылася ў Браславе. Тут можна ўбачыць калядныя маскі з саломы, распісныя велікодныя яйкі, вясельны пірог і саламяных птушак, разнастайныя ручнікі і паясы, абразы — жывапісныя і вышытыя, работы разчыкаў па дрэве і керамістаў, ткачых і майстроў лазаплядення.**

*На здымку: на выставе "Кругазварот" у Браславе.*

*Фота Яўгена КАЗЮЛІ, БЕЛТА*

### Міцкевіч і свет

**Розныя аспекты творчасці Адама Міцкевіча, яго ўплыву на развіццё іншых літаратур будуць у цэнтры ўвагі ўдзельнікаў Міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі "Асоба і творчасць Адама Міцкевіча ў кантэксце сусветнай літаратуры", якая 11-12 сакавіка пройдзе ў пагранічным Брэсце. Ініцыятарам правядзення яе выступілі Брэсцкі абласны выканаўчы камітэт, Брэсцкі дзяржаўны універсітэт і фонд Напалеона Орды. На Брэстчыне, як і па ўсёй Беларусі, запланаваны і шэраг іншых мерапрыемстваў, прысвечаных 200-годдзю з дня нараджэння А. Міцкевіча. Што да гэтай канферэнцыі, дык мяркуецца, што яе матэрыялы будуць выдадзены, а таксама кола ўдзельнікаў гаворкі пашырыцца.**

### Адбудзецца прэм'ера

**Замест заяўленай на 25 лютага а 18 гадзіне прэзентацыі аднатомніка "Уладзімір Жылка. Выбраныя творы", падрыхтаванага ў выдавецтве "Беларускі кнігазбор" і выхад якога затрымліваецца па тэхнічных прычынах, адбудзецца прэм'ера кнігі, што пабачыла свет у гэтай кнігазбораўскай серыі — "Беларускія летапісы і хронікі".**

МЕРКАВАННЕ

# Мы, беларусы, з братняю Руссю...

"Чалавеку ўласціва пастаяннае чаканне шчасця", — пісаў у свой час В. Гюго.

Колькі доўжыцца жыццё кожнага з нас, столькі нам жадаюць шчасця — родныя, сябры, знаёмыя. Ды і ў кожнага асабістыя спадзеўкі на яго, кожнаму хочацца хаця б невялікі яго кавалачак. Але лёс, насуперак усяму, дазіруе яго кожнаму чалавеку пасвойму. Аднаму дасць больш, другому — менш, а хтосьці адмахае свае гады, так і не паспрабаваўшы таго шчасця хоць бы на зуб.

Як у чалавека, так і ў народаў, краін, дзяржаў — свае лёсы, свае надзеі на шчасце. У нас, беларусаў, гістарычна, з пакалення ў пакаленне шчасце так і застаецца надзеяй. Якую старонку нашага летапісання ні адгорнеш, дзе ні пачытаеш, — усюды адно і тое ж: у вірлівым тагачасным жыцці нашы продкі не змаглі злавіць птушку шчасця. Ды, відаць, і нам не суджана патрапіць у тую вясну, якая б змяніла нешта да лепшага, падаравала асалоду і паставіла кропку на нашым пакутным жыцці. Раз і назаўсёды. Каб адвечныя надзеі нашых прадзедаў, дзядоў і бацькоў хоць у нечым збыліся, каб калі не нам, дык хоць бы дзецям, унукам нашым крыху пашчасціла.

З якога боку ні падыходжу да гэтых адвечных пытанняў у пошуку адказаў, абавязкова лаўлю сябе на думцы, што ўся бяда была і застаецца ў нашым няўменні ці нежаданні абараняць сваю ўласную адметнасць. А лепш — годнасць. Доўжыцца гэта з сівой даўніны. Нам заўсёды не хапала грамадскай арганізаванасці, у выніку чаго мы заўсёды жылі з прадчуваннем трывогі за ўласнае існаванне. Трагічнасць лёсу нашага народа не толькі ў колькасці ахвяр на гістарычным шляху, а і ў забыцці сваёй культуры, мовы, гісторыі. Нацыянальны нігілізм, на няшчасце наша, дайшоў да таго, што сёння большасць з нас і сваю мову, і сваю нацыянальную культуру і гісторыю ведае на ўзроўні ведаў пра нас суседзяў.

І ўсё гэта — не вынік ляноты, а хутчэй — трагічных абставін, у якіх спадзеў быў толькі на ўнутранае самаразвіццё. На гэтым усё і трымалася доўгія-доўгія гады. А яшчэ — на той сацыяльна актыўнай частцы нашых людзей, якія глыбока разумелі вартаснасць і неабходнасць захавання ўсяго нацыянальнага.

Наша адраджэнне набыло ў пэўнай меры рэальныя рысы на кароткім, на жаль, этапе дэмакратызацыі грамадскага жыцця падчас так званай перабудовы. Падалося нават, нібы мы, беларусы, сапраўды памкнуліся даведацца пра сябе ўсё. Духоўнае зерне нацыянальнага адраджэння, што столькі часу безжыццёва ляжала ў здранцвенні, нарэшце ўзышло, нават зарунела, загаварыла роднай мовай, зразумелай на ўсіх абшарах краю, на ўсіх узроўнях — аж да самага высокага дзяржаўнага, дзе нават справаводства пачынала весціся на беларускай мове. З прыняццем Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Рэспублікі Беларусь пачало фарміравацца адпаведнае прававое поле, заклікане вярнуць да жыцця ўсё нашае — і мову, і культуру, зацвердзіць сапраўды нацыянальны, сапраўды дзяржаўны лад жыцця, узаконіць станаўленне і рэгуляванне новых грамадскіх адносін, правоў, свабод і законных інтарэсаў грамадзян. Усё гэта адкрывала надзейныя перспектывы працэсам нацыянальнага адраджэння.

Прыгадаем. На пачатку 1992 года была прынята Пастанова Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь "Аб беларускай мове ў дзяржаўных сродках масавай інфармацыі Рэспублікі Беларусь". Названым дакументам прадугледжвалася забяспечыць прыярытэтныя ўмовы выданням перыёдыкі, літаратуры і іншай друкаванай прадукцыі на беларускай мове. Была прынята і адпаведная Дзяржаўная праграма развіцця беларускай мовы. Нацыянальна-культурная аснова была рэгулюючай у механізмах адукацыі, дзейнасці дзяржаўных і недзяржаўных адукацыйных устаноў. Фарміраванне і ўмацаванне нацыянальнай свядомасці грамадзяніна нашай рэспублікі мелася ажыццяўляцца на аснове культурных традыцый і каштоўнасцей беларускага народа, а беларуская мова была вызначана асноўнай мовай выхавання і навучання ў дзіцячых дашкольных і навучальных установах. У гэтым сэнсе вартаснымі былі і прынятыя тады законы "Аб ахове гісторыка-культурнай спадчыны", "Аб культуры ў Рэспубліцы Беларусь" і некаторыя іншыя.

Але, як кажуць, нядоўга музыка іграла: рух гэты на Беларусі як раптоўна пачаўся, так і нечакана стаў траціць размах, змест і рэальнае аблічча.

У барацьбе за ўладу губляліся разважлівасць і здаровы сэнс, ажно да злоўжываннаў свабодай і дэмакратыяй, спекуляцый суверэнітэтам і нацыянальным адраджэннем. Важнейшая праблема павышэння нацыянальнай самасвядомасці, стварэння ўмоў для адраджэння і развіцця нацыянальнай культуры, традыцый і звычаяў стала пацясняцца штучна, а то і наўмысна створанымі праблемамі эканамічнага і палітычнага характару. На гэтай хвалі імкліва разрасталася спароджаная новымі ўладамі служба хлусні і падману, адурманьвання нашых людзей. Аглушальныя залпы афіцыйнай хлусні глушылі сапраўдную сутнасць і рэальнасць таго, што адбывалася. Усё гэта служыла ганебнай мэце — дарэшты пазбавіць нашых людзей пачуцця ўласнага гонару. І хутка стала зразумелым, што перабудовачны выбар стаў толькі першым крокам на цярністым шляху нашага нацыянальнага адраджэння. Далей на гэтым этапе гісторыі справа не пайшла. Чаму? Бо сам рух, чарнавая работа ў гэтым накірунку аказаліся цяжкімі, непасільнымі, а, хутчэй, і неспазнанымі большасцю грамадзян у сэнсе сваёй значнасці і вартаснасці ў агульнанацыянальным значэнні. Памкненні нешматлікіх рухаў і груповак супрацьстаяць разбуральнаму націску закончыліся, як сведчаць факты, амаль поўнай іх дыскрэдытацыяй, а лідэры, нацыянальныя патрыёты і абаронцы дэмакратыі былі ператвораны ў ворагаў Беларусі, у нацыянал-экстрэмістаў і нават нацыянал-фашыстаў.

Зацюканы, збіты з толку люд і на гэты раз выявіў сваю абыякавасць да таго, якім будзе яго далейшы лёс. Ён галасаваў за таго, на каго яму ўказвала мясцовая ўлада — такая ж збітая з толку і запалоханая ўладай вышэйшага ўзроўню. Пакінутыя на выжыванне людзі змагліся ў рознага роду рэферэндумах, выбарах і перавыбарах, сталіся звычайнымі вінцікамі ў вялікіх палітычных гульнях. Аб пэўнай грамадзянскай пазіцыі большасці нашых людзей гаварыць не даводзілася і, на жаль, не даводзіцца і цяпер. Паслушэнства, падпарадкаванасць і пакорлівасць змушалі і змушаюць іх наступаць на граблі, якія яшчэ раз стукнулі іх па лобе. Апамятацца ад гэтага давялося толькі тады, калі аказаліся ў абдымках усё таго ж даўняга і "моцнага" ўсходняга суседа. Прытым, на ўмовах, што мову суседа вымушаны былі прыняць як яшчэ адну сваю — нібы сваёй замала. Што зробіш — такое "волевыяўленне" нашага народа. Ці то не хоча, ці то не ўмее ён жыць самастойна, пад сцягам сваёй дзяржаўнасці, свайго суверэнітэту, да якога столькі гадоў ішоў у пакутах.

Застаецца жадаць, каб шчасціла ў тых абдымках усім нам, ды толькі гэта занадта сумніўна і наогул — мала перспектыўна. Прайшоўшы год беларуска-расійскага саюзніцтва засведчыў толькі поўную яго недаяздольнасць, сімвалічную ўмоўнасць аб'яднання — як, дарэчы, той жа самай Садружнасці Незалежных Дзяржаў ці так званага Саюза чатырох. Дзяржаўныя архівы поўняцца рознага роду пагадненнямі, дагаворамі 2—3—4 бакоў, а сапраўдных узаемакарысных і зацікаўленых адносін як не было, так і няма. У адной дзяржаве раздзяржаўлена і прыватызавана ледзь не ўсё, у другой — усялякім чынам стрымліваюцца гэтыя працэсы... Не канвертуюцца расійскія рублі з беларускімі разліковымі білетамі, неадпаведнасці ў заканадаўстве дзяржаў ляжаць папярок дарогі — не абысці іх і не аб'ехаць.

Усё гэта прывяло да таго, што пра так званыя цывілізаваныя адносіны дзяржаў і народаў-суседзяў застаецца толькі марыць. Партнёрскія гаспадарчыя сувязі бакоў-вытворцаў спаўзлі да таварнага абмену, а само партнёрства — нетрывалае і спантаннае: то яно ёсць, то яго няма. Знешне — нібы не ворагі, але ўнутрана — ужо і не сябры. Нешта накшталт "так сабе". Адно чаўночны рынак мацуе пакуль расійска-беларускі саюз.

Асэнсоўваеш усё гэта, і самі па сабе згадваюцца словы А. Твардоўскага: "до чего же вы, ребята, удивительный народ". Толькі замест "вы" хочацца паставіць "мы". Дзіўны ў сэнсе бяспамяцтва. Колькі такіх урокаў паднесла жыццё, але яны так і не засвоены намі дасюль.

Дзіўны і ў сэнсе спасціжэння сябе, у сэнсе нацыянальнага гонару, нацыянальнай прыстойнасці, самавыражэння і самасцвярджэння. Урэшце — прызнання ў свеце. Нас жа гэтак мала ведаюць там — як дзяржаву, як народ. А калі і ведаюць, дык, часцей, па нечым негатыўным. А нам — хоць бы хны. Ну і няхай, нам і гэтак добра. Жывём кепска? Ну і што, хіба продкі лепш жылі?

Галоўнае — ёсць чым прыкрыцца для супакаення.

Нашы спасылкі скіраваны не ў лепшую будучыню, а ў сівую мінуўшчыну, ад чаго нам, здаецца, ніколі не адарвацца.

Збіраем па свеце недаезджаныя машыны, аўтобусы — і тым задаволеныя.

Каторы год займаемся грамадскім і дзяржаўным пераўладкаваннем, а да чаго прыбіліся — так і нельга вызначыць. Хіба што адно ўвачавідкі: бядотнасць на мяжы выжывання большасці нашых людзей, эканамічны і фінансавы крызіс, бяспраўе і сацыяльная неабароненасць, падман і хлусня дзяржаўнага ўзроўню.

З такой атрыбутыкай у цывілізаваны свет дарогі няма. І як бы ні высільваліся цяперашнія нашы ўлады зрабіць туды прарыў, гэта не вельмі ім удаецца.

...Кожную раніцу прачынаюцца браткі-беларусы пад меладычныя акорды дзяржаўнага гімна камуністычнай эпохі, а затым дружна крочаць па шляху перамог, бітваў за волю і долю. Шлях гэты, на жаль, не даходзіць да скрыжаванняў сусветнай цывілізацыі. Еўрапейскія бальшакі — не для нас. Добра хоць, што ёсць прасёлкавыя дарогі ды ўзбочыны...

**Аркадзь КАРОТКІ**

*г. Мінск*



*Фота Г. Жынкова*

# Голас нямых каменняў

## СТАРОНКІ З НОВАЙ КНІЖКІ

Вячаслаў АДАМЧЫК

З'ЕЗДЗІЎ У КНІГАРНЮ падпісных выданняў — і ні слова не зляцела з маіх вуснаў. Прастаяў у людным тралейбусе, як у маўклівай малітве перад абразом, толькі не ўкленчыўшы. Як многа значыць маўчанне, асабліва мне. Бо загаворыш — і пачуеш у адказ злабу і непісьменнае слова, якое цяпер чамусьці выдаецца за беларускае.

Дзякуй Богу, не наткнуўся на вастрыё непрыязі і не параніў душу.

Уцякаю цяпер і з вялікамоўных сходаў, што звяліся да заплесненых і збросненых зваротаў. Глядзіш на зжоўклыя і хворыя твары састарэлых маладзіц, што з'яўляюцца перад мікрафонамі, каб засведчыць сябе і чарговы фонд, паслухаеш зварот трох Ганнаў да мацярок і сясцёр і, утуліўшы плечы, знікаеш з абрыдлай гавэнды. Ад усяго пачутага штосьці нядобрыцца на душы. А наўкруга так многа разумных людзей... Чаму да мікрафонаў і на экраны тэлевізараў так напорыста і самааддана лезе ўсё нікчэмнае і нахабнае?

Ідучы дарогаю вялікіх, торыш і сваю сцежку, збіваючыся з іхняе дарогі. З мноства "Фрагментаў" Геракліта сфармавалася свая адзінка (экпіроза):

Піраміды маўчаць, выклікаючы ў нас адчуванне даўнасці, а фрагменты Геракліта гавораць з намі, набліжаючы даўнасць ці ператвараючы яе ў сучаснасць.

Паўтарыць чужое жыццё ў сваім жыцці нельга, а розум можна: даказаць, напрыклад, тую ж тэарэму, што даводзіў Піфагор.

"Усё кружыцца і змяняецца ў гульні века", — заўважылі раннія грэцкія філосафы. У нас жа ўсё змарнавалася ў пустой, нікчэмнай балбатні і ліхаманкавай трасучцы. Усё нібы перайшло ў хваробу святога Віта.

Але і мне трэба ўціхамірыць свой гнеў, бо, як разумна гаварыў Арыстоцель, хто замахнецца на тыранаў, ахоплены гневам, той не ашчаджае сябе.

Адна са шкодных звычак: у п'яніцы — дапіць бутэльку, у мяне — дачытаць кніжку.

Сёння да паўночы — мемуары Гендэрсона, ангельскага пасла, "Берлін 1937—1939". Ужо знаёмы і стэрэатыпны Гітлер: не курыць, не п'е, не ўжывае мяса. Не пераносіць апазіцыю. Прыкметная рыса характару — помста. Віла "Арлінае гняздо". Найпершы адпачынак — у гроне маладых і эфектных кабет. На карычневым мундзіры — адзін ордэн: жалезны крыж другога класа.

Як дыяметральная супрацьлегласць — Герман Герынг. Найсімпатычнейшы, як прызнаецца Гендэрсон, з гітлераўскага атачэння. Знакаміты паляўнічы, асабліва на аленяў. Грудзіна ў ордэнах. Найдарожшы і хвалёны з іх — Croix pour la Merite з першае сусветнае вайны, што дастаўся яму, як баявітаму лётчыку. Ганарыцца сабою, маршалам і стваральнікам Luftwaffe (лётных сілаў): "Калі я націсну гузік, то пташкі мусяць хадзіць пеша". Дачка ад другога шлюбу — Эдда любіць забаўляцца з ільвяняткамі. Пасля дзесяці месяцаў маршал аддае іх у звярынец. Вядома, у найлепшую клетку.

Пасад не злічыць: міністр лясоў і вялікі паляўнічы рэйха, дырэктар оперы, прэм'ер Прусаў, міністр гаспадаркі і камісар чатырохгадовага плана. Не лепшы, як казалі праціўнікі і зайздроснікі, чым астатняя рэшта.

Чытаеш і ажно сцінаешся ад неновага адкрыцця: як знаёма і як паўтараецца ўсё. А Геракліт сцвярджаў: усё цячэ, усё змяняецца. У раку нельга ўвайсці двойчы. Аднак уваходзяць. Калі не ўваходзяць, то пераступаюць. А колькі ж нашыя сённяшнія невядомыя і непрызнаныя маюць пасад? Ён і прэзідэнт якога-небудзь фонду, ён і рэдактар якога-небудзь часопіса, і адначасна — прэзас якой-небудзь управы.

Хоць вазьмі той крыж pour la Merite і павесь яму на грудзіну за бясстрашны палёт над зіхатлівымі вяршынямі разнастайных пасад.

Талстой, каб не злавілі яго ў прытворстве, усё хаваецца за Бога.

Чамусьці людзі імкнуцца захаваць тое, што гіне. Гэта заўважыў Лукрэцый. А найстрашней і, мусіць, найпраўдзівей у Гарацыя: лічы кожны дзень астатнім.

Гэта — бясспрэчна так. І так безнадзейна, як перад слізкім скальным абрывам. Стаіш, ногі пад'язджаюць і няма за што ўхапіцца.

Шкодным бывае не толькі чалавек, але і яго вялікасць народ, і цэлая дзяржава. У Нямеччыне існавала расавая тэорыя, у якую ж, напэўна, верылі не толькі Ніцшэ і Гебельс. У Японіі — сінтаісцкая рэлігія, якая абвяшчала боскасць імператара і змушала верыць, што місія японскага народа — правіць светам. Беларусам даводзяць, што яны — ціхмяны, пакорны народ. І яго вялікасць беларус, сарамяжа згінаючы галаву, маўкліва згаджаецца.

У "Начной варце" Банавентура ці Шэлінга на адвароце вокладкі знайшоў сваё, перайначанае, напэўна, з чужога: "Хто любіць, той патрабуе платы за гэта. Хто ненавідзіць — ненавідзіць задарма. Нават ахвяруючы сабою, як Грынявіцкі, ідучы з бомбою на недабітага цара".

Дзённікі Максіма Танка — гэта рэпартаж з камуністычнай адозвай на шыі.

Я таксама, як нехта са старажытных, знемагаючы ад смагі, выпіваю плыценькую раку свайго дзяцінства. Як мала ў ёй засталося жывучай вады! Усё бліжэй і бліжэй да ружаватага жвірыстага дна.

Жыццё вымяраецца не велічынёю пражытых гадоў, а велічынёю зробленага.

Успомніліся нашы пісьменнікі, даволі паважаныя мною людзі — Ян Скрыган і Васіль Вітка, якія па гадах перажылі Льва Талстога, а выдае, што памерлі нашмат маладзейшымі за яго, нават равеснікамі Івана Мележа. Што значыць мець на сваім рахунку "Вайну і мір". Ці хоць бы "Людзей на балоце".

Ніхто так не раскажа альбо не напіша пра смерць дзіцяці, як родная маці.

Чытаючы ўспаміны Соні Талстой пра астатнія дні яе найлюбшага сына, сямігадовага Ванечкі, прыгадваю сваю маці — яе жальбу і гараванне пра неспадзяваную смерць нашае Гені, яе трохгадовае дачкі, якая таксама прадгадвала сваю смерць, калі ў яе спыталі ўжо з астатняю прытоенаю надзеяй: "Памрэш, Геня?". "Памру", — адказала, каб пакінуць у матчыных вачах пякучую слязу на ўсё астатняе жыццё.

Вядомае народнае "як пераначуем, болей пачуем", для мяне ўжо чытаецца: "як пераначуем, з болем пачуем".

Ніколі ж, вядома, і не падумалася б, што нізенькая, басаногая (толькі растане снег, а яна першаю, як напаказ, басака ідзе ў мястэчка) і непрыкметная з выгляду Харыста мае аднакавае імя з грэцкаю багіняю ўдзячнасці. Яна сама, непісьменная жанчына, напэўна ж не знала пра гэта. Але ці ведаў гэта поп з Нававельнянскае царквы, што беларускае, тады распаўсюджанае жаночае імя Харыся перайначыў на грэцкае Харыста, каб запісаць яго ў метрычную кніжку?

У рымлянаў імя гэтае багіні гучыць яшчэ прыгажэй — Грацыя.

А мне трэба ж было разгарнуць "Іліяду", каб з далёкай і глыбіннай, як акіян, эпохі Гамера ўбачыць сваю, хоць і плыценькую раку ўжо аддаленага дзяцінства.

Рыцарскі гонар, шляхетнае слова — якое ж усё далёкае і незразумелае для сённяшніх саракагадовых, што сядзяць у мяккіх міністэрскіх фатэлях.

Цагляны ружовы Пергамон — трохпавярховы замак-катэдж з бясконцымі лоджыямі і байніцамі ды дзяржаўны мерсэдэс — усяго і гонару. Мужыкаватага, пэўна ж.

Мільгае ў гарадскім двары трапяткі, залацісты матыль. За акном пры адкрытай фортцы ашалела гудзе чорны чмель. Складаюцца вершы:

*Я жменю жытнюю бяру,*
*Каб сеяць зноў пад поўню,*
*Каб уваскрэсла Беларусь*
*З сваёю доляй поўнай.*
*Я жменю горкую бяру...*

МАЛАДЫМ:

*Ты, разумеючы, — не прымаеш.*
*Я ж, разумеючы, — абдымаю.*
*Не разумеючы, ты абдымаеш,*
*Я ж, разумеючы, — прымаю.*

Век жыві, век пішы — і век пакутуй. У выдавецтве, як і ў памятныя гады застою, на выданне маіх кніг зноў узвалілі магільны камень.

Толькі і паўторыш калісьці пачутае з амбона: цярпі, душа — будзеш збаўлена. Але калі ж прыйдзе збавенне?



Гэта не пра нас, а пра немцаў: "У бяды шмат відаў. Большасць па-сапраўднаму адчувае толькі сваю ўласную... Многія людзі не хочуць па-сапраўднаму думаць. Яны шукаюць лозунгаў і пакорнасці". І сказана паўвека назад, а нібы сёння і пра нас, пра беларусаў. На стале — філосаф-экзістэнцыяліст Карл Яспэрс, а за акном — вал з валам водаварот сівых хмар, шуганне парыўнага ветру і шапаценне нуднага дажджу.

Напэўна ж, не ўяўлялі яны двое, верхаводы двух магутных процілеглых імперыяў — Рыбентроп і Молатаў, падпісваючы пакт аб неагрэсіі, а на самай справе пакт аб падзеле свету і атрыманні права, якое вядзе да pecca fortiter (грашы ваўсю), што кожная віна на зямлі помсціць за сябе, як сказаў Гётэ. Быў Нюрнберг. На лаву падсудных быў па сутнасці пасаджаны ўжо скораны і зганьбаваны нямецкі народ. Але ж чаму судзілі і каралі толькі аднаго Рыбентропа? А не саўдзельніка іхняе агульнае справы Молатава? Чаму ж ён мінуў заслужанага пакарання?

Пераможцаў, вядома, не судзяць. Якое ж нарэшце існуе страшнае антычалавечае і антымаральнае права на разбой?

У цыкле сваіх лекцый на гэта намагаецца адказаць выбітны нямецкі філосаф Карл Яспэрс. Пытанне вінаватасці — вось што трывожыла нямецкую інтэлігенцыю ў дні Нюрнберга. Для адных, як кажа Яспэрс, 1945 год быў годам вызвалення і новых магчымасцяў, для іншых гэта былі самыя трудныя дні, таму што прыйшоў канец мніма нацыянальнай імперыі.

Нямеччына перажыла, як цвердзіць той жа Карл Яспэрс, адзінства цераз прымусовасць, і яно, як здань, рассыпалася пры катастрофе. Іншыя ж дзяржавы, як, напрыклад, СССР, толькі ўзмацнялі гэтае прымусовае адзінства і пашыралі межы мніма нацыянальнай імперыі. Катастрофа не ўгадвалася нават далёка наперадзе.

З-за шчарбатай грады лесу, як сівы дым ад несусветнага пажару, усплываюць цяжкія клубкі даджавых хмар. Коцяцца на рудое поле, на зялёныя адзінокія дубы, на густа прытулены бярэзнік, на дачныя рознакалёрныя дамы з аднакава цёмна-хвалістымі шыфернымі дахамі, акружаныя нізкімі маладымі садамі з цацачнай чырванню налітых яблыкаў. Нудны холад і азыраватасць. І невыразныя, замглёныя ўспаміны чагосьці няпэўнага і таксама невыразнага. Чытанне старых, адкапаных за пазухаю на гарышчы нумароў "Нового мира", а ў іх: "Старонкі ненапісаных кніжак" Я. Дораша і "З выпадку юбілею" А. Твардоўскага — шматслоўны, як з дыстанцыі часу, зусім прасавецкі артыкул у стыле перадавіцы бальшавіцкай "Правды". А некалі ж усё гэта лічылася смеласцю, грамадзянскай непадступнасцю з доляй прагрэсіўных поглядаў.

Святы Божа, як час нелітасціва перайначвае і адсейвае ўсё, што пісалася з аглядкаю на афіцыёз, на ўлады, з фальшам, хоць і змушаным.

У дзённіках Дораша нямала левітанаўскіх, акварэльных мазкоў прыроды, увабранай у ліловы, жоўты і бардовы восеньскі колер.

Маскоўскае тэлебачанне толькі што паведаміла: у Душанбе і ў Мінску выбухнулі ўзрывы.

Прынёс і паставіў на свой стол старэнькі VEF-205. "Голас Амерыкі" пацвердзіў навіну з маскоўскага тэлебачання...

У вечаровым прыцемку сядзеў пры стале пад яблыняю (з травы свяціліся апады-яблыкі) і прыгадваў бацьку, яго словы, якія чуў незадоўга да яго ж смерці: "Во ніхто і не пакліча: "Ладзімер, ідзі вячэраць!". Няма Броні, няма і каму паклікаць". І раптам выблісну ў Міцкевіч, яго санет "Акерманскія стэпы", апошнія радкі: "Ніхто не кліча. Едзем!"

Якая еднасць, якое трагічна вялікае супадзенне паэзіі і самотнага жыцця на схіле веку.

Альбер Камю адчуваў сваю блізкую смерць, таму быў такі катэгарычна і разумна разважлівы. Гэтакім здаўся мне і мой малодшы брат Ян за два тыдні да скону. "Яны ж — жонка з цешчаю — ці перазімуюць дзве каровы? Я ўжо сена не ўкашу. Калі жывы буду, то дай, Божа, дагледзець адну. І мне таксама паверылася, што ён выжыве.

Старажытная кітайская прымаўка кажа: "Калі дамогуцца ўлады, забываюць пра даўніх сяброў. Калі разбагацеюць, мяняюць жонку".

Як заўважаецца і бачыцца сёння, дайшоўшы да пасады, пачынаюць выдаваць уласныя, раней забракаваныя раманы і сядзець перад тэлекамерай, вяшчаючы дапатопныя ісціны.

У дзённікавых запісах за 1906 год у рускага гісторыка Васіля Ключэўскага ёсць такія радкі: "Местные православные церкви, теперь существующие, суть сделочные полицейско-политические учреждения, цель которых успокоить наивно верующие совести одних и зажать крикливо протестующие рты других".

Цяпер жа нам, хрысціянам-беларусам, не толькі рот, а і дыханне заціскаюць. Але ж і іхняе горла, як сказаў святы Павел у сваім лісце да рымлянаў, ёсць адкрыты гроб.

З узростам жыццё набывае іншы сэнс: яно траціць ясны прамень надзеі і прыглушана чакае цёмнага канца.

"Сціскаюцца, душачы адзін аднаго". Гэта я, зірнуўшы ў выдавецкі план, дзе задушылі выданне маёй кніжкі, прыгадаў Лукрэцыя і яго трактат "Аб прыродзе рэчаў".

Здаецца, усе гадзіннікі адстаюць ад таго часу, які мы стараемся апярэдзіць. Асабліва ў юнацтве. У сталыя гады мы заўважаем, як гадзіннікі апярэджваюць нас. Намагаючыся нагнаць свой час, мы ўжо жахаемся ад страху, што дыстанцыя не скарачаецца, а наадварот — павялічваецца.

Фамільярнае, скарочанае імя генерала, а пазней прэзідэнта Эйзенхаўэра — Айзекс. Нібы імя нашага маларослага Кучара.

Пазіраю на развесістую, ацяжэлую ад ружавата-цытрыновых пладоў маладую яблыню за акном, на рудое поле з лапушыстай палынова-срэбнай капустай і звіслымі, ужо прыгаслымі сланечнікамі.

Над блізкім дубам, трохі зводдаль ад дачных вастрачубых дамкоў, на добрай вышыні кружыць з нязлосным пакрумкваннем немалая зграя чорных, што пабліскваюць на сонцы сівізною, гультаявата-павольных крумкачоў. Першы раз бачу столькі — налічыў ажно дваццаць.

І раптам убачыліся нада мною срэбна-чорныя, пад колер вясновага лёду, раз'юшаныя самалёты. Звяно за звяном. І працяжна-тупы стукат кулямётаў...

Восеньскі смутак і сонная дажджлівая адзінота. За грудком на пясчанай дарозе схавалася чырвоная куртка — на аўтобусны прыпынак пайшоў унук. Нібы адляцеў разам з ластаўкамі ў вырай. Са мною асталася надвячоркавая прыгнечаная цішыня, якую парушае толькі вуркат аўтамабільнага матора ды рып суседніх дзвярэй.

У двары сігналізацыя інамаркі нагадвае мне прарэзлівы голас чорнага дзятла, што ляціць над рачною далінай ад струхлелае алешыны, абструганай ім, да ружовых падсвечнікаў — старавечных хвояў над пясчанай стромай: кві-кві-кві.

*(Працяг на стар. 14 — 15)*

## "Сустрэчы на Замкавай"

**Такую назву атрымалі вечарыны, што праходзяць у Цэнтральнай гарадской бібліятэцы імя Герцэна г. Гомеля. Тут збіраюцца пісьменнікі, мастакі, журналісты, краязнаўцы, каб абмеркаваць новыя творы, праблемы культуры. Чарговая вечарына была прысвечана творчасці гомельскага паэта і празаіка Юрыя Фатнева ў сувязі з яго 60-гадовым юбілеем. Нялёгкі лёс у гэтага чалавека. Галоднае дзяцінства ў гады вайны, цяжкая хвароба. Жыў ён і ў Казахстане, і ў Манголіі, і на Каўказе, і ў Брянску. Але зноў вярнуўся ў Гомель, які для яго заўсёды з'яўляўся родным. У Беларусі, Казахстане, Расіі ён выпусціў дзевяць паэтычных зборнікаў. Ён з'яўляецца аўтарам некалькіх раманаў на гістарычную тэму. Адзін з іх "Кумиры творяху" (аб часе язычніцтва) зараз друкуе часопіс "Палессе", які выдаецца ў Гомелі.**

**А. ШНЫПАРКОЎ**

## У касцёле адраджаецца бібліятэка



**У год Міцкевіча хрысціянскаму таварыству міласэрнасці, што дзейнічае пры касцёле свсв. Сымона і Алены, прыйшла пасылка з польскай духоўнай і свецкай літаратурай — каля 7 тысяч экземпляраў. Гэтыя кнігі стануць пачаткам фонду бібліятэкі імя Адама Міцкевіча, якая будзе адроджана пры Чырвоным касцёле. Бібліятэка імя Міцкевіча была заснавана 90 гадоў таму, але ў 20-я гады яе забралі салдаты Пілсудскага. Цяпер пачался адраджэнне бібліятэкі і папаўненне яе фонду.**

*На здымку: з новымі кнігамі бібліятэкі настаяцель касцёла свсв. Сымона і Алены, ксёндз-магістр Уладзіслаў Завальнюк.*

*Фота Віктара ТАЛОЧКІ, БЕЛТА*

## Прэм'ера летапісаў

**У Інстытуце гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук адбылася прэзентацыя кнігі "Беларускія летапісы і хронікі", выпушчанай напрыканцы мінулага года "Беларускім кнігазборам". Перад прысутнымі выступілі вядомыя навукоўцы і пісьменнікі. Прэзідэнт Міжнароднага фонду "Беларускі кнігазбор" Кастусь Цвірка расказаў пра дзейнасць гэтага грамадскага выдавецтва. Укладальнік тома Уладзімір Арлоў перадаў прывітанне і віншаванне з нагоды выхаду летапісаў ад дырэктара Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў Нью-Йорку доктара Вітаўта Кіпеля. Навуковы рэдактар, аўтар прадмовы Вячаслаў Чамярыцкі ў сваім выступленні парануаў, што паколькі том летапісаў распачаў адрозную ад першай "Мастацкай серыі" новую кнігазбораўскую серыю "Гісторыка-літаратурныя помнікі" — тым самым Кнігазбор "стаў на дзве нагі" і пажадаў яму ўпэўненых крокаў у будучым. Гэта значыць — новых адметных выданняў. Гісторык-археолаг прафесар Г. Штыхаў падкрэсліў ролю айчынных хронік, якія не дазваляюць замоўчваць пэўныя факты нашай шматпакутнай гісторыі, як таго жадалі б некаторыя сучасныя афіцыёзныя "гісторыкі". Вядучым прэзентацыі быў акадэмік А. Падлужны.**

**Ю. ЯНУШ**

***У гэтым годзе спаўняецца 40 гадоў з дня ўтварэння літаратурнага аб'яднання беларускіх пісьменнікаў Беласточчыны "Белавежа". Не ведаю, наколькі юбілей — нагода для шчырай "гарбатнай" размовы, бо юбілей заўсёды прадвызначае "мажорную" афарбоўку выказванняў. Але задума пагаварыць пра беларускую літаратуру суседняй Польшчы, дакладней, часткі Беларусі, што апынулася за нашай заходняй мяжой, узнікла даўно. Ды й наспеў час лімаўскай "гарбатні" пашыраць сваю геаграфію. На сённяшнюю гарбату завіталі прафесар Варшаўскага універсітэта, член Саюза польскіх пісьменнікаў, старшыня "Белавежы" паэт Ян Чыквін, а таксама беларускі філосаф, літаратуразнаўца Уладзімір Конан, крытык і эсэіст Ала Сямёнава, крытык, літаратуразнаўца Міхась Тычына, паэтка, літаратуразнаўца Галіна Тварановіч. Сустракала гасцей, як заўсёды, гаспадыня "гарбатні", рэдактар аддзела крытыкі "ЛіМа" паэтка Людміла Рублеўская. "Юбілейнай" размовы, здаецца, не атрымалася, тэмы ўздымаліся балючыя і сумныя...***

ЗА ГАРБАТАЙ

# Памежжа на адной канапе

**Людміла РУБЛЕЎСКАЯ.** Пра існаванне беластоцкіх беларусаў, беларускамоўнай літаратуры на Беласточчыне, тэрыторыі сучаснай Польшчы, я даведалася ў Маскве, падчас навучання ў Літінстытуце. Памятаю, як была ўражана, як падтрымаў гэты факт маю стыхійную нацыянальную свядомасць. Здавалася, тамтэйшыя беларусы больш сапраўдныя беларусы, чым БССРаўскія, і літаратура, што ствараецца "там", таксама незвычайная, больш еўрапейская, ці што... Цяпер культуру Беласточчыны мы ўспрымаем як дадзенасць, хаця для абсалютнай большасці беларусаў-нефілолагаў "метраполіі" яна па-ранейшаму "Terra inkognita". А на лімаўскіх "гарбатах" Беласточчына згадваецца часта. Як прыклад — урывак з адной размовы:

"— Калі б тут, на Беларусі, было б задушана ўсё беларускае, Беларусь была б на Беласточчыне. Сто дваццаць тысяч беларусаў, што жывуць там, намагаліся б працаваць за неіснуючыя дзесяць мільёнаў.

— Але самі яны думаюць інакш і лічаць, што стваральныя імпульсы ідуць адсюль.

— А я нядаўна прачытала ў беластоцкай "Ніве", што сотні тысяч беларусаў Беласточчыны, якія цікавяцца беларускай культурай, — міф. Іх там не сотні тысяч і навят не дзесяткі, а значна менш. І колькасць гэтая рэзка скарачаецца. І каб не было літаратурнай Беларусі тут — ці была б тая літаратурная Беласточчына?

— Калі б Беларусь знікла, сабраліся б пяць беластоцкіх беларусаў і стварылі б міф пра ідэальную Беларусь, раскруцілі б..."

**Ян ЧЫКВІН.** З апошняй фразай я абсалютна згодны.

**Л. РУБЛЕЎСКАЯ.** Хоць і не хочацца пачынаць з інфармацыі, але варта было б — асабліва для тых чытачоў "ЛіМа", хто не знаёмы блізка з літаратурнай Беласточчынай.

**Я. ЧЫКВІН.** Літаратурнае аб'яднанне было паклікана да жыцця 8 чэрвеня 1958 года. А да гэтага часу мы групаваліся вакол рэдакцыі газеты "Ніва", і тут галоўную ролю адыгрываў яе рэдактар Георгій Валкавыцкі. Фактычна, Валкавыцкі — "хросны бацька" "Белавежы". Нас сабралася тады надзіва шмат, самага рознага ўзросту. Напрыклад, Антону з Лепеля было за 70, Віктару Шведу — каля трыццаці, мне не было і васемнаццаці... Сёння, калі многія белавежцы маюць свае кнігі, уступілі ў пісьменніцкія згуртаванні, бачыцца як бы нейкі "касцяк" найбольш таленавітых і працавітых. Скажам, Сакрат Яновіч, Алесь Барскі, Віктар Швед, Уладзімір Гайдук, Мікалай Гайдук, Надзея Артымовіч, Міхась Шаховіч...

**Галіна ТВАРАНОВІЧ.** Ну і, зразумела, сам спадар Ян Чыквін. Дарэчы, за амаль сорак гадоў існавання аб'яднання выйшла, здаецца, ці не больш за сто кніжак белавежцаў.

**Я. ЧЫКВІН.** Усё ж ад пачатку патэнцыял наш быў вялікі. У нашым асяродку былі людзі надзвычай таленавітыя, якія, на жаль, адыходзілі з яго, таму што магчымасці друкавацца па-беларуску амаль не было. У 60—70-х гадах з'яўлялася недзе адна беларуская кніжка ў два-тры гады. Цяпер — дзветры кніжкі штогод, дзякуй Богу.

**Міхась ТЫЧЫНА.** Неяк у "Кнігарні пісьменніка" прадавалася адразу тры розныя кніжкі Сакрата Яновіча.

**Г. ТВАРАНОВІЧ.** У якасных і колькасных паказчыках наробак "Белавежы" — з'ява унікальная. Вось жа цікава, што ні Смаленшчына, ні Віленшчына не маюць нечага падобнага. Як можна вытлумачыць на нашым культурна-гістарычным абсягу феномен "Белавежы"?

**Я. ЧЫКВІН.** Я падлічыў: у працэнтных адносінах колькасць беларускіх літаратараў Беласточчыны да колькасці яе насельніцтва гэткая ж, як і ў метраполіі. Гэты паказчык сведчыць пра пэўную культурна-творчую норму беларускага этнасу, так мне здаецца. Значыць, не можа быць, каб 300—400-тысячнае беларускае насельніцтва Беласточчыны не мела сваіх пісьменнікаў, песняроў, летапісцаў. І яны якраз ёсць у нас. Цяпер справа — за вамі, крытыкамі, літаратуразнаўцамі, — увесці беластоцкую літаратуру ў кантэкст усёй беларускай, бо да гэтага часу крытыка нас амаль не заўважае, а раней і ўвогуле ігнаравала.

**Л. РУБЛЕЎСКАЯ.** Я перагледзела рэцэнзіі на дзейнасць "Белавежы" ў "Беларускім календары" за розныя гады і заўважыла цікавую супярэчнасць, Аляксандр Баршчэўскі ў "Календары" за 1987 год піша, напрыклад: "...пачынаючы сваю творчасць, рашучая большасць іх (белавежцаў, — **Л. Р.**) не абапіралася на беларуска-беластоцкія літаратурныя традыцыі, бо іх у істоце не было... пачынаючы... літаратурную справу, белавежцы паспрабавалі сеяць на камені". А вось Фларыян Няўважны ў "Беларускім календары" 1982 года сцвярджае, што "Беларускае літаратурна-мастацкае аб'яднанне "Белавежа", найстарэйшая і творча актыўная літаратурная група ў Польшчы, не вырасла на цаліннай зямлі. Багатая літаратурная традыцыя сягае другой паловы XIX стагоддзя"...

**Я. ЧЫКВІН.** Усё ж такі мы ўзніклі не на пустым месцы. Мы распачыналі свае творчыя вопыты з хай сабе і невялікім, але бяспрэчным багажом ведаў нацыянальнай беларускай літаратуры. А гэта і ёсць наш падмурак.

**А. СЯМЁНАВА.** Але беластоцкая літаратура суадносіцца і з традыцыямі заходнееўрапейскай літаратуры. Між іншым, знаёмства з літаратурным жыццём Беласточчыны па друкаваных выданнях і з польскай літаратурай і перыёдыкай у многім жывіла думку і мастацкую свядомасць на Беларусі. Мы чыталі кнігі, "Ніву", "Белавежу". "Tworczosc", "Zucie literackie" — і мелі магчымасць дачыніцца да падобнага і не падобнага да нашага жыцця. Вельмі важны быў момант пазнавальна-асветніцкі, фактаграфічны — пераклады заходнееўрапейскіх філосафаў і літаратараў, дзеячаў культуры. Гэта быў і незамены мастацкі вопыт, які грунтаваўся на асабістым самаадчуванні пісьменнікаў Беласточчыны, на ўсведамленні безасабовай існасці, што давала магчымасць наш гістарычны і культурны вопыт суаднесці з еўрапейскім і агульначалавечым.

На абшарах Беласточчыны быў менш прыкметны ідэалагічны ўціск, падпарадкаванне сацыяльнай семантыцы, залежнасць ад афіцыйных пастаноў і знакамітай трыяды: ідэйнасць, партыйнасць, народнасць (відавочна ўзятай ад старaімперскага: праваслаўе, самадзяржаўе, народнасць). Павеў вольных літаратурных стыхій Захаду і ўсё ж трывалая, высокая мастацкая традыцыя, нягледзячы на барабанны афіцыёз, на Беларусі і ў Расіі, на Украіне, яны далі адметны, своеасаблівы вопыт Беласточчыны.

**Я. ЧЫКВІН.** Сапраўды, так гістарычна склалася, што мы сядзім нібыта "на двух крэслах".

**У. КОНАН.** Гэта ўласціва ўсёй беларускай літаратуры. Янка Купала першыя свае вершы пісаў па-польску, Якуб Колас — па-руску.

**А. СЯМЁНАВА.** Тады была зусім іншая сітуацыя. Пасля паўстання 1863 года польская культура ўжо не мела вызначальнага значэння ў нас. Не забывайце, што тады на тэрыторыі Беларусі зніклі ўсе польскія школы.

**У. КОНАН.** З чаго палякі не надта пераживалі. Яны — моцная нацыя, і асіміляцыя ім не пагражала.

**Л. РУБЛЕЎСКАЯ.** Думаю, самі палякі іншага меркавання.

**А. СМЯЁНАВА.** Каб была іншая палітычная сітуацыя, Янка Купала мог бы паехаць вучыцца не на Чарняеўскія курсы ў Санкт-Пецярбург, а, скажам, у Варшаву, і невядома, як развівалася б тады наша літаратурная сітуацыя.

**М. ТЫЧЫНА.** А як успрымаюць беларускамоўную літаратуру Польшчы самі палякі?

**Я. ЧЫКВІН.** Ведаюць, як ні дзіўна, чытаюць, перакладаюць. На вывучэнні беларускай літаратуры ў Польшчы спецыялізуецца польская даследчыца Тэрэза Занеўская. Звесткі пра некаторых белавежцаў уключаны ў такія выданні, як "Слоўнік пісьменнікаў свету", "Новая энцыклапедыя" ў 6-ці тамах, кніга Лeслава Бартэльскага "Польскія пісьменнікі". Такім чынам, нашая прысутнасць даўно і заўважана, і адзначана ў спецыяльных даведніках.

**Л. РУБЛЕЎСКАЯ.** Іван Пятровіч Шамякін неяк на пытанне, як увесці беларускую літаратуру ў кантэкст сусветнай, адказаў: праз пераклады на рускую мову. Бо на іншыя мовы будуць перакладаць толькі з рускай. Мне здаецца, Беласточчына ўвасабляе альтэрнатыву такой пазіцыі, і літаратары Беларусі, асабліва маладыя, бачаць у супрацоўніцтве з беластоцкімі выданнямі прамы выхад на Захад.

**Г. ТВАРАНОВІЧ.** Мабыць, часткова гэта так. Апошнім часам беларускія літаратары займелі магчымасць пабачыць свае творы на польскай мове ў "Святаянскай серыі", якую пачаў выдаваць у 1996 годзе Саюз польскіх пісьменнікаў у Беластоку. Ці надоўга хопіць рэдактарам серыі імпэту, зацікаўленасці намі, цяжка прадбачыць...

**У. КОНАН.** Мне здаецца, літаратуры Беласточчыны бракуе прафесіяналізму — у сацыяльным, а не ў мастацкім сэнсе.

**Л. РУБЛЕЎСКАЯ.** Мяжа між прафесійным і непрафесійным мастацтвам такая тонкая, што яе амаль немагчыма дакладна вызначыць. Нядаўна я пазнаёмілася з творчасцю паэта з Беласточчыны Уладзіміра Гайдука. Ён — селянін, калі не памыляюся...

**Г. ТВАРАНОВІЧ.** Так, усё жыццё жыве ў сваёй вёсцы.

**Л. РУБЛЕЎСКАЯ.** Вершы немудрагелістыя, наіўныя чаргуюцца ў яго з інтэлектуальнымі, філасофскімі. Мне цяжка ўявіць селяніна "метраполіі", які так мысліць, а галоўнае, умее так выказаць свае думкі.

**Г. ТВАРАНОВІЧ.** Ва Уладзіміра Гайдука — сапраўдная хрысціянская свядомасць. Ён адкрыты і зямлі, і небу...

Л. РУБЛЕЎСКАЯ. Знайшла я ў "Беларускім календары" яшчэ адну "характарыстыку" беластоцкай літаратуры — немагчымасць класіфікаваць яе, бо кожны з пісьменнікаў — індывідуальнасць.

**У. КОНАН.** Гэта проста наступствы іх малалікасці. У мяне такое ўражанне, што прафесіянал пачынаецца з вучэння. Той, хто хоча зрабіць адкрыццё ў літаратуры, толькі пачаўшы ў ёй першыя крокі, наўрад ці гэта здолее. Школа мае вялікае значэнне як для выяўленчага мастацтва, так і для літаратуры.

**Л. РУБЛЕЎСКАЯ.** Калі вы маеце на ўвазе так званую літаратурную адукацыю, дык у "ЛіМе" ўжо была дыскусія на гэтую тэму, і выказаліся думкі наконт таго, што літаратурная адукацыя — міф, і кожны сам робіць сябе пісьменнікам.

**У. КОНАН.** Я меў на ўвазе, што на Беласточчыне няма настаўніцтва ў літаратуры.

**Я. ЧЫКВІН.** Да мяне, да іншых, здараецца, падыходзяць маладыя людзі, просяць

пачытаць іх тэксты, але, мабыць, прамой сувязі "настаўнік-вучань" тут няма.

**У. КОНАН.** Адносіны між настаўнікам і вучнем не ёсць адносіны між тым, хто дыктуе, і тым, хто канспектуе. Гэта — праблема аўтарытэту ў літаратуры, яна заўсёды была і будзе.

**Л. РУБЛЕЎСКАЯ.** Вы хочаце сказаць, што на Беласточчыне няма літаратурных аўтарытэтаў?

**У. КОНАН.** Калі там усяго, здаецца, разам дзевяць паэтаў і празаікаў. Яны не могуць скласці розныя школы.

**Я. ЧЫКВІН.** Дзевяць — усё ж гэта толькі членаў Саюза польскіх пісьменнікаў.

**М. ТЫЧЫНА.** Мне здаецца, мы забываемся на розніцу між літаратурай у метраполіі і ў рэгіёне, ды яшчэ раздзеленымі і мяжою, і духоўнымі бар'ерамі. Спадар Ян выказваў тут думку пра тое, што на метраполіі нібыта не заўважалі, не чыталі беластоцкую літаратуру. Афіцыйныя структуры сапраўды не заўважалі, рабілі выгляд, што няма такой з'явы. А вось што тычыцца прафесійных літаратуразнаўцаў, літаратараў, філолагаў, — тут мая калега Ала Сямёнава згадвала, — дык яны проста рвалі адзін у аднаго з рук беластоцкую "Ніву" ў 60—70-я гады. Гэта была незвычайная для нас з'ява, уражваў нават сам шрыфт. Я міжволі звязваў "Ніву" з "Нашай Нівай" пачатку стагоддзя. Я лічу, што ў Беластоку не было перарванай сувязі, як у нашай літаратуры, з тым перыядам. Там усё ішло больш натуральна, эвалюцыйным шляхам. Што мяне захапляла і ў "Ніве", і ў "Беларускіх календарах", што зрэдку траплялі сюды, дык адчуванне той беларускасці, якую я згубіў падчас навучання ў інстытуце, аспірантуры, той, што мне была ўласцівая ў дзяцінстве, калі я жыў у вёсцы сярод лесу і балотаў. Гэта адчуванне нават не са свядомасці, а з падсвядомасці. Глыбінная беларускасць і ёсць, на мой погляд, тое, што дазваляе беластоцкай літаратуры выстаяць у гэтым свеце, дзе, з аднаго боку, націскаюць інтэлектуалы Польшчы, а з другога боку — Расіі. Невядома, што найперш — жыццё ці думка пра жыццё... Але я б адказаў, найперш — адчуванне жыцця. Гэтае адчуванне пакуль што не знікла ў беластоцкай літаратуры, наадварот, робіцца ўсё больш разнастайным. Люстэрка разбілася на кавалачкі, і кожны глядзіцца ў свой фрагмент. А потым у свядомасці чытача, даследчыка з гэтых фрагментаў складваецца нешта агульнае. Можа, адсюль ідзе індывідуалізацыя, персаналізацыя гэтай літаратуры. Генетычная, гістарычная памяць выяўляецца і ў Міколы Гайдука, і ў Сакрата Яновіча, у спадара Яна Чыквіна, у Міры Лукшы — праўда, у яе больш мякка, лірычна, больш светла, падзвочны.

**Г. ТВАРАНОВІЧ.** Дарэчы, Валкавыцкі ў сваіх "Вірах", у "Дзённіку рэдактара" піша, што віленская "Наша Ніва" пачатку стагоддзя стала прыкладам для "Нівы" беластоцкай.

**Л.РУБЛЕЎСКАЯ.** Ну, так, яна бліжэй па стылі да яе, чым тая "Наша Ніва", што выдаецца цяпер.

**Я. ЧЫКВІН.** Мы выпрацавалі як бы своеасаблівую паэтыку прамаўчання. За выключэннем пэўных твораў 50—60-х гадоў, у якіх аддавалася даніна Леніну, партыі, рэвалюцыі і гмінным ідалам, у нас усё-ткі ідэалагізаваных твораў няма. Мабыць, тут, на метраполіі, пісьменнікам таксама варта было б пакарыстацца такой паэтыкай прамаўчання. Зараз гэта асаблівая відаць.

**М. ТЫЧЫНА.** Але ж той самы Сакрат Яновіч і па радыё выступае, і ў друку на "вострыя" тэмы...

**Я. ЧЫКВІН.** Гэта іншая справа. Мы гаворым пра мастацкую літаратуру, а не пра публіцыстыку, дзякуючы якой пісьменнік можа зарабіць на хлеб штодзённы.

**А. СЯМЁНАВА.** А ўсё ж яна была, гэтая паэтыка прамаўчання. Дастаткова згадаць хаця б творчасць Міхася Стральцова, Уладзіміра Караткевіча... Ды нават у такога афіцыйна заангажаванага пісьменніка, як Іван Чыгрынаў, у творчасці (падкрэсліваю — у творчасці) услаўлення прапагандысцкіх ідэалаў няма.

**Л. РУБЛЕЎСКАЯ.** Алесь Барскі адзначаў жанравую неапрацаванасць беластоцкай літаратуры — амаль няма літаратурнай крытыкі, драматургіі, мала прадстаўлена дзіцячая літаратура, не ўсе жанры прозы асвоеныя...

**Г. ТВАРАНОВІЧ.** У нейкай ступені самі ўмовы дыктуюць з'яўленне і развіццё літаратурных жанраў. Здаецца, дарма чакаць драматычныя творы, калі іх няма дзе ставіць.

**М. ТЫЧЫНА.** У нас цяпер жанр рамана знік, бо няма дзе друкаваць.

**Я. ЧЫКВІН.** Мы былі ад пачатку "абмежаваныя" друкавальнай плошчаю, адзінай нашай газетаю "Ніва". Сакрат Яновіч, напрыклад, з-за такіх умоў пачаў як бы спецыялізавацца ў лірычнай прозе, а калі пісаў нешта большае па форме, то гэта друкавалася ўжо па-за беларускімі выданнямі, найчасцей адразу ў перакладзе на польскую мову. А каб былі на Беласточчыне, скажам, беларускія прафесійныя тэатры, мелі б мы, несумненна, і сваю драму, камедыю...

**А. СЯМЁНАВА.** А вы не спрабавалі ставіць радыёп'есы?

**Я. ЧЫКВІН.** Беларускае радыёвяшчанне ў нас было раней, доўгі час, раз на тыдзень па 15 хвілін, а ўжо ў 90-х гадах маем штодзень па 15 хвілін. Але ж і гэта вельмі мала, каб можна было думаць пра пастаноўку радыёп'ес.

**А. СЯМЁНАВА.** А тут не прапаноўвалі свае драматургічныя творы?

**М. ТЫЧЫНА.** Звычайна аўтару прапаноўваюць, а не аўтар.

**Я. ЧЫКВІН.** Мусіць, менавіта па вышэйназваных прычынах у нашай беларускай літаратуры ў Польшчы дамінуе паэзія. Гэтым я не хачу сказаць, што проза белавежцаў нецікавая.

**М. ТЫЧЫНА.** У дачыненні Міры Лукшы я гэта сабе так і не вызначыў — яна больш паэт ці празаік, і па колькасці кніг гэта не вызначыш...

**Л. РУБЛЕЎСКАЯ.** Дарэчы, як тыя кніжкі нараджаюцца на свет? За кошт аўтараў?

**Я. ЧЫКВІН.** Да 1990 года мы былі секцыяй Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Усе нацыянальныя меншасці Польшчы да 1989 года знаходзіліся "пад шапкаю" Міністэрства ўнутраных спраў.

**М. ТЫЧЫНА.** Я чакаў, што асветы... Культуры...

**Я. ЧЫКВІН.** Як бачыце, не. І ўсе нашы творы праходзілі праз падвойную цэнзуру: спачатку МУС, а калі яны давалі згоду на друк — агульнадзяржаўную цэнзуру. Так што ў параўнанні з польскай літаратурай наша становішча было няроўнае. У новых палітычных умовах пачатку 90-га літаратурнае аб'яднанне "Белавежа" было зарэгістравана ў судзе і атрымала статус аўтаномнай юрыдычнай адзінкі. Зараз мы маем свой статус і банкавы рахунак, хоць не маем сваіх фінансаў. Але ў Польшчы, дзякуй Богу, ёсць разумныя людзі. У Міністэрстве культуры існуе Бюро па справах меншасцяў, якое, згодна польскаму закону, дапамагае нам: выдаць кнігу, правесці канферэнцыю і г.д. Фінансавыя сродкі прызначаюцца толькі на канкрэтныя мэты. Дзякуючы падтрымцы польскага Міністэрства культуры, стварылася магчымасць больш планава выдаваць кнігі белавежцаў. Пачала выходзіць бібліятэчка Беларускага літаратурнага аб'яднання "Белавежа", у якой ужо апублікавана 20 кніжак.

**У. КОНАН.** Для прафесійнага пісьменніка важна жыць за кошт літаратуры. Ці ёсць магчымасць выплачваць ганарары пісьменнікам?

**Я. ЧЫКВІН.** Ганарар прадбачваецца, а як жа. Ганарары, вядома, невысокія.

**Л. РУБЛЕЎСКАЯ.** А як адносна нашых — меншыя за іх ці большыя?

**Я. ЧЫКВІН.** Думаю, у нас большыя.

**Л. РУБЛЕЎСКАЯ.** Дарэчы, літаратараў-прафесіяналаў у тым сэнсе, як разумее Уладзімір Міхайлавіч, і ў нас няма, бо пражыць за ганарары ў нас немагчыма.

**М. ТЫЧЫНА.** Бродскі, Нобелеўскі лаўрэат, чытаў лекцыі і жыў за гэта.

**А. СЯМЁНАВА.** Сяргею Даўлатаву плацілі дзесяць долараў за слова. Ды і Хемінгуэй меў магчымасць адмовіцца ад журналістыкі.

**Л. РУБЛЕЎСКАЯ.** А як беларуская кніга на Беласточчыне знаходзіць свайго чытача? Бо тут з гэтым вялікія праблемы...

**А. СЯМЁНАВА.** Прычыны, я думаю, перш за ўсё эканамічныя. Усё-ткі была ў нас раней вялікая заваёва — танная кніга.

**М. ТЫЧЫНА.** Думаю, з'яўленне рэгіянальнай кнігі — у Наваполацку, Полацку, Лідзе, Гародні, Слуцку — уратаванне беларускай кнігі, і рэгіянальныя выданні будуць пашырацца. У гэтым жа шэрагу — і беластоцкая кніга. Да таго ж, я не лічу, што кнігу адразу павінны ўсе чытаць. Літаратура, як усе духоўныя ідэі, спачатку захоплівае невялікае кола людзей, потым яе ўплыў пашыраецца, і недзе на вяршыні таго ўплыву ператвараецца ў банальнасць.

**Я. ЧЫКВІН.** Думаю, мы падлягаем тым самым законам, што існуюць усюды. Ёсць такі польскі паэт Анджэй Васкевіч, два гады таму ён выдаў сваю кніжку накладам... 14 паасобнікаў. Бо падлічыў, што на гэты час мае такое кола чытачоў. Польскія паэтычныя кніжкі маюць невялікія тыражы. Паэзія выходзіць для вузкага кола, пра што сведчыць гісторыя літаратуры. Масавы чытач — дзе ён? Хіба што паэзія агітацыйная, пралетарская, вершаваная публіцыстыка знаходзіць шырокую аўдыторыю...

**М. ТЫЧЫНА.** Аляксандр Блок прыйшоў чытаць лекцыю, яму кажуць: "У зале ўсяго адзін слухач. Ці будзеце вы чытаць?" Блок адказаў, што для гэтага слухача і будзе чытаць.

**А. СЯМЁНАВА.** Праблема, аднак, ускладняецца тым, што гэта беларускі чытач. Сённяшняе (і ўчарашняе) становішча мовы выключае з ліку чытачоў вялікую частку людзей, інтэлектуальна і духоўна падрыхтаваных да ўспрымання высокай і складанай матэрыі паэзіі. Нават "бур і націск" нашых паэтаў праз эстрадную папулярызацыю свайго слова — а праз яго і беларускага — дачыняюць не зусім тыя эстэтычныя "фалангі".

Дарэчы, а як трактуюць беластоцкія паэты суадносіны музыкі і паэзіі?

**Я. ЧЫКВІН.** Задужа складанае пытанне. Я лічу, што для паэта пачынаецца няшчасце, калі на яго тэксты кладуць музыку.

**А. СЯМЁНАВА.** Поль Валеры казаў некалі, што напісаць музыку на вершы — гэта ўсё роўна, што падсвечваць палатно вітражамі сабора.

**Я. ЧЫКВІН.** Мова літаратуры і музыкі, як вядома, розныя мовы. І калі адну мову перакрыць адначасна другою — то што атрымліваецца? Адна другую або заглушае, або найчасцей пачынае дамінаваць асемантычная музычная хваля.

**А. СЯМЁНАВА.** Аднак я маю на ўвазе і такія шчаслівыя выпадкі, як рамансы "Я помню чудное мгновенье...", "Я встретил вас, и все былое...". Як знакаміты раманс Свірыдава да "Завірухі" Пушкіна. Хаця гэта, мабыць, асобная тэма...

**Л. РУБЛЕЎСКАЯ.** Складваецца ўражанне, што між белавежцамі і нашым Саюзам пісьменнікаў нейкія двухсэнсоўныя адносіны.

**Я. ЧЫКВІН.** Чаго ж хацець? У Саюз беларускіх пісьменнікаў прыняты Алесь Барскі, Мікалай Гайдук, Васіль Петручук, Міра Лукша. Але ёсць пэўныя складанасці. Калісь я прапанаваў, каб у дачыненні да беларускіх пісьменнікаў замежжа ўвесці ў статут саюза пункт, які забяспечваў бы гэтым асобам ганаровае членства. Звычайнае членства, на маю думку, у гэтым выпадку — бяссэнсіца. Уявіце сабе, што, напрыклад, шаноўнага Масея Сяднёва выбіраюць старшынёй Саюза пісьменнікаў Беларусі, — тэарэтычна гэта магчыма. Але ж ён жыве ў Нью-Йорку. Парадокс, які вынікае з "нармальнага" членства. Ганаровае званне зняло б гэту праблему, а замежнікам была б сатысфакцыя іх прызнання.

**Л. РУБЛЕЎСКАЯ.** А колькі белавежцаў — члены Саюза польскіх пісьменнікаў?

**Я. ЧЫКВІН.** Дзевяць асоб, пра якіх можна сказаць, што іх творчасць належным чынам не засвоена беларускім літаратурным кантэкстам. Пра нас, здаецца, усё ж мала ведаюць.

**У. КОНАН.** Пра "Белавежу" ведаюць тыя, хто хоча ведаць. Часам на міжнародных канферэнцыях мне гавораць замежнікі: ах, якія вы, беларусы, сціплыя, нічога мы пра вас з-за вашай сціпласці не ведаем. А я адказваю: дастаткова пайсці ў любую бібліятэку і паглядзець адпаведныя энцыклапедычныя выданні. Інакш гаворачы, на Беларусі ёсць элітарная меншасць, якая і ёсць — Беларусь. Яна і ведае.

**Л. РУБЛЕЎСКАЯ.** Але літаратура Беласточчыны, як я зразумела з прачытанага, арыентавана не столькі на эліту, колькі на вясковага чытача?

**Я. ЧЫКВІН.** У нас столькі ж вясковага, колькі і гарадскога, чытача. Праблема ў іншым — на нас абрынулася залева інфармацыі. На паліцах кніжных крам мноства ўсялякай літаратуры, і беларускім кнігам цяжка з ёй канкурыраваць.

**М. ТЫЧЫНА.** Мне здаецца, што выбар кнігі — справа індывідуальная. Нягледзячы на тое, што рынак насычаны кніжнай прадукцыяй, я ўсё-ткі перш за ўсё бяру кніжкі на беларускай мове, тыя, што мне да душы.

**У. КОНАН.** Хачу яшчэ заўважыць, што танныя кнігі нідзе не цэняцца. І кнігі не чытаюць не таму, што яны — дарагія, а таму, што іх не хочуць чытаць. Урэшце — ёсць бібліятэкі.

**А. СЯМЁНАВА.** Вы абодва — прафесійныя літаратары, прафесійныя навукоўцы. Бібліятэка вам — што родная хата. А шараговы чытач — інжынер, урач, рабочы — у бібліятэку хадзіць не мае часу. Асабліва калі мець на ўвазе чытальню — з яе навінкамі, з яе прадуманым падборам "кніжнай прадукцыі".

**У. КОНАН.** Калі сёння зрабіць кнігі таннымі, яны будуць у асноўным ісці на абгортку.

**Л. РУБЛЕЎСКАЯ.** Выбачайце, я не згодная. Я сама вымушана выбіраць кніжкі па кошце.

**А. СЯМЁНАВА.** Безумоўна. Асабліва зараз. І дарэчы — у Еўропе, увогуле на Захадзе звычайны клерк ніколі не меў магчымасці далучыцца да вяршынь сусветнай культуры. Ды нават прафесар універсітэта ў Еўропе не можа, да прыкладу, дазволіць сабе набыць білет на канцэрт знакамітага выканаўцы: занадта дорага. Гаворка ўсё ж не пра танныя кнігі і танную культуру, а пра даступную культуру і даступныя кнігі. Таму што багацце і інтэлект, а тым больш творчыя здольнасці не так часта супадаюць.

**Я. ЧЫКВІН.** Мы на Беласточчыне адчуваем недастатковасць у той літаратуры, якая называецца масавай. Тут згадвалі імя Івана Шамякіна. Гэты пісьменнік выконвае вельмі істотную функцыю. Сваімі творамі Шамякін спрыяе таму, каб народ увогуле чытаў па-беларуску. Мы ж не маем такіх чытэльных кніг. Мы маем або "высокую" паэзію і прозу, або нічога. Адным словам, не тое, што заахвочвала б шарагавага чытача да чытання.

**А. СЯМЁНАВА.** Але Уладзімір Караткевіч мог рабіць твор і для шарагавага чытача, і адначасна для інтэлектуала.

**Л. РУБЛЕЎСКАЯ.** Дык ён жа і вучыў маладых пісьменнікаў карыстацца займальнай формай, пісаць дэтэктывы, прыгодніцкія аповесці, бо ў любой форме можна выказаць свой інтэлектуальны, творчы патэнцыял.

**М. ТЫЧЫНА.** Шамякін, канечне, далучае да беларускай літаратуры, але я думаю, яго больш чыталі на рускай мове, як, дарэчы, і Быкава.

**Я. ЧЫКВІН.** Гэта нацыянальная драма.

**М. ТЫЧЫНА.** Шамякін жа казаў некалі, што ён адзін перакладамі сваіх твораў на мовы народаў Савецкага Саюза зарабляў дзяржаве столькі ж, колькі Мінскі трактарны завод.

**А. СЯМЁНАВА.** Іван Пятровіч заўсёды геніяльна адчуваў павеў моманту і чытацкі попыт. Ведаў, як рабіць бестселер. Па сутнасці, ён даўно і трывала працуе на масавую культуру. Але такую, што мае пэўныя ідэалы і прынцыпы.

**Л. РУБЛЕЎСКАЯ.** А ці бываюць у беластоцкіх пісьменнікаў аўтарскія сустрэчы з чытачамі, семінары? Бо ў нас хіба што навукоўцы маюць магчымасць сустракацца на канферэнцыях, а ў пісьменнікаў, акрамя з'ездаў, ніякіх мерапрыемстваў. Семінары маладых літаратараў сышлі на нішто, нават сустрэчы з чытачамі вельмі рэдкія.

**Я. ЧЫКВІН.** У нас такія сустрэчы — зараз прыватная справа самога пісьменніка. Ён можа прыйсці, скажам, у ліцэй і папрасіць: "У мяне выйшла новая кніжка. Ці дазволіце з гэтай нагоды сустрэцца з вучнямі?" Што тычыць семінараў, то цяпер арганізуюцца яны толькі па волі зацікаўленых такой сустрэчай калег.

**М. ТЫЧЫНА.** А няма гуртоўкі, як у нас, вакол рэдакцыі, па творчых сімпатыях?

**Я. ЧЫКВІН.** У нас ёсць дзве рэдакцыі — "Ніва" і "Часопіс". Але яны не выконваюць той ролі, што адыгрывала "Ніва" Валкавыцкага. Валкавыцкі быў чалавек літаратурна таленавіты, адчуваў унутраную патрэбу дапамагчы маладым літаратарам. А новая рэдакцыя "Нівы" гэтым, здаецца, не надта зацікаўленая. Там у асноўным працуюць гісторыкі.

**Л. РУБЛЕЎСКАЯ.** Я ведаю, што на Беласточчыне ёсць літаратары, якія пішуць не на літаратурнай беларускай мове, а на мясцовай гаворцы, адна з іх — Зося Сачко. Як расцэньваеце вы гэтую з'яву?

**Я. ЧЫКВІН.** Пад маёй рэдакцыяй выйшаў зборнік Зосі Сачко "Шчэ одна весна". У мяне адносіны да яе паэтычнай мовы амбівалентныя. З аднаго боку, хацелася дапамагчы паэтцы рэалізавацца, з другога ж — ёсць вялікая небяспека ў пашырэнні дыялектнай мовы, якая хоча сябе выдаваць за літаратурную. Калі б гэта адбывалася ў польскай мове, небяспекі, пэўна, не было б. А даваць свой дазвол на разбурэнне знутры беларускай літаратурнай мовы на этапе гістарычнай яе "незавершанасці" — недапушчальна. Я згодны з тым, што сказаў у свой час Ніл Гілевіч у дачыненні да Міколы Шаляговіча: недаравальна, каб беларус ішоў на такую правакацыю ў адносінах да беларускай мовы.

**А. СЯМЁНАВА.** Я таксама з гэтым цалкам згодная. Некалі давялося катэгарычна адмовіцца ад напісання прапанаванага матэрыялу ў адну з салідных "саюзных" газет. Менавіта з гэтай прычыны. Нам пакуль не да такой лінгвістычнай раскошы.

**М. ТЫЧЫНА.** Я некалі падтрымліваў рух Шаляговіча, як праяўленне свабоды творчасці. Але я ведаю, што ён ездзіў у Маскву да некаторых рускіх палітыкаў "за ініцыятывай" і фінансавай падтрымкай.

**Я. ЧЫКВІН.** Вельмі прыгожа напісаў у сваіх "Зацемках з левай кішэні" Галубовіч: "Мне прысніўся сон на тарашкевіцы"...

**Л. РУБЛЕЎСКАЯ.** Напрыканцы нашай гаворкі мне хацелася б працытаваць заключны абзац з даклада Алеся Барскага на навукова-папулярнай сесіі з нагоды 30-й гадавіны БГКТ і "Нівы": "Заканчваючы свае разважанні аб творчасці белавежцаў, хочацца падкрэсліць, што, нягледзячы на ўсе хібы, недахопы, аднабаковасці, наш літаратурны рух з'яўляецца найпрыгажэйшым праявам інтэлектуальнай патэнцыі беларускай нацыянальнасці ў Польшчы. Нягледзячы на ўсе плыткасці і падманы, якія спадарожнічаюць кожнаму літаратурнаму руху, заўсёды стараўся ён служыць не богу сілы, але богу праўды. Хочацца верыць, што таксама будзе і ў будучым".

## Гумар і лірыка

Фундатарамі новай кнігі Міколы Вяршыніна “Нечаканыя сустрэчы” сталі вытворчае аб’яднанне “Мінскі трактарны завод”, арэнднае прадпрыемства “Мінскі падшыпнікавы завод”, ЗАГ “Воландэ” і НП “Белмашрэсурсы”. У зборніку змешчаны пераважна сатырычныя і гумарыстычныя творы. Смех М. Вяршыніна — ачышчальны, а сатыра — у меру выкрывальная, а часам і злая. Прадстаўлена ў кнізе і лірыка.

## “Беларусь — мая песня”



У рэспубліцы працягваецца першы фестываль народнай творчасці “Беларусь — мая песня”. У рамках яго ў Браславе адбыўся заключны канцэрт мастацкай самадзейнасці раёна, які стаўся яркім святам песні, танца, народных абрадаў. Пакарылі гледачоў артысты фальклорнай групы з вёскі Стаўрава, узорнага аркестра Браслаўскага дома піянераў, народнага ансамбля беларускай песні “На панадворку” з Браслава, фальклорныя калектывы з Дрысвят. У свяце прыняло ўдзел шмат моладзі, а гэта значыць, што не згасае цікавасць да беларускай песні, нацыянальнай музыкі, народных абрадаў.

*На здымку: выступае фальклорная група “Дрысвяцкія вячоркі”.*

*Яўген КАЗЮЛЯ, кар. БЕЛТА*

## “Тэатральная творчасць”, N 1

Нумар адкрываецца лібрэта балета ў трох дзеях Т. Мушынскай “Чорная дама Нясвіжа”. Змешчана таксама радыёп’еса В. Анісенкі “Пошук сюжэта” і літаратурны мантаж па творах У. Караткевіча “Бацькаўшчына светлая мая!..”, падрыхтаваны А. Палупанавым.

Т. Гаробчанка (“Тэатр у разарванай прасторы”) выступае з нататкамі аб міжнародным тэатральным фестывалі “Белая вежа”.

Чытач мае магчымасць пазнаёміцца з матэрыяламі міжнароднай навукова-творчай канферэнцыі “Сучасная беларуская рэжысура: пошукі мастацкай адметнасці ў кантэксце традыцый “еўрапейскага тэатра”, якая ў кастрычніку мінулага года праходзіла ў Гродне: “Рэжысёрскае мастацтва ў новых гістарычных вымярэннях” Р. Смольскага, “У люстэрку класікі” А. Сабалеўскага, “Вопыт дзевяностых гадоў” Т. Гаробчанкі.

Штрыхі да творчага партрэта В. Тарасава “Дараванне ёсць даручэнне...” напісаў Б. Бур’ян. Апублікаваны артыкул М. Бяспалай “Жыццё Вандроўнага тэатра”, працяг артыкула Р. Платонава “Паміж “безухільным інтэрнацыяналізмам” і “нацыянальным эгаізмам”, заканчэнне артыкула Л. Юрэвіча “Беларускі тэатр і драматургія на эміграцыі”, працяг успамінаў Н. Карнеевай “Жыццё актрысы”, іншыя матэрыялы.

ПАЭЗІЯ

Леанід ГАЛУБОВІЧ



# Хаўтуры па восені

## Верасень з дачкой

...павук,
спавіты
ўласнай павутой,
бы ў белым саване
ўздымаецца над намі —
над нашым жытам,
жнівам і жытлом —
над нашым жалем...

●

Адтуль, дзе я цяпер жыву,
датуль, дзе буду,
таптаць зялёную траву
зямному люду...

А там, дзе я не буду жыць,
пад той травою —
чарвяк лічынаю ляжыць,
галодны мною...

Яго здзяўбе счарнелы грак.
І грак — сканае...
Жыццё смяротнае на смак,
а смерць — жывая...

Нібы мастак, я свет лаўлю
ў пусты падрамнік...
А неба ўцягвае зямлю
ў свой зорны страўнік...

## Замест рэкламы прадпрыемству “Белвест”

Восень...
Каторы год ужо — восень...
Туфлі на тоўстай падэшве
сціраюцца і працякаюць...
Колькі іх за жыццё стапталася
і звялося —
а ногі мае не стамляюцца
і ўсё кудысьці ўцякаюць...

Аднак ад гэтай вось чорнай пары
далёка мне не ўцячы
па глеі айчыннай дарогі —
і ўсё-ткі спраўдзяцца
іх германскія мары,
калі я нарэшце сам свае працягну
ім ногі...

## Шараговае

Штосьці знудзела мне жыць
пад маркотным небам.
Лепш бы ў войску паслужыць —
там і жыць не трэба.

Ані клопату пра лёс,
пра сям’ю, пра ежу...
Загадаюць: вытры нос!
Выцер аб адзежу...

Скажуць — лезці на турнік,
і такой бяды там:
раз — кувырк, другі — кувырк,
і — кранты бандытам!

Хочаш — поліўку хлябай,
хочаш — хлеб разжоўвай...
Крыкнуць! — чэргамі страляй...
Гыркнуць — швабрай шоргай...

За цябе жывуць — камбат,
нампаліт, таварыш...
І ў капцёрцы — свой кабак,
і за плотам — шмары...

Родны край абараняць
не бяруць амбітных:
сам не хочаш паміраць —
падбірай забітых...

Вось чаму хацеў бы я
паслужыць Айчыне,
а не швэндаць між дуб’я
ў невыразным чыне.

●

...горы ўстаюць
з каменістых калень...
...трон Усявышняму мулкі, як плаха...
Спіць пад сланечнікам п’яны Гаген,
Вуха Ван Гога слухае Баха...

Гэта ўсё дзеецца недзе не тут,
Гэта ўсё мроіцца недзе высока...
Слава, бясслаўе, памяць і суд —
Сон для сляпога бясстраснага вока...

Боскага слова счакаецца тлен,
Камень за выспу трымацьмецца
страхам —
Покуль вачэй не расплюшчыць Гаген,
Покуль Ван Гог не здаволіцца Бахам...

## Муза

...на дне бакала віннага
адлюстраваўся Блок,
а ты была нявіннаю,
і думала, што — Бог...

Піла, нагамі сучыла,
з клубоў страсала тло...
Цнатлівасць цябе мучыла,
як злоўленых — сіло...

...і Бог адмераў літасці,
І Блок плаціў за ўсё,
каб зняць з тваёй цнатлівасці
грахоўнае рыззё...

Як толькі стан агольваўся —
распальваў і сляпіў! —
і Блок табой здавольваўся,
і Бог цябе любіў...

Ні жонкай, ні каханкаю
нікому не была —
а вечнаю вакханкаю
ля хмельнага стала...

І гэткаю ж — нявіннаю —
пасля ўсяго і ўсіх,
змыкала вусны вінныя
на вусцішных маіх...

...шапталася з папераю,
гвалтуючы сціло,
і поўніла хімерамі
схілёнае чало...

А ўрэшце ўсіх пакінула,
згарэўшых без пары...
Цнатлівая кікімара,
рыззё хоць забяры.

## Беларускае пахмелле

*Сябру па рыфме ахвярую*

Чарачку адну,
Каб забыці родную
Сваю старану,
Не глядзеці як брат родны
Душу прадае,
Пазабыўшы шлях свабодны
І песні свае.

**Казімір Сваяк**

Вось і выпіта да дна
ўся мана.
Шлях-дарожанька п’яна
ад віна...

І Айчына ад відна —
не відна,
бо пакуль яшчэ яна —
старана...

Каму — крэсы, каму — кут,
каму — край...
І пакуль яшчэ мы тут —
налівай!..

Працвярэзішся, і — глядзь! —
ні кала...
І раздзеты сам, як б...,
дагала...

І ў суседа — ні віна,
ні віны...
І не ўцяміш з бадуна
стараны...

Пахіснешся ад сцяны
да сцяны...
За спіною — шатуны
сатаны...

Тут бы й чарачку адну
за памін,
за радную старану —
родны ж сын...

Толькі б сілы яшчэ мець,
каб падняць
тую чарачку за смерць
тваю, Маць...

●

Ахвярую А. Шыдлоўскаму
і В. Лабковічу

Я думаў, паэзія — ўсё,
што ёсць перад вышнім парогам,
што гэтак яна, як жыццё,
даруецца Богам...

Я думаў, паэзія — верх
наіву святога,
а слова, ўпадаючы ў грэх,
ёсць мерай пустога...

Я верыў, што буду з ёй мець
высокую долю,
і нават уласную смерць
у слове спатолю...

...ды вось, паміж светам і мной
знямела прастора
і стала наўсцяж цішынёй
і мерай пустога...

Запаліцца слова ў душы —
і гасне на вуснах...
Ну, хоць ты яго запішы
для будучых вучняў

якой-небудзь школкі ці дзвюх
на беразе Нёмна,
каб там зберагаўся наш дух —
і светла і помна...

## Жонцы з любоўю

...ну, вось, апоўдні спыніўся гадзіннік.
У двары — ні восень ані вясна...
Вуркоча зموраны халадзільнік...
Гарыць снягір за шыбай акна...

Не шамаці састарэлай кніжкай...
Не адхлёбвай каву, як калгасніца чай...
Накрыйся пледам, схіліся нішкам
на шэры мармур майго пляча...

...праз тэлевізар ідуць вярблюды,
як праз вушка іголкі,
гарбы хаваючы ў поўсць...
Калі ты мяне кахаеш,
падсып у каву атруты —
хачу памерці паэтам,
пакуль вакансія ёсць...

## Маме на ўспамін

Мама,
там, дзе ўсё пачыналася,
ў цёплай цемры твайго жывата,
ад мяне ў табе заставалася
ПУСТАТА

Ты й цяпер,
жыватом пажадная
да жыцця,
жывеш сіратой —
столькі год ад мяне цяжарная
ПУСТАТОЙ

## Лёд

...празрыста — чыста — і холадна...
Схаваныя ўсе сляды.
Нерукатворнае створана —
Як лёд, з цякучай вады...

Выслізгвае з рук адчайна ён,
Змывае з далоняў пот —
Сцякае вадой звычайнаю
Нерукатворны лёд...

ПРОЗА

Яўген РАДКЕВІЧ

# НЕТЫПОВЫЯ ГІСТОРЫІ



## ЯК САБЕ

У калгасную цяслярню асцярожна ўсоўваецца немалады ўжо чалавек, спыняецца ля ўвахода, асвойваецца. Звініць, ажно ў вушах ломіць, станок, на якім цесляры Віннік і Дуброва габлююць дошкі. Абое бачаць дзядзьку, селяніна з суседняй вёскі, аднак аніяк гэтага не паказваюць. Нарэшце той асмельваецца і падступае да Вінніка, старэйшага.

— Скажы ты мне, шаноўны, а ці робіце вы дзверы? — крычыць, стараючыся перасіліць віск станка, над плячом Вінніка.

Той ківае галавой: робім.

— А колькі ж часу зойме зрабіць адны дзверы?

Віннік цаварочвае твар да дзядзькі і таксама крычыць:

— Як для калгаса — то поўдня, а як сабе — то тры дні.

— А чаму ж так?

— Сам разумець павінны: для калгаса любое з рук сыйдзе, а сабе пастарацца трэба, — падміргвае Віннік дзядзьку.

Той замаўкае, задумваецца, тупае каля цесляроў, пакуль тыя не выключаюць станок. Тады дзядзька зноў кажа Вінніку.

— Я што папрашу цябе, чалавеча, зрабіце мне дзверы. Я і пераплачу, паўлітэрка пастаўлю — толькі зрабіце як сабе.

— Дамовіліся, бацька, — згаджаецца Віннік, і дзядзька пакідае цяслярню.

Віннік пачынае перабіраць нарыхтаваныя раней брусы, кажа Дуброве.

— Давай злепім гэтаму старому дзверы.

Некалькі гадзін працы — і дзверы гатовы. Віннік ставіць іх у кут, Дуброва насоўвае шапку.

— З’езджу на ровары да кліента нашага, няхай забірае дзверы.

Віннік прыкра крывіцца.

— От, не церпіцца табе, як маладому перад вяселлем. Праз тры дні і з’ездзіш.

У вызначаны тэрмін да цесляроў прыязджае дзядзька па свае дзверы. Шчодра разлічваецца з майстрамі, а забіраючы дзверы, яшчэ раз прыдзірліва аглядае іх і задаволена адзначае:

— Вось што значыць — як сабе рабіць.

## ГАТАР ПЕРАГРЭЎСЯ

Гатар — для тых, хто не ведае, — гэта піларама, да якой прыстаўлены Лявон Прохарчык, чалавек баламутны, наравісты, пашкоджаны нейкай даўняй хваробай, ад якой усох дашчэнту і пачарнеў тварам. На адно ён толькі і здатны: насіць ключы ад старой стадолы, дзе стаіць гатар, і пускаць пры патрэбе гэтую ад вайны трафеем прывезеную яшчэ машыну. Старшыню пабойваецца, таму калгасны лес пілуе без усялякіх выбрыкаў, а вось прыватнаму гаспадару ўласціць Лявона можна адным толькі спосабам — праз бутэльку.

Выпіўшы тут жа каля гатара, ён хутка п’янее, сцягвае шапку з галавы і тыцкае пальцам у лысую макаўку.

— Вось, толькі адну сілу маю — сілу свайго розуму.

Уключае гатар, а сам укладваецца спаць на пілавінне. Людзі даўно навучыліся самі працаваць на гатары і без Лявона ім нават зручней: не блытаецца пад нагамі.

Але праз гадзіну-другую ён прачынаецца. Не атросшы пілавінне з ватоўкі, падскоквае да гатара. Кладзе руку на раму і рашуча абвяшчае:

— Гатар перагрэўся.

І выключае машыну. Сварыцца ці спрачацца з ім — пусты занятак. Непарушна стаіць на сваім: гатар перагрэўся. Таму мясцовыя людзі зноў прымяняюць правераны спосаб — наліваюць Лявону. Той выпівае, паказвае на сваёй галаве, якую сілу мае, і кладзецца на звычнае месца.

Гатар пераграваецца яшчэ і яшчэ, у залежнасці ад таго, колькі лесу ў гаспадара, а калі дапілоўваецца апошняе бервяно, Лявон тут жа прачынаецца. Мацае халодную раму і з лаянкай накідваецца на гаспадара:

— Ах ты, такі-сякі, ледзь гатар мне не спаліў.

Ну, гаспадар ведае, як супакоіць Лявона. Налівае яму, лагодна пасміхаючыся. А што скажаш: працаздольныя людзі ў калгасе напералік.

## НА ПРАЎЛЕННІ

Старшыня калгаса пераходзіць да наступнага пытання.

— Таварышы, даводжу да вашага ведама чарговы выпадак з трактарыстам Гарошкам. Учора ўшчэнт п’яны ён зваліўся з трактарам з моста. Сам цэлы, а трактар разбіў, ды мала таго, як трактар той выцягнуць зараз з балота? Нагадваю, што той жа Гарошка летась таксама п’яны знёс трактарам вугал Волькінай хаты, і хоць мы з яго вылічылі за рамонт хаты, на Гарошку гэта, як бачыце, зусім не падзейнічала. Таму, я думаю, цяпер трэба так пакараць гэтага Гарошку, каб дзесятаму заказаў. Прашу ўносіць прапановы.

Члены праўлення маўчаць, думаюць. Першы пачынае каваль Марчэўскі, вялізны мужчына з кулакамі, падобнымі на двухпудовыя гіры.

— Дужа цяжка нешта прыдумаць, каб падзейнічала на гэтага Гарошку. З яго ўсё як з гуся вада. Толькі і застаецца даць у лоб яму.

Ён узнімае страшны свой кулак і з надзеяй пытаецца ў старшыні:

— А што, як апошнюю меру... Вось пэльну яму ў лабаціну.

Старшыня кісла ўсміхаецца.

— Ты пэльнеш... Ты быку пэльнеш — дык той адразу скапыціцца. А тут чалавек. Няхай і Гарошка, але ж у нас ён адзін застаўся, трактарыст.

Каваль ясна пазірае на старшыню.

— Тады... мо пастуху Бураку ў лоб пэльнуць. Таксама п’яніца. Затое пастухі ў нас два.

## КАСТУСЕЛЬ

Іван Паўлавіч Кастусель каратканосы, невысокі, круглы. Вочы таксама круглыя, неміготкія. Уважлівыя, каб не сказаць, ліпучыя. Размаўляе з медсястрой, седзячы на канапе каля яе паста. Медсястра звычайна строгая, стрыманая, цяпер усмешліва-цярплівая. Кастусель хваліць яе.

— Вот Света маладзец. Толькі зайшла ў палату, убачыла, што я таблеткі не піў — і нічога, сварыцца не стала.

— Але ж лякарствы трэба прымаць, Іван Паўлавіч.

Кастусель нават спрачацца не хоча з ёй, лена гаворыць:

— Хто таблеткамі лечыцца? Я вунь галубам кідаў. Дык яны галодныя — і то не бяруць. А ты хочаш, каб Іван Паўлавіч іх еў. Язык аблазіць. А галубам мы хлеб давалі, памачыўшы ў гарэлку.

— А дзе гарэлку бралі? — стражэе Света.

—Тады яшчэ ўрачы прапісвалі для падтрымкі здароўя... Дык галубы паваліліся, лапкамі дрыгаюць — пацеха.

Падыходзіць бабуля, пытае ў сястры пра сваё. Кастусель незадаволена ўзнімаецца з канапы, бурчыць.

— Тут хіба пагаворыш пра медыцыну...

## ДУРНІЧКА

— Кастусель, — гаворыць капрызлівым голасам, вяла разяўляючы рот. — Кастусель, не буду я вашай нявесткай, а вот і не буду.

— Канечне, не будзеш, — кажа ён павучальна, па-бацькоўску, хоць за хвіліну да гэтага казаў іншае. — Не будзеш, калі і далей так пойдзе. Гэта ж сёння пасля гадзіны ночы вяртаецца ў палату. І на дыбачках, каб не чулі. Дзе ты была, скажы?

— А вот і не скажу, Кастусель...

— Ведаю дзе — у мужчынскай палаце сядзела. З гэтай Нэлкай была там, жонкай афіцэрскай. Яна сёння гэтак вусны нафарбавала, у тры слаі, каб не бачылі, якія абкусаныя. Там, відаць, чалавекі тры грызлі, бо хіба адзін так абкусае?..

— А вот і не, Кастусель, выдумляеце вы ўсё. Ні ў якай палаце мы не былі.

І праз хвіліну:

— А мяне хацелі з дзевятага паверха скінуць...

— З дзевятага? Дык вунь дзе вы былі: на гарышчы... Хто ж гэта яшчэ там быў?

— А той тоўсты ў вельветавых штанах. Нэлка папрасіла мяне, каб я нікуды не хадзіла, а ён кажа: нам з Нэлкай трэба адным застацца, ідзі, а то з дзевятага паверха скіну. Нэлка маўчыць, ну, я і пайшла.

— Бач, што робіцца, — дзівіцца Кастусель. — Хіба ж можна так? Ты не ў санаторыі, а ў бальніцы. Ды і ў санаторыі трэба класціся спаць у адзінаццаць.

— Фі, у адзінаццаць... Я дома і ў чатыры гадзіны прыходзіла.

— У чатыры? Будзе табе ў чатыры, як той дзеўцы, што знайшлі ў скверы. Ну, каля "Змены", зарэзаную, без пярсцёнкаў.

— Няпраўда гэта, Кастусель. Што вы палохаеце мяне?

— Не палохаю — вучу. Я ж хачу, каб ты стала першай маёй нявесткай. Першай, самай галоўнай, шаноўнай. Ты слухай. Будзеш сябе добра паводзіць, трымаць у руках сябе...

— Сціплай, — насмешліва дадае дурнічка.

— Ага, і сціплай — то будзеш шчаслівай. А нято — слёзы горкія будзеш ліць. От ты паслухай. Прыедзеш у санаторыю — не кідайся абы на каго,а добра прыглядзься, пакажы сябе — і адразу да цябе адносіны адпаведныя. І ў рэстаран запросяць, і ў кіно. Усё чын чынам. А нято — будзеш мець толькі кустатэрапію.

Дурнічка ўважліва слухае пяцідзесяцігадовага дзядзьку, набіраецца розуму, бо ёй, дурнічцы, усяго толькі пятнаццаць год.

## БАЙКІ КАСТУСЕЛЯ

Мой дзядзька непісьменны быў. Працаваў фурманам да вайны ў старшыні райвыканкома. І дужа спадабаўся яму. А старшыня быў такі. Прыязджае ў вёску, пачынае вучыць сялян. "Чаму ў вас нічога не расце, ведаеце? Бо зямлю не кормiце. А там, дзе няма корму для расліны, там нічога не вырасце. Вось бачыце?" І здымае капялюш, паказвае сваю галаву лысую.

Захацеў гэты старшыня выцягнуць на пасаду і майго дзядзьку. Перавёў інструктарам у выканком, пасля загадчыкам аддзела зрабіў, а затым і вучыцца ў Маскву паслаў.

А дзядзька трохі ўжо ўмеў пісаць-чытаць, але слаба. Пасялілі яго ў гасцініцу, а гасцініца вялізная, ці не з тысячу пакояў. Выйшаў дзядзька на вуліцу, ды забыў, у якім пакоі яго пасялілі. Як жа знайсці? Саромеецца пытацца. І прыдумаў. Ходзіць па гасцініцы і зазірае ў кожныя дзверы: "Таварыш Кастусель тут жыве?" Так і на свой натрапіў.

На вучобу дзядзьку не прымаюць — граматы ж зусім аніякай. Дык пайшоў ён са скаргай да высокага начальства, даводзіць: "Мяса як трэба — Кастусель трэба, хлеб як трэба — Кастусель трэба, а як вучыцца трэба — Кастусель не трэба". Так і пераканаў, значыць.

І вось вучыцца. На занятках задае пытанне лектару: колькі рознай скаціны было да рэвалюцыі ў Расіі? Лектар яму: не магу адразу адказаць на ваша пытанне, а праз тыдзень — калі ласка. Ну, праз тыдзень і адказаў.

І вось здае дзядзька таму лектару экзамен. Выцягнуў білет, паклаў яго ў кішэню — і на выхад. Лектар спыняе яго: куды ж вы, адказвайце.

"Ага, дзядзька кажа, я вам адно пытанне задаў, дык вы цэлы тыдзень рыхтаваліся. А тут тры, ды такія цяжкія".

А пасля яшчэ было на экзамене. Падышоў дзядзька да стала, на якім білеты раскладзены, выцягнуў адзін, прачытаў, а пасля хуценька паклаў на стол, перамяшаў разам з іншымі.

Выкладчык абураны: маўляў, што гэта такое?

А дзядзька яму:

— Разумееце, таварыш прафесар, чалавек я ўжо немалады, веру ў прыкметы розныя. Трынаццаты білет трапіў мне, то я забаяўся, што не пашанцуе.

А выкладчык настойлівы такі, строгі. "Бярыце свой трынаццаты і адказвайце, а то двойку пастаўлю!"

Рабіць няма чаго — знайшоў дзядзька трынаццаты білет, пачаў адказваць. І адказаў.

А таму што і ведаў адзін толькі білет — трынаццаты.

## ШАЛЁНЫ САБАКА

Антон Бусел — чалавек прыстойны. Электрык пятага разраду, мае кватэру і сям’ю, дзеці пераходзяць з класа ў клас, жонка ў прафком на мужа скаргі не прыносіла, хоць Антон у пятніцу ці пасля палучкі мог пасядзець з хлопцамі, узяць колькі там сот на грудзі. І вось тады яго цягнула на подзвігі.

Тады з Антона спадала звычайная маўклівасць. Лез у спрэчкі, біўся аб заклад, адчуваючы ва ўсім сваю праваты. Даводзіў, які ён класны электрык — за лічаныя хвіліны выправіць самую заблытаную няспраўнасць. А яшчэ згадваў, як на алімпіядзе школьнікаў падчыстую выйграў бег на ўсе дыстанцыі. Тут жа выклікаў на спаборніцтва, аднак ахвочых звычайна не знаходзілася, і гэта як бы пацвярджала даўняе чэмпіёнства Антона. Адна толькі жонка ніколі не верыла пахвальбе мужа, перапыняючы яе адным і тым жа: рашуча штурхала ў каршэнь, заганяючы ў кватэру.

Падчас свайго адпачынку паехаў Антон пагасцяваць у швагра. Адзначылі сустрэчу, выйшлі пагуляць па горадзе і завіталі да швагравага знаёмага. А там на ланцужку павязаны сабачка. Невялікі такі, кудлаты, а злы як чорт. На незнаёмых людзей кідаецца — ажно ў ашыйніку душыцца.

Мужчыны дабавілі крыху і тут, і Антон Бусел дасягнуў мяжы, калі пра сябе і навакольны свет думаецца асабліва хораша і хочацца давесці ўсім чыста, які ён выдатны чалавек, Антон Бусел, таму ён і сказаў, пазіраючы на сабачку:

— А мяне нават самы люты ваўкадаў не кране, магу на заклад ісці. Умомант угаманю.

— Навошта табе ваўкадаў, — не паверыў новы знаёмы. — Ты майго вунь угамані.

— Гэтага кажана? Як раз плюнуць.

— Кажана? — пакрыўдзіўся гаспадар. — Ды ён без штаноў цябе пакіне.

Антон пацягнуў руку да гаспадара.

— З цябе бутэлька каньяку.

І смела рушыў да сабачкі. Той як бы знямеў ад такога нахабства, толькі шчэрыўся, асеўшы на лапы. Антон жа, смелы і ўпэўнены, выцягнуў уперад руку, каб дакрануцца да сабачкі. Швагра перад відавочным фактам адчуў нешта накшталт сямейнага гонару.

Аднак у той жа момант здарылася надзвычай крыўднае і для Антона, і для яго швагра. Сабачка ўзвіўся ўгору, як на спружыне, і навіс на ўказальным пальцы Антона, моцна сцяўшы зубы і злосна вуркочучы.

Дома ўкушаны палец пачаў моцна балець. А на працы падказалі, каб у паліклініку паказаўся — можа, шалёны сабака.

Доктар агледзеў палец. "Час яшчэ церпіць, аднак трэба праверыць, ці здаровы сабака, паслаць запытанне ў горад, дзе вы былі ўкушаныя". Урач запісаў адрас і папрасіў зазірнуць праз тыдзень. Абавязкова.

І вось прыходзіць Антон, а доктар бярэ паперку, чытае і ўстрывожана ўзіраецца ў пацыента.

— На жаль, нічым не магу вас парадаваць, — доктар трасе паперку. — Тут гаворыцца, што па ўказаным адрасе сабака не пражывае.

— Як жа не пражывае, калі я добра адрас помню, са сваяком шукалі. І сабачка малы такі, а злы, як гестапавец.

— Калі гэта было? Два тыдні таму? Ужо, натуральна, і не пражывае, — доктар падкрэсліў апошняе слова.

— Памёр? — Антон адчуў, як усяго яго скоўвае жах. — Што, шалёны быў?

— Магчыма, магчыма...

— Дык, значыць, і я...

Антон не змог вымавіць тое страшнае, пра што падумалася.

— Ды супакойцеся, — паспачуваў доктар. — Ён мог памерці і не ад шаленства. Ад старасці, напрыклад.

— Ды не стары ён быў, доктар, — ледзь не плакаў Антон. — Зубы, што цвікі.

— Што ж, тады будзем лячыцца. Сястра, падрыхтуйце ін’екцыю!

А ін’екцыяй зваліся ўколы, якіх Антон з дзяцінства баяўся, а гэтыя былі такія балючыя, што Антону скуголіць хацелася. А ўсіх было ці не з дзесяткі тры.

...Праз некаторы час зноў паехаў Антон да швагра. Выбраўся ў горад, і ногі самі занеслі на вулачку, дзе жыў шваграў знаёмы. Штурхнуў веснічкі знаёмага дома — і як не аслупянеў. Проста на яго, бразгаючы ланцугом, нёсся раз’юшаны сабачка. Той самы, што вісеў на Антонавым пальцы.

Антон разгублена зірнуў на нумар дома. Ён быў амаль такі, як і помніў Антон. З той толькі розніцай, што апошняя лічба была шэсць, а не восем.

Вялікая прыкрасць ахапіла Антонаву душу. Ён ступіў да сабачкі, гатовы разарваць яго на кавалкі, але той раптоўна сцішыўся, лагодна памахаў хвастом,як бы просячы прабачэння за ўсе пакуты, што прычыніў Антону.

Цяпер Антон Бусел, нават калі і вып’е, больш маўчыць, і ніколі аб заклад не б’ецца.

## Вечар з каралём вальса



У краінах Заходняй Еўропы сталі традыцыяй прысвечаныя калядам канцэрты з твораў караля вальса Ёгана Штрауса. І вось з такой праграмай выступіў у Іспаніі сімфанічны аркестр творчага аб'яднання "Нацыянальны акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балета Рэспублікі Беларусь". Дырыжор — Вячаслаў Чарнуха, салістка — лаўрэат Міжнароднага конкурсу Алена Шведава. Паўсюль, дзе выступалі артысты з Беларусі — у Гранадзе, Барселоне, Мадрыдзе, — былі аншлагі. У сталіцы Іспаніі канцэрт прадстаўнікоў нашай краіны адбыўся ў зале, дзе гучалі галасы выдатных іспанскіх спевакоў, у тым ліку Мантсэрат Кабалье. І атуляла нашых артыстаў атмасфера цеплыні, зычлівасці, узаемаразумення.

Паклоннікам таленту Алены Шведавай спадабалася яе прыгожае каларатурнае сапрана, выкананне найскладанейшых віртуозных твораў, якія Алена спявала па-нямецку. Здавалася, што на яе голас не паўплывалі ні бясконцыя пераезды, ні хваляванне. Ён гучаў ярка, чыста, упэўнена. Публіка выклікала на "біс", прасіла аўтографы.

Нядаўна з вялікім поспехам прайшла тая ж канцэртная праграма, "Ёган Штраус — кароль вальса" ў родным Мінску, у Нацыянальным акадэмічным тэатры оперы. Музыканты выйшлі з аркестравай ямы на сцэну. Зала, дзе, здавалася, яблыку не было дзе ўпасці, слухала, стаіўшы дыханне. Як заўсёды сярод публікі былі людзі розных узростаў, шмат моладзі, дзяцей.

"У адрозненне ад гастрольных канцэртаў трошкі змяніўся склад аркестра, — кажа дырыжор Вячаслаў Чарнуха, — пашырылася струнная група. Добра праявілі сябе ўсе музыканты аркестра, у тым ліку і маладыя. Як заўсёды на ўзроўні была таленавітая спявачка, прафесіянал сваёй справы Алена Шведава. З ёй вельмі прыемна, лёгка працаваць. Шкада, што ў тэатры яна мала занятая".

Алена Шведава спявала куплеты Адэлі з аперэты "Лятучая мыш", вальсы "Вясеннія галасы", "Казкі Венскага лесу", вальс Арсены з аперэты "Цыганскі барон", Алімпіі — з оперы Ж. Афенбаха "Казкі Гофмана". Складаная праграма дапамагла раскрыцца яе прыгожаму каларатурнаму сапрана. Яе доўга не адпускалі са сцэны, літаральна засыпалі кветкамі.

"Лічу, што ўсім, чаго я дасягнула, — сказала А. Шведава, — я абавязана свайму канцэртмайстру заслужанай артысткі Беларусі Ларысе Талкачовай і маёй першай настаўніцы па вакале, былой спявачцы опернага тэатра Доры Захараўне Кроз, у якой я вучылася шэсць гадоў, пачынаючы з пятага класа. Яна дала мне пуцёўку ў жыццё. Шкада, што яе ўжо няма з намі. А ў кансерваторыі я вучылася ў Тамары Мікалаеўны Ніжнікавай".

Пасля канцэрта паклоннікаў таленту Алены Шведавай намнога пабольшала.

**Вера КРОЗ**

*На сцэне — Алена Шведава.*

*Фота В. МАЙСЯЁНКА*

## Пачатак той вайны

"У чэрвені 1941 года" — так называецца мемуарны зборнік, што выйшаў у Гродне. Змест яго склалі ўспаміны ўдзельнікаў першых баёў на Гродзеншчыне. Як вядома, нямецка-фашысцкія захопнікі на гэтай тэрыторыі (дарэчы, як і паўсюдна) сустрэлі вельмі жорсткае супраціўленне. І не толькі з боку рэгулярнай арміі — за зброю ўзялося і мірнае насельніцтва. Са згадак У. Нядзелькі, Д. Гаўрыліна, Р. Карачуна, Б. Казялкова і іншых і паўстаюць асобныя эпізоды тых незабыўных часін, калі закладваўся падмурак будучай перамогі над фашызмам.

МУЗЫКА

# Дырыжорскія згадкі

ПРАЦЯГВАЕЦЦА КАНЦЭРТНЫ СЕЗОН, ПРЫСВЕЧАНЫ 60-ГОДДЗЮ БЕЛАРУСКАЙ ДЗЯРЖАЎНАЙ ФІЛАРМОНІІ. А Ў ХУТКІМ ЧАСЕ СВОЙ 70-ГАДОВЫ ЮБІЛЕЙ АДЗНАЧЫЦЬ САМЫ ВЯЛІКІ ЯЕ КАЛЕКТЫЎ — АКАДЭМІЧНЫ СІМФАНІЧНЫ АРКЕСТР.

***Працуючы над кнігай пра нашу філармонію, я сутыкнуўся з немалымі цяжкасцямі ў асвятленні яе першых чатырох, даваенных сезонаў, бо ўсе архіўныя матэрыялы прапалі ў час фашысцкай навалы. І таму мне давялося звярнуцца па дапамогу да жывых сведкаў мінулых падзей, да тых, хто асабістай творчай працай спрыяў станаўленню рэспубліканскай канцэртнай арганізацыі. Адзін з іх — першы галоўны дырыжор сімфанічнага аркестра, заслужаны артыст нашай рэспублікі, прафесар Ілья Аляксандравіч Мусін — прыслаў з Санкт-Пецярбурга свае ўспаміны, якія часткова я скарыстаў у кнізе. А цяпер ёсць нагода перачытаць іх больш падрабязна.***



Як толькі адкрылася Беларуская філармонія, перад яе кіраўніцтвам паўстала неадкладная праблема: знайсці штатных дырыжораў для сімфанічнага аркестра, перададзенага новай канцэртнай арганізацыі Камітэтам радыёвяшчання. Пошукі кандыдатур на вакантныя дырыжорскія месцы доўга заставаліся марнымі, пакуль нехта з музыкантаў не параіў дырэктару філармоніі Р. Прагіну звязацца з ленінградскім дырыжорам І. Мусіным. Гэты 33-гадовы маэстра, скончыўшы Ленінградскую кансерваторыю па класах М. Малько і А. Гаука, застаўся там на кафедры дырыжыравання — для музычна-педагагічнай працы. Адначасова ён паспяхова выступаў як дырыжор Ленінградскай філармоніі.

Заручыўшыся падтрымкай Упраўлення па справах мастацтваў, Р. Прагін накіраваў Мусіну тэрміновую тэлеграму-выклік з прапановай заняць пасаду галоўнага дырыжора сімфанічнага аркестра. І той хутка згадзіўся. Восенню 1937 года, пасля летніх гастроляў у Кіславодску, І. Мусін прыехаў у Мінск і надоўга звязаў сваё творчае жыццё з гэтым горадам. "Адразу ж паўстала пытанне пра другога дырыжора, — згадвае Ілья Аляксандравіч. — Дырэкцыя была не супраць, каб запрасіць на гэтую пасаду майго вучня К. Сімяонава, які год прарабіў дырыжорам Петразаводскай філармоніі... Сімяонаў (у пасляваенныя гады ён стаў народным артыстам СССР) аказаўся выдатным памочнікам у агульнай працы і да таго ж добрым таварышам".

Сімфанічны калектыў Белдзяржфілармоніі марыў мець мастацкага кіраўніка з цудоўнай дырыжорскай школай, вялікай музычнай эрудыцыяй і душой педагога-выхаваўцеля, здольнага аб'яднаць вакол сябе ўсе аркестравыя групы і навучыць артыстаў удумліва і творча працаваць над буйнымі партытурамі. Мусін якраз меў гэтыя каштоўныя прафесіянальныя якасці, быў высокаадукаваным музыкантам, валодаў многімі сакрэтамі дырыжорскай спецыяльнасці.

"Маё выхаванне як дырыжора, — піша ён ва ўспамінах, — было цесна звязана з аркестрам Ленінградскай філармоніі, рэпетыцыі і канцэрты якога я рэгулярна наведваў, пачынаючы з 1921 года. Гэты аркестр, чыё прафесійнае майстэрства даўно лічыцца недасяжным, быў маім "настаўнікам", сапраўдным эталонам аркестравага выканальніцтва. Натуральна, што, распачынаючы працу з мінскім аркестрам, я меў перад сабой канкрэтны ўзор высокага мастацтва, ясную мэту, да якой трэба было імкнуцца. Таму як толькі мог, усімі даступнымі мне сродкамі стараўся дасягнуць з беларускімі музыкантамі такога ж гучання, такой жа якасці штрыхоў і нюансаў, якія былі ўласцівыя ленінградскаму аркестру".

Далей Мусін працягвае: "Павінен прызнацца, што мне, у той час яшчэ зусім мала-

КРЭСКІ

# Між рампай і экранам

***На Беларускім тэлебачанні працавала і працуе шмат таленавітых людзей, яркіх асоб. А прыцягальнасць, рамантыка, загадкавасць гэтай прафесіі робяць яе адной з самых захапляльных і цікавых для тых, хто выбірае свой шлях у жыцці. Сустрэча з тэлежурналістам Маяй Іванаўнай Гарэцкай на старонках "ЛіМа" невыпадковая. Больш за 35 гадоў яна аддала тэлежурналістыцы. Яе прафесія аб'яднала ў сабе тэатр і тэлебачанне...***

**— Мая Іванаўна, вы працуеце на Беларускім тэлебачанні, бадай з першых яго крокаў...**

— Так, я прыйшла на Беларускае тэлебачанне, калі яно было першакласнікам — яму споўнілася ўсяго 7 гадоў. Усё толькі пачыналася, усё было — упершыню. Я збіралася стаць журналістам-газетчыкам, і тады аб тэлебачанні нават не думалася. Пасля заканчэння школы ў Гродне, дзе жыла мая сям'я, я, "залатая медалістка", паехала паступаць у Маскоўскі дзяржаўны універсітэт. На факультэт журналістыкі конкурс тады быў страшэнны: толькі сярод медалістаў — 28 чалавек на месца. Я вытрымала гэты конкурс і паступіла. Універсітэт я закончыла з рэдкай спецыялізацыяй — нарысіст. Дыплом абараняла на аснове сваіх публікацый.

Аддзяленне тэлежурналістыкі адкрылася ў Маскоўскім універсітэце, калі я яшчэ вучылася. Дык вось, на гэта аддзяленне пераводзілі адных "троечнікаў".

Па размеркаванні я павінна была ехаць у Томск: там мяне чакала кватэра і два месцы ў газеце — для мяне і майго мужа, таксама журналіста. І тут умяшалася мама: Томск так далёка ад Гродна, а ў цябе няма здароўя і іншае. І раптам мне самой, ажно да слёз, захацелася вярнуцца дамоў. Я ведала, што ў Беларусі толькі што пачало працаваць тэлебачанне, і кадраў не хапала. У Маскоўскі універсітэт прыслалі на стажыроўку журналістаў з нашай рэспублікі. І вось я рушу ў беларускае пастпрэдства адразу да начальства. Яго, мусіць, я ўразіла адразу сваёй заявай: "Дапамажыце вярнуцца на Радзіму!"

**— І што, дапамагло?**

— Дапамагло. Пытанне вырашылася станоўча ў маёй прысутнасці, па тэлефоне.

**— Вашы першыя ўражанні ад тэлебачання?**

— Я прыйшла ў літаратурна-драматычную рэдакцыю. Там на той час рэдактарамі працавалі адны мужчыны, ды яшчэ пісьменнікі. Жанчыны не прыжываліся. Адразу зрабіла дзве шумныя перадачы: "Новае ў цырку", прысвечаную цыркавой праграме "Бахчысарайская легенда" і Надзеі Дуравай, і "Творчы партрэт народнай артысткі Беларусі Марыі Кавязінай".

Я нічога не баялася, я проста была яшчэ не пужанай, не ведала ўсіх ранейшых ідэалагічных жахаў. І мне шанцавала. Шанцавала і ў тым, што ўсе мае перадачы ўвасаблялі самыя вопытныя рэжысёры — А. Гутковіч і В. Карпілаў.

**— Для творчага чалавека ўласціва суседства ўпэўненасці ў сабе і сумневу. Што пераважае ў вас?**

— Па-першае, я вельмі ўпэўнены ў сабе чалавек. Але я моцна люблю такі выраз: "О вялікая незадаволенасць сабой! Няшчасны той, хто адчувае цябе вельмі часта. Варты жалю той, хто наогул цябе не адчувае".

**— Ваша праца аб'яднала ў сабе тэлежурналістыку і тэатр. Чаму менавіта тэатр?**

— Як усе дзяўчынкі, я таксама марыла стаць актрысай. Я любіла і люблю тэатр! Тэатр — справа святочная: бенефісы, фестывалі, прэм'еры... І я заўсёды прысутнічала на гэтым свяце. І няхай сабе я стала журналістам, але маё жыццё было вечнай прэм'ерай. Спецыфіка працы тэлежурналіста ў тым, што кожная твая перадача — прэм'ера. У тэатры спектакль можа дарабляцца гадамі, акцёр кожны раз можа нешта папраўляць у сваёй ролі. А на тэлебачанні гэтага зрабіць нельга.

**— Вы, як тэлежурналіст, удзельнічалі ў тэатральным жыцці і пэўным чынам уплывалі на яго. Як складваліся вашы адносіны з акцёрамі?**

— Я жыла жыццём тэатра і акцёраў! Я навучылася разумець, што такое талент і што такое сапраўднае мастацтва. Я не сюсюкала і не паддобрывалася да акцёраў. Кожны раз, калі прыязджаю на здымкі, мяне ў тэатры сустракаюць прыязна і радасна: "Мая прыехала!" Віктар Манаеў, артыст купалаўскага тэатра, некалі казаў мне: "Вы настолькі наша, што мы пры вас не "зацiскаемся".

У чым цяжкасць маёй працы? Многія з нашых акцёраў мала цікавыя, таму што па-за тэатрам у іх аднастайнае жыццё. Часта здараецца, што асоба драбней за свой талент. Але чалавеку дадзены дар і гэты дар трэба цаніць і паважаць. Адкрыць патаемнае, запаветнае ў чалавеку — гэта самае важнае для тэлежурналіста. Акцёр выражае час! Калі ў п'есе, напісанай і дваццаць і дзвесце гадоў назад, тое, што акцёр іграе на сцэне, робіцца фактам яго біяграфіі, — гэта мастацтва.

**— Што вы маглі б сказаць пра беларускае тэатральнае мастацтва, якое на працягу 35 гадоў вы з блакітнага экрана даносілі да шырокай глядацкай аўдыторыі?**

— Мы проста не ўмеем цаніць тое, што мелі і маем. У нас былі волаты беларускай сцэны, такія, як Рахленка, Ржэцкая, Ждановіч, Платонаў, Уладамірскі. І зараз мы жывём побач з такімі вялікімі актрысамі, як Клімава, Станюта.

Нашы спектаклі — "Трохграшовая опера", "Макбет", "Крык на хутары", "Ідылія", "Радавыя", "Трагедыя чалавека" — зачароўвалі і замежнага гледача: Маскву, Варшаву, Берлін. І толькі тут мы не ўмеем гэтага цаніць, бо... "няма прарока ў сваёй Айчыне".

**— Вы лаўрэат прэміі Саюза журналістаў Беларусі "За лепшую журналісцкую работу года". За што гэтая прэмія?**

— За тэлемарафон "Творчасць — шлях да сябе". Мне не соромна за праграму, я ёй ганаруся. Гэта была "заказная перадача" — ад Таварыства інвалідаў. Менш за месяц заставалася да эфіру, калі іх ліст перадалі ў нашу рэдакцыю — іншыя рэдакцыі адмовіліся. І мы з рэжысёрам Вячаславам Акімушкіным узяліся за гэту працу. Чаму? Я сама ў 21 год страціла магчымасць хадзіць, амаль год

ЛіМ ЧАСАПІС

## Стала лёсам Беларусь

ЮРЫЮ ФАТНЕВУ — 60

**Бацька Юрыя Сяргеевіча быў ваенным, таму сям'я часта пераязджала з месца на месца. Нарадзіўся ж ён у сяле Акімаўка Краснашчокаўскага раёна Алтайскага краю (Расія). Незадоўга да пачатку вайны з бацькамі пераехаў у Гомель, пасля ў Пінск. Падчас акупацыі жыў у вёсцы Старыя Дзятлавічы на Гомельшчыне, з 1944 года — у вайсковай часці, што размяшчалася ў раёне станцыі Сарны (Украіна). У пасляваенныя гады Ю. Фатнеў вучыўся ў Навасвержанскай сярэдняй школе Стаўбцоўскага раёна. У 1956 годзе выехаў у Казахстан, дзе працаваў бібліятэкарам. З 1965 года зноў жыў у Гомелі, а таксама ў Бранску, Ленінградзе. У 1990 годзе вярнуўся ў Гомель.**

**Пісаць Ю. Фатнеў пачаў у бальніцы, калі цяжкая хвароба пасля вайны прыкавала яго да ложка. Першыя вершы апублікаваў у 1955 годзе ў стаўбцоўскай раённай газеце. Піша па-руску. На паэтычным рахунку Ю. Фатнева — дзевяць кніг, што выходзілі ў Алма-Аце, Мінску, Маскве, Туле і Гомелі. Шэраг твораў Юрыя Сяргеевіча, на жаль, пакуль не пабачылі свет. Сярод іх некалькі гістарычных раманаў, цыкл гістарычных паэм, раман у вершах "Сны Зямлі" і іншыя. Чытач змог пазнаёміцца толькі з раманам Ю. Фатнева "Кумиры творяху", які летась быў змешчаны ў другім—чацвёртым нумарах часопіса "Палессе".**

**Віншуем Юрыя Сяргеевіча з 60-годдзем! Зычым яму здароўя, новых творчых поспехаў!**

## Шырыня творчых абсягаў

МІРДЗЕ АБАЛЕ — 75

**Вядомы латышскі літаратуразнавец Мірдза Эдуардаўна — ці не самы дасведчаны сучасны даследчык у Латвіі творчых кантактаў і ўзаемасувязяў беларускай і латышскай літаратур. М. Абала разам з Д. Вікснай у 1977 годзе выдала кнігу "Дружба, асвацаваная ў вяках", у якой прасочваюцца сувязі паміж нашымі народамі, а таксама творчыя стасункі на працягу не аднаго стагоддзя. Яна — аўтарка прац "Райніс і Беларусь" (1975), "Ян Судрабкалн і беларусы" (1977), складальніца латышска-беларускага і беларуска-латышскага слоўніка. Часта выступала М. Абала з артыкуламі аб творчасці беларускіх пісьменнікаў, з рэцэнзіямі на іх кнігі, што выходзілі ў перакладзе на латышскую мову. Мае навуковую ступень доктара філалагічных навук, з 1991 года Мірдза Эдуардаўна з'яўляецца прэзідэнтам Латышскай асацыяцыі беларусістаў. Публікавалася і ў беларускім друку. У прыватнасці, у альманаху "Далягляды" за 1979 год быў змешчаны яе артыкул "Зазірнуць у душу народа...", у перыядычы друкаваліся артыкулы па творчасць А. Упіта, Я. Судрабкална... На латышскую мову пераклала зборнік прозы У. Караткевіча "Чазенія", шэраг апавяданняў Я. Коласа.**

## І з юбілеем, і з кнігай...

**Нядаўна пабачыў свет новы зборнік вершаў магілёўскага паэта, члена Саюза пісьменнікаў Івана Пехцерава "Белый праздник берез". У абласным навукова-метадычным цэнтры народнай творчасці і культасветработы, дзе працуе аўтар, прайшла прэзентацыя гэтай кнігі, якая супала з 60-годдзем І. Пехцерава.**

**Вечар адкрыў начальнік упраўлення культуры аблвыканкама М. Дарашкоў, дарэчы, зямляк паэта і аўтар уступнага артыкула да зборніка. Юбіляра прывіталі дырэктар абласнога цэнтра народнай творчасці У. Гіль і начальнік упраўлення культуры гарвыканкама Н. Падольская, заслужаныя работнікі і дзеячы культуры У. Бараноўскі і В. Ермаловіч, магілёўскія кампазітары У. Глушакоў, В. Шрамко, Я. Маланкоў, Г. Багамолаў і іншыя. На вечары прагучалі вершы І. Пехцерава і песні на яго тэксты.**

**Спонсарскую дапамогу ў выданні кнігі паэту аказалі ўпраўленне культуры аблвыканкама і абласны навукова-метадычны цэнтр народнай творчасці.**

**В. БОНДАРАВА**

ВІНШУЕМ!

# Меншай за неба душы не бывае...

## Ізяславу КАТЛЯРОВУ — 60



Першыя вершы ягоныя памятаю яшчэ з часін маёй працы ў "Советской Белоруссии" на пачатку шасцідзесятых. Уразіла імя — Ізяслаў. Уразілі й поўныя нейкае трывогі й чысціні радкі. З тых шасцідзесятых прайшло багата часу. Былі мы шасцідзесятнікамі, бо пачыналі напамінаць пра сябе чытачам падчас хрушчоўскае адлігі. І неўпрыкмет сталі шасцідзесятнікамі зноў. Па ўзросце.

Калі падрадзіўся сказаць колькі слоў пра паэта Ізяслава Катлярова, чамусьці палічыў, што яму спаўняецца пяцьдзесят. Ды калі пачаў чытаць, перачытваць зборнікі паэтавы, аж здзівіўся, адкуль такое веданне пасляваеннага побыту, быццам мы гадаваліся на суседніх вуліцах аднаго мястэчка. Зірнуў у даведнік — Ізяславу Катлярову спаўняецца сёлета шэсцьдзесят. Ён проста на тры гады маладзейшы за мяне.

У кнігах сваіх ён увесь як на споведзі. Вершы ў Ізяслава Катлярова, калі можна так сказаць, замешаны густа. Адчуванне слова адметнае. Назіральнасць надзіва тонкая. І гэта зусім не віртуозны радок, а нейкая глыбінная сутнасць паэтычнага бачання, калі Ізяслаў піша ўжо ў адным з першых зборнікаў: "Приснились мне мозоли на глазах".

Зоркія да стомы вочы могуць убачыць, як у палях "радуга примерзла". Тут і спачуванне прыгажосці, якая падорана небам зямлі.

Паэт рана застаўся без маці. І вочы памяці, вочы душы бачаць:

***А мама шла лишь силою души.***
***Оглядываясь, горестно слабея.***
***И задыхалась...***

Дарэчы, паэт ва ўсіх вершах ужывае пяшчотна сыноўную форму слова мама. Бацька ў яго ўжо толькі бацька, а не тата.

***Отец печалится сутуло***
***и трудно держит боль в глазах.***

Перачытваю кнігі паэтавы, вычытваю, вышукваю зіхацінкі. Трэба быць шчырым, не заўсёды мы чытаем адзін аднаго, паэты, нават кнігі, якія нам падпісваюць браты па прафесіі з самымі велічнымі эпітэтамі. У кнігах Ізяславаых шмат пачуцця, шмат паэзіі. Праўда, вядомасць памеру, класічная страфіка й рытміка крыху закрываюць аднойчы і назаўсёды знойдзены вобраз. Не раўнуючы, як густы снегапад цнатлівую сцяжынку, што праклалі закаханыя.

Ад кнігі да кнігі паэт расце, сталее, але не старэе. Пачынае бачыць, як "покрыта пылью тишина" як "зарастает и лес темнотой", як "капля вдруг нахохлится". І нялёгка сказаць нават сабе:

***Чем лучше человек,***
***Тем хуже человеку...***

Гэта з гадамі можна заўважыць, як развітваюцца з паэтам:

***И хвалят, как благодарят***
***за то, что умер.***

Трэба самому папрацаваць, як любілі казаць камуністы, на нізавых участках, каб не паўтараць за лозунгам: "завод мой — гонар мой", а сказаць да болю шчыра:

***Коль с работы — спиной к заводу,***
***На работу — к избе спиной.***

Па-людску сказана на тэму сувязі горада з вёскай. Жыццё без прыхарошвання, без паточнай і пафаснай патэтыкі, бо ў душу ліецца

***Давно не мытых окон***
***тоскливо-нежный свет.***

Пра вечнае запусценне, пра зніканне жыцця з жыцця гаворыць адзін радок: "Двери открылись — и ветер вошел".

Балючай усмешкай бадзёрыць паэт вечную тэму багацця й галечы:

***Бедняк — богатый человек, —***
***он просит очень мало...***

Хай не складзецца ўражанне, што ў вершах Ізяслава толькі пракідваюцца ўдалыя радкі. Паэт валодае майстэрствам дасканала. Проста памеры слова не даюць мажлівасці цытаваць болей, большымі кавалкамі. Не ўтрымаюся ад спакусы і дазволю сабе даць слова вершу Ізяслава Катлярова цалкам.

***Так естественно птица летит,***
***Словно крыльями вовсе не машет...***
***Ну, а как ей дается зенит, —***
***Никому даже криком не скажет.***

***Выше, выше... И падает вдруг, —***
***Неужели и впрямь от бессилья? —***
***Так, что тенью царапают луг***
***И за воздух хватаются крылья.***

І такіх вершаў тонкіх, вытанчаных, зоркіх, поўных паветра й руху цэлыя кнігі. І піша паэт і спавядаецца сам сабе:

***Я просто шел одновременно***
***с людьми и все же от людей.***

У Ізяслава Катлярова няма газетных, надзённа аднадзённых вершаў. Часцей й часцей задумваецца над сэнсам жыцця, над сэнсам быцця. І таму

***Первая фраза — всегда как молитва, —***
***Богу и новому дню.***

А новых дзён усё менее й менее,

***...и память боится***
***вместо жизни оставшихся лет.***

І на рэшту гадоў паэт дае параду мастаку, а значыць — і сабе:

***Не саблю острую пиши,***
***а блеск от сабли.***

Да холаду сумна й самотна паэту й чытачу ягонаму ад высновы:

***И ничего вернее смерти***
***на свете не было и нет.***

Але смерць не існуе сама па сабе. Яна забірае жывое, косіць жыццё. І кожнае новае жыццё — атава, якая адскоквае з-пад касы. Ізяслаў Катляроў слушна заўважае: "для вечности мгновенья не хватило". Для вечнасці аднаго жыцця.

Лічба 60 у люстэрку лёгка робіцца як 90. На першым халку жадаю Ізяславу Катлярову 90. Пакуль.

І няхай ягонай паэзіі хопіць імгнення.

Гэта Ізяслаў Катляроў сказаў:

***Меньше неба души не бывает.***

**Рыгор БАРАДУЛІН**

УГОДКІ

# Хараша, светла, сумленна

## СТАНІСЛАВУ ШУШКЕВІЧУ СПОЎНІЛАСЯ Б 90...

Менавіта так пражыў сваё жыццё вядомы беларускі пісьменнік Станіслаў Пятровіч Шушкевіч. Ён, як вядома, належаў да пакалення, на долю якога выпала рознае. У самым пачатку жыццёвай дарогі панавала ў душы радасць, акрыленасць ад усведамлення таго, што паўсюдна ладзіцца новае жыццё і можна прыняць у ім самы чынны ўдзел. Пазней нярэдка станавілася на сэрцы трывожна, бо нельга было не заўважыць, што наўкола шмат падазронасці, абвінавачванняў, а дэмагогія падмянае добрыя справы. У гады ж юнацтва стала і страшна. Неадпойчы думалася, а ці не цябе самога ліхі лёс.

Станіслава Пятровіча ён не абмінуў. 15 лістапада 1936 года яго арыштавалі, зрабілі "ворагам народа", асудзілі на восем гадоў пазбаўлення волі. Знаходзіўся ў турме, у лагеры, а пасля аваладваў новымі прафесіямі — быў шахцёрам, цеслем, бухгалтарам. У 1946 годзе, здавалася б, справядлівасць перамагла — прыйшло чаканае вызваленне. Аднак на Беларусі пажыць доўга не давялося. Настаўніка Данілавіцкай сярэдняй школы Дзяржынскага раёна С. Шушкевіча чарговы раз арыштавалі ў 1949 годзе і адправілі на спецпасяленне ў Краснаярскі край. Працаваў лесарубам, у геалагічных партыях і экспедыцыях. І толькі ў 1956 годзе стаў свабодным назаўсёды.

Давялося ўсё пачынаць нанава. І не толькі ў жыцці, а і ў літаратуры. Да арышту паспеў толькі выдаць дзве кніжкі: для дзяцей "Звярыны баль" (1936) і "дарослую" — "Вершы" (1934). Новыя ўваходзіны пачаліся з верша, напісанага яшчэ тады, калі на катэры з сям'ёй плыў па Ангары, пачаўшы шлях вяртання на Беларусь:

***Белы мой лебедзю, мой пабрацім,***
***Над Ангарою з табой пралязім***
***І над тайгою гарыстай пакружым.***
***Шмат тут прастору смелым і дужым.***
***Мужным і дужым!***

А мужнасць яму спатрэбілася яшчэ неаднойчы. І тады, калі на пісьменніцкіх з'ездах, розных сходах (у тым ліку і партыйных) гаварыў бескампрамісную праўду ў вочы. Не ў апошнюю чаргу тым, хто яшчэ не так даўно пісаў на сяброў даносы, а цяпер стаў "чысценькім", павучаў іншых, як жыць, як тварыць, якім сумленным трэба быць.

Гэтую ж праўду гаварыў Станіслаў Пятровіч і тады, калі за плячыма было ўжо 80 пражытых гадоў. Не мог не гаварыць, бо сумленне не дазваляла. А яшчэ памяць перад сябрамі-пісьменнікамі, якія назаўсёды засталіся на неабсяжных прасторах Сібіры.

У імя гэтай памяці, дзеля гэтай памяці ён і пісаў кнігу ўспамінаў "Вяртанне ў маладосць" (1968). А каб пісаць яе, патрабавалася не толькі мужнасць, а і дужасць. Маральная дужасць. Яно вядома, якія тады часы пачыналіся. Зноў замоўчвалася перажытае ў 30-ыя гады. Зноў чуліся суцэльныя воплескі чарговаму геніяльнаму, прабачце, генеральнаму сакратару ЦК КПСС. А тут — гаворка пра Змітрака Астапенку, Улазіміра Хадыку, Барыса Мікуліча, Валерыя Маракова, Платона Галавача, Васіля Каваля — хіба пералічыш усіх! І расказ пра той складаны час, які спрабавалі выкрасліць з гісторыі. Мужнасць С. Шушкевіча асабліва стане відавочнай, калі прыгадаць, што некаторыя пісьменнікі, хто перажыў гэтаксама шмат, як і ён (не ў папрок ім сказана), нават у коле сяброў баяліся гаварыць пра тое, што было там. Баяліся, бо не былі ўпэўнены, што зноў не апынуцца ў тых жа краях.

Нават калі б С. Шушкевіч, акрамя кнігі "Вяртанне ў маладосць", нічога не напісаў, ён заслугоўвае таго, каб яго імя прамаўлялася з пашанай. А на яго ж рахунку амаль дваццаць кніг паэзіі, прозы для дзяцей. Перачытваючы сёння "Лясную калыханку", "Сарочы церамок", "Будзільнік", "Вясёлыя дзятлікі", "Колькі кіпцікаў у кошкі", "Лісу з магнітафонам", "Казла на верталёце" і іншыя, па-ранейшаму здзіўляешся багатай фантазіі аўтара, яго ўменню ствараць яркія, непаўторныя вобразы, здатнасці жыць светам дзяцей. А дзеці — дзеці зачытваюцца гэтымі кніжкамі гэтаксама, як у свой час захапляліся імі іх бацькі. Бо ў творах С. Шушкевіча — дабрыня, шчырасць, зноў жа светласць. Лепшыя яго творы для дзяцей сталі класікай беларускай дзіцячай літаратуры.

У параўнанні з творамі для дзяцей "дарослая" паэзія С. Шушкевіча часам, магчыма, крыху прайграе. Гэта — калі гаварыць агулам. Але ўспомнім том "Выбранага" 1988 года, які выйшаў у выдавецтве "Мастацкая літаратура". Пад адной вокладкай былі сабраны і творы для дзяцей, і сатыра, гумар. Знайшлося месца роздуму аб пражытым і перажытым. Шкада, што не трапілі ўспаміны. Ды Станіслаў Пятровіч усё спадзяваўся, што і яны, дапрацаваныя, дапоўненыя, у рэшце рэшт выйдуць.

Не дачакаўся. 1 лютага 1991 года стаў апошнім днём у жыцці гэтага выдатнага чалавека, таленавітага пісьменніка.

Ёсць у С. Шушкевіча радкі, якія можна ўспрыняць і яго творчым крэда, але адначасова і запаветам нам, наступнікам:

***...Гарэць, палаць, свяціць, іскрыцца,***
***Ісці наперад, бачыць далячынь,***
***Меціць сэрца і душу, як светлую крыніцу,***
***Народу ўсё аддаць. Радзіму берагчы.***

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

РЭЗАНАНС

# Ой, туманы мае, растуманы...

## або Бальшавіцкая ўчэпістая хватка змагара з таталітарызмам

Прачытаў я артыкул Сяргея Дубаўца "Ружовы туман". Раздзел з гісторыі таталітарызму" ("ЛіМ", N 2 ад 9 студзеня) і ахнуў. І яшчэ раз пераканаўся, з якою сілаю бальшавіцкая ідэалогія ўжылася і ўелася ў нашу свядомасць, падсвядомасць, ва ўсе інстынкты, а можа, і ў гены. Бо так хлёстка, так уедліва, так выкрывальна і непрымірыма пра цэлую эпоху беларускай літаратуры можа пісаць толькі чалавек, кожная часцінка якога перанасыцілася ідэалогіяй бальшавіцкага тыпу.

Я па сваёй наіўнасці да гэтага часу думаў, што беларуская савецкая літаратура выратавала беларушчыну як гістарычную з'яву, беларускую мову як штосьці самабытнае ў сям'і іншых моў, захавала нацыянальную свядомасць аўтараў і чытачоў (перш за ўсё школьнікаў, часткі студэнтаў, дзеячаў культуры), садзейнічала таму, што Беларусь не ператварылася зноў у Паўночна-Заходні край і толькі такім чынам стала незалежнай дзяржавай. Але не, і, як сказаў бы Мацей Бурачок, "паздароў, Божа, добрых людцоў" — ну, хай сабе аднаго чалавека, ад якога я даведаўся, "што ўся беларуская савецкая літаратура — гэта не раздзел беларускай літаратуры, а раздзел іншае дысцыпліны". "Нічога не вылушчыш з кніг (...) Мележа, Танка... там паўсюль ёсць або няпраўда, або метастазы сатанізму, ачалавечання бесчалавечнасці". Не было літаратуры, а быў толькі туман, які напускалі і Колас, і Куляшоў, і Панчанка, і Танк, і Мележ, і Брыль, і Шамякін, і Бураўкін, і, мабыць, Караткевіч, і, мабыць, Макаёнак, і, мабыць, Гілевіч, і, мабыць, Дубоўка, і, мабыць, Зарэцкі.... А хіба ж можна ўсіх перапалічыць?

Прынцыповасці аўтара "Ружовага туману", яго непахіснасці маглі б пазайздросціць найбольш стойкія выхаванцы трацкісцка-сталінскай ідэйнай школы. На яго фоне такія ідэолагі, як Жданаў або Суслаў, выглядаюць бездапаможнымі дылетантамі-пачаткоўцамі.

...Аднойчы ў пачатку 80-х гадоў у славутым Маскоўскім фізіка-тэхнічным інстытуце група студэнтаў правяла ў інтэрнаце сяброўскую спрэчку аб тым, чыя мова прыгажэйшая. Ініцыятарам яе выпадкова аказаўся прадстаўнік братняе Украіны. Кожны з удзельнікаў павінен быў даказаць сваю правату вершам на роднай мове. І найлепш успрыняўся — гэта прызналі ўсе прысутныя — верш "Пахне чабор", якому так не сімпатызуе наш Сяргей Дубавец.

Не падазравалі і не даведаліся бедненькія студэнты-фізтэхаўцы, што яны адзін на аднаго напускалі такі густы ружовага колеру туман... Але даруем ім. Праўда?

**Уладзімір КАЗБЯРУК**

# Заплямленыя...

Пошук праўды, чысціні — найважнейшая і найцяжэйшая задача ў чалавечым жыцці. Прачытаў толькі што — і невыпадкова — артыкул Сяргея Дубаўца "Ружовы туман" і вымушаны быў прызнаць: усё — праўда. Як кажуць, горкая пілюля, якую хочаш не хочаш, а павінен праглынуць...

Вось кажуць, што не трэба аплёўваць мінулае. А хіба яго можна пагоршыць, як бы мы ні пляваліся?

Усе мы — ахвяры вялікамаштабнай маніпуляцыі з чалавечай свядомасцю. Чаго варта хаця б тое, што ў школе не вывучалі раней ні Ясеніна, ні Блока, ні Дастаеўскага, ні Булгакава, ні Платонава! Што, гэта — справядліва, аб'ектыўна? Гэта — сумленна? Яно і так нялёгка далучыцца растучаму чалавеку да сур'ёзнай літаратуры (патрэбен час, уседлівасць, цікавасць), а калі яе яшчэ **зачыняць**?

Я — былы настаўнік, выкладчык рускай мовы і літаратуры, таму гэта тэма мяне закранае непасрэдна.

Я ўсёй сваёй істотай працiвіўся таталітарнай плыні ў педагогіцы. Гуманістычныя ідэі я пачэрпнуў дзе б вы думалі? У нашай жа таталітарнай прэсе. Там "Святых намераў", высокіх заклікаў было многа, і гэтыя зерні падалі на добрую глебу. А яшчэ на мяне, хоць і з цяжкасцю, але ўздзейнічалі погляды і перакананні бацькоў, праваслаўных хрысціян, за што я ім, цяпер ужо нябожчыкам, вельмі ўдзячны.

Вось пішу я гэта і ўсведамляю, што мае словы з поўнай падставай можна разумець як канфармізм, імкненне трымаць нос па ветры. Нам ужо няма даверу, нават з боку саміх сябе. На нас — тое самае таўро, аб якім сказаў Сяргей Дубавец. Мы — заплямленыя...

**Дзям'ян ДАБРЫЯНІК, пенсіянер**

*в. Палянічыцы, Баранавіцкі раён*

# Нагода дзеля сур'ёзнай размовы

Не ведаю, чаму ў паважанага спадара Валянціна Акудовіча артыкул Сяргея Дубаўца "Ружовы туман" выклікаў такую эмацыйную рэакцыю, а даўно агучаныя дубавецкія пастулаты ўспрыняліся свежа, як толькі з печы. Гэтак жа радыкальна Дубавец пісаў і ў першай палове 90-х. Дазволю сабе адну цытату. "А я ўсё думаў — як зьвязаць творчасьць паэтаў майго пакаленьня з творчасьцю ўсіх гэтых панчанкаў, камейшаў, макалёў? Паміж імі — прорва". ("Ідэя Мёрвага Дому", "Наша Ніва", N 3, 1994 г.). Як бачым, у "Тумане" нічога новага няма (апроч некаторых "тэрмінаў"). І не нагадвае мне Дубавец ні "блазна на дроце", ні "трукача", як удакладняе Акудовіча Ала Сямёнава. Няўжо ягоныя выступленні разлічаны дзеля "арэны, сцэны, тэатра"? Глупства! Яны задужа сур'ёзныя і ідэалагізаваныя, каб імі пацяшаць публіку. Давайце і мы не будзем займацца "туманнай" міфалагізацыяй. Як ні круці, мусім прызнаць: сёння нават не брэжнеўскія часы, калі за публічна выказанае меркаванне патраплялі ў лагер. Вядома, можна згубіць пасаду, прыхільнасць уладаў, "кармушку". Але наўрад ці песімістычны апазіцыянер верыць, што ў наш час у ГУЛАГа ёсць шанцы на вяртанне. Таму навошта прыдумляць, каб потым, калі зноў "пацяплее", не ведаць, што рабіць з уласнымі прыдумкамі. Інакш мы ніколі не навучымся прамаўляць праўду. Усё нейкія намёкі, алегорыі, параўнанні — скразная эзопава мова.

Я падумаў, чаму менавіта сёння пазіцыя Дубаўца нарадзіла такі рэзананс, а не, скажам, у спрыяльным для беларушчыны 1994 годзе? Бо дубавецкія тэзы ў 94-м адрэналіну не выклікалі. Сёння выклікаюць. Таму зноў гучыць эзопава мова, а старэйшыя (мудрэйшыя) таварышы мякка ўшчуваюць маладзейшых за "правакацыйную" рызыку.

Мне здаецца, што Дубавец напісаў "Ружовы туман" і прапанаваў яго "ЛіМу", пасля таго, як адчуў, што беларускае пісьменніцтва стамілася быць у апазіцыі да прэзідэнта (няхай і пасіўнай). Рыцары пяра скемілі, што бацька "ўсур'ёз і надоўга", таму трэба неяк уладкоўваць свой лёс. Гэта значыць пісаць тое, што трэба ўладзе. І тут з'яўляецца Дубавец, прыжмурвае, як толькі ён умее, вока і сурова пачынае трэсці перад насамі пальцам — вы што, мы класікам не даруем учорашняе рэнегацтва, а вы туды ж лезеце, няўжо гэтая навука вам не перасцярога?! І з годнасцю з'язджае ў Вільню, бліжэй да Вострай Брамы.

Увогуле, дыскусія, якая ўзгарэлася пасля выступу Дубаўца ў "ЛіМе", не вартая выедзенага яйка. Зразумела, усё таталітарнае літаратурнае шалупінне асыплецца, як хвоя з навагодніх ёлак. Зразумела, застанецца лепшае і сапраўднае. Зразумела, няма беларускай літаратуры без Танка, Мележа, Куляшова і ets. Зразумела, літаратура непадзельная з гісторыяй краіны, з якой нават Бэндэ не выкінеш. Зразумела, "у вайны няма Айчыны". Але тое, што мы пражылі, засталося ззаду. А што рабіць зараз? Куды рухацца? На што спадзявацца?

Я не хачу пераймаць лаўры "пагромшчыка" ў Дубаўца, але мушу сказаць, што мы зусім не маем літаратурнай крытыкі, на сёння яе імітуе нейкая калялітаратурная тарабаршчына. Адсюль нашыя "канцэптуальныя" праблемы. Неяк у "ЗНО" я пісаў, што нам жыццёва патрэбны літаратуразнаўчы часопіс (па магчымасці — незалежны) з маладым сучасным рэдактарам на чале. Няхай Дубавец закладае падваліны новай здаровай беларушчыны (дарэчы, я не згодны, што на Дубаўца паўплываў кантэкст Радыё "Свабода", хутчэй Сяргей Іванавіч уплывае на "Свабоду" сваім кантэкстам), дык вось, падваліны — падвалінамі, але камусьці трэба парупіцца і пра літаратуру. Бо апісванне тыпова беларускіх пазіцый у занятку сексам і вынаходніцтва пазіцыі "Плуг, або хлопец пашаньку пахае" наўрад ці можна назваць здабыткам сучаснай беларускай літаратуры.

Чаму не маем крытыкі? Таму што калектывізм СП дайшоў да абсурду: сёння я напішу пра цябе, а заўтра ты пра мяне. Чаго варты гэты калектывізм, мы пабачылі на прыкладзе абароны Дома літаратара. Таму досыць адвечныя песні спяваці. Па мне дык лепш (думаю, і для літаратуры таксама), калі б існавалі на Беларусі з тузін літсуполак, якія са сваіх асяродкаў выпіхвалі на паверхню самых вартых, а паміж імі далей пачыналася б сапраўдная канкурэнцыя (у цывілізаваных рамках). Бо далей новых класікаў бел. літаратуры будзе прызначаць не ідэалагічны аддзел ЦК, а Адміністрацыя прэзідэнта. Працэс гэты ўжо пайшоў. Да прыкладу, са школьных падручнікаў па літаратуры загадана прыбраць Арсенневу, Сяднёва і Генiюш; дзяржвыдавецтвы ачысцілі ад усіх нядобранадзейных і г.д. Пачнуць ствараць новых "глебак". А "моркаўкі" так і застануцца незаўважанымі. Праз нейкі час новы Дубавец будзе патрабаваць выграбсці канфармісцкае смецце. І гэтак бясконца.

Значыць, трэба менш спадзявацца на дзяржаву і глядзець чыноўнікам у раты, а больш працаваць на фармаванне аўтаномнай культурніцкай прасторы. Пісьменнік, калі піша твор, абавязкова на нешта арыентуецца. Трэба стварыць такія ўмовы, пры якіх ён арыентаваўся б не на прэзідэнта і ўладу, а на грамадскую думку — уражанні чытача, слова літаратурных крытыкаў, меркаванне калегаў. І толькі гэтак перамагчы таталітарызм.

На самай справе ніякай вайны не атрымаецца. Вайну выклікае жаданне паквапіцца на чужое. Ці варта дзяліць у век камп'ютэраў антыкварныя друкаваныя машынкі?

(Працяг на стар. 14—15)

# Гвалт пустаты

Студэнтамі мы вымушаны былі вывучаць некаторыя працы "класікаў марксізму-ленінізму". Памятаю, як нават фізічна цяжка было хаця б на "тры балы" здаць экзамен па "навуковым камунізме". Аднойчы мы з сябрам, здаўшы залік па гісторыі КПСС, проста ў апусцелай аўдыторыі выпілі пляшку таннага віна, а потым са злосцю падралі і патапталі канспекты работ. Нам шкада было дарэмна патрачаных сіл і згубленага часу. Дадам, што цяпер мне шкада іх яшчэ больш.

На факультэце журналістыкі (не ведаю як цяпер) вывучалі і такі "прадмет", як гісторыя бальшавіцкага друку. Гэта ўжо была суцэльная вакханалія крыклівых ленінскіх цыдулак. Што здзіўляла заўсёды ў ленінскіх артыкулах, дык гэта іх душэўная незабяспечанасць. Быццам пісаў НЕ ЧАЛАВЕК, а мікралептонны кластэр, прыкладам, ці яшчэ ШТО. Толькі пасля прыйшло разуменне таго, што пустата — адсутнасць душы — у форме слова, сціраючы якое бачыш хлусню — асноўная прыкмета метастазаў сатанізму. Тых самых, якія згадаў, дакладней — закрануў С. Дубавец у артыкуле "Ружовы туман".

Сатанізм, як фактар метафізічных адносін, можа авалодаць не толькі асобнымі людзьмі, а цэлымі народамі і дзяржавамі, — пра гэта даводзілася чуць неаднаразова. Модная тэма. І прырода гэтых з'яў да канца невытлумачальная. Ну, гавораць жа за сябе быццам бы і нязначныя факты з біяграфій роданачальнікаў "самага перадавога вучэння".

Вось Ільіч, які ў час паводкі забівае на выспе безабаронных зайцоў, кідае ў Горках каменнем у салаўёў... Вось Маркс, які ўсё жыццё пражыў за кошт іншых... Вось Даларэс Ібаруры, па мянушцы "Пасіянарыя" ("апантаная"), якая зубамі перагрызае горла палоннаму... Прыклады можна доўжыць. Д'ябальшчына, якая спараджала і адпаведных герояў: Анку-кулямётчыцу (нармальная жанчына ляжа за кулямёт?), фанатыка Паўку Карчагіна і г.д.

Днямі глядзеў па БТ дакументальны фільм пра Любоў Арлову. Хранікальныя кадры, дзе яна ездзіць вярхом на сваім будучым мужы — рэжысёры Аляксандраве — і хвошча таго венікам, змусілі падумаць пра клініку і падручнік па сексапаталогіі. Аказваецца, гэткім чынам яны быццам бы "рэпеціравалі" сцэну з фільма "Вясёлыя хлопцы". Дарэчы, сам фільм — феномен пустаты і непрыхаванай нянавісці ў першую чаргу да інтэлектуалаў, да эліты. Успомнім хоць бы ўварванне статка ў дом: усіх тых свіней, кароў і авечак (дарэчы, баран носіць мянушку "Прафесар", яго здымаюць у акулярах — непрыхаваны аванс у бок інтэлігенцыі), і вярхом на быку задам наперад — чароўная "сталінітачка".

У 1936 годзе адзін з галоўных літаратараў усёй савецкай імперыі, у якую ўваходзіла і Беларусь, Мікалай Астроўскі пісаў у прадмове да з'езда пісьменнікаў:

"Няхай жыве дзівоснае жыццё ў краіне! Няхай жыве 1936 год, год імклівага руху вызваленага народа, уперад!"

І яшчэ: "Наша літаратура — літаратура праўды, сацыялістычнай праўды цяпершчыны і будучыні чалавецтва. Буржуазнаму пісьменніку, сведку жахлівага прыгнёту працоўнага люду кучкай паразітаў, даводзіцца шмат хлусіць чытачу ў сваіх творах. Нам жа няма чаго хлусіць. Жыццё наша дзівосна прыгожае, рамантычнае. Яно дае нам масу цудоўных вобразаў, яны эскадронамі ўрываюцца ў мозг, запаўняюць яго, адзін за другі цудоўнейшыя, магутнейшыя".

Пустата робіцца агрэсіўнай. Эталоны яе — "Маці" М.Горкага і "Як гартавалася сталь" М. Астроўскага, выдаюцца дзесяткамі мільёнаў (!) экземпляраў, перакладаюцца на іншыя мовы свету. На метастазы сатанізму хварэе не толькі руская савецкая літаратура (у найбольшай ступені), а і літаратуры іншых народаў. (Л. Арагон, П. Элюар, А. Стыль, Б. Ясенскі, П. Неруда і г.д.).

У гэтым ракурсе выказванне (па С. Дубаўцу): " беларуская савецкая культура, як прадмет сатанінскага культу" — не адпавядае ісціне. "Метастазы сатанізму" ў беларускай літаратуры — гэта хіба што неабходныя культавыя матывацыі перад звыклым вяртаннем у рэчышча жывога: плуга, касы, работы, хлеба... Хутчэй ужо традыцыяналізм быў яе сапраўднай хваробай.

"Іставасць у веры — прыкмета слабасці альбо вар'яцтва", — сустрэлася нядаўна ў Р. Хайнлайна. У беларусаў ніколі не было гэтага: нам тую "іставасць", той гвалт пустаты прышчаплялі і навязвалі звонку.

Метастазы сатанізму і, як пастфактум, далейшы распад культуры "апусцілі" ў першую чаргу рускую літаратуру. У XIX стагоддзі яна займала першае месца ў свеце, а пасля прыняцця "перадавога вучэння" пачала імкліва губляць свае пазіцыі. І тады з'явіўся Э. Лімонаў і іншае "внатуре по жизни"...

С. Дубавец, як мне здаецца, распачаў абмеркаванне праблемы, якая ў многіх аспектах штучная. Я б рызыкнуў сказаць, што яго артыкул "напамінальны", як, прыкладам, напамінальным можа быць абмеркаванне леташняй паводкі. Аўтар хіба што падышоў да праблемы, але тая праблема — мяркую, тэма гаворкі для філосафаў, парапсіхолагаў ды псіхааналітыкаў.

У звязку з гэтым, думаецца, усё-ткі найбольшую небяспеку для нашай постперабудовачнай культуры ўяўляе не тое, што было, а тое, што ёсць і набліжаецца напярэдадні дваццаць першага стагоддзя. Прывіды сатанізму заўсёды спакушалі і будуць спакушаць масы, тым больш у найадказны перыяд гісторыі, у які ўсе мы закручваемся, як у мясарубку: няхай сабе тут і Інтэрнет, і кланіраванне чалавека, і многае іншае.

Неасатанізм не знік і не выпарыўся з нашай культуры і літаратуры, у прыватнасці. Ён хіба што набыў новыя формы, і варта прызнаць яго трыумф, як рэальнасць і асэнсаваны фактар жыцця ў постсавецкім часе. І каб пазбавіцца гэтага, у нас, пэўна, ужо няма ні матэрыяльных, ні духоўных рэсурсаў.

Мы бачым не "ружовы туман", а хутчэй за ўсё пустату — як край бездані. Але, як сказаў празорца: "Не глядзі доўга ў бездань, а то бездань можа ў адказ зазірнуць табе ў вочы..."

**Юры СТАНКЕВІЧ**

**Дыскусію распачатую Сяргеем Дубаўцом і Валянцінам Акудовічам працягваюць Уладзімір КАЗБЯРУК, Юры СТАНКЕВІЧ, Алесь АРКУШ і Дзям'ян ДАБРЫЯНІК**

# З Богам і людзьмі — па-беларуску

**Нядаўна ў Беластоку выйшлі з друку дзве, на маю думку, вельмі патрэбныя рэлігійныя кніжкі айца Кастуся Бандарука.**

**Многія з нас добра ведаюць яго голас, які далятае з Прагі, з Беларускай рэдакцыі Радыё "Свабода", дзе ён працуе ўжо даволі працяглы час. Рэлігійныя гутаркі айца Кастуся даўно прыцягнулі ўвагу і з'яўляюцца для нас добраю крыніцаю інфармацыі пра асновы духоўнага жыцця. Вельмі важна, што гэта слова беларускае, бо сам айцец — беларускі праваслаўны святар, родам з Беласточчыны. Да пераходу на Радыё "Свабода" ён вёў прыход праваслаўнай царквы св. Юрыя ў Чыкага (ЗША), таму мае не толькі багатыя тэарэтычныя веды ў галіне царкоўнага жыцця, але і добра ведае практыку службы менавіта ў беларускай праваслаўнай царкве. Сёння вельмі мала такіх святароў, больш у беларускім замежжы, і толькі адзінкі — у самой Беларусі. Як піша аўтар у прадмове да адной з кніг: "Цяперашняе месца беларускай мовы ў Храме — вядомае, але не заўсёды гэтак мусіць быць". З гэтай думкаю пра будучыню, пра патрэбы вернікаў у інфармацыі ў галіне духоўнага жыцця, пра неабходнасць далучэння іх да веры і царквы праз роднае слова і пісаў айцец Кастусь свае кніжкі.**

**Першая — "Пазнай Сваё" — гаворыць пра сябе ўжо назвай. У простай, даходлівай форме выкладзена неабходная інфармацыя з галіны літургічнага жыцця Царквы: пра малітву, святарства, багаслужбы, абрады, пасты, святы, асноўныя абавязкі праваслаўнага хрысціяніна.**

**Другая — "Праўда нас вызваліць — адрасавана праваслаўным беларусам незалежна ад узросту. Чытачам прапануецца некалькі дзесяткаў рэлігійных гутарак. Большая частка з іх узята з казанняў падчас святарскай службы а. Кастуся, астатнія рыхтаваліся і прагучалі ў перадачах Радыё "Свабода". Гутаркі могуць быць карысныя і для вернікаў, і для святароў пры падрыхтоўцы казанняў у царкве. У іх не толькі даступна паясняюцца стражытныя тэксты Евангеля, але прысутнічае і свабоднае разважанне аўтара пра іх сэнс, што робіць іх больш успрымальнымі і для кожнага чалавека.**

**Выданне кніжак сталася вынікам супольных намаганняў як самога аўтара, так і многіх беларускіх праваслаўных вернікаў у замежжы. Больш чым 25 прыватных асоб з беларускай эміграцыі ў ЗША зрабілі ахвяраванні, а таксама Беларускі грамадскі цэнтр, царква св. Еўфрасінні, сястрынства і хор пры ёй з Саўт-Рывера, царква Жыровіцкай Маці Божай у Кліўлендзе. Рэальнаю працаю дапамаглі беларусы з Беластока: Віталь Луба зрабіў рэдагаванне і карэктуру, а тэхнічную рэдакцыю — Аляксандр Максімюк. Па гэтай прычыне і месца выдання кніг пазначана "Беласток—Прага—Саўт-Рывер".**

**Набыць кніжкі можна ў Беластоку, у рэдакцыі газеты "Ніва" па адрасе: Bialystok, ul. Zamenhofa, 27. Polska tel. 435022**

**Ганна СУРМАЧ**
**старшыня рады ЗБС "Бацькаўшчына"**

# Родам з Пухаўшчыны

**Уладзімір Ляпёшкін нарадзіўся ў вёсцы Церабель Пухавіцкага раёна 8 лютага 1928 года ў сям'і настаўніка. Відаць, таму, скончыўшы сярэднюю школу ў Рудзенску, паступіў на літаратурны факультэт Мінскага педагагічнага інстытута імя М. Горкага. Працаваў выкладчыкам беларускай літаратуры і мовы ў школах Мінска, быў завучам, дырэктарам. З 1970 па 1979 год У. Ляпёшкін — дырэктар выдавецтва "Народная асвета", а затым да 1987 года — дырэктар сярэдняй школы N 23 г. Мінска. Не стала Уладзіміра Ігнатавіча 5 лютага 1994 года.**

**Друкавацца пачаў у 1949 годзе. Выдаў кнігі паэзіі "Ранішнія росы", "Рупнасць", "Роднае", "Вусце", "Перадлецце", зборнік паэзіі для дзяцей "Званкі-званочкі".**

# Голас нямых каменняў

*(Працяг. Пачатак на стар. 5)*

Маё жыццё непраглядным, абложным туманам укрывае няпэўнасць, немінучасць старасці і нейкай глухаты, нячуйнасці ўжо ўласнае душы. І толькі на сподзе яе сочыцца, вірыць кволае, ледзьве жывое жаданне напісаць выпакутаваную аповесць пра страту чалавечай надзеі, што ўвесь час натыкалася на жорсткасць, несправядлівасць і ашуканства. Эпіграфам былі б словы Мантэня з яго "Пробаў" ці "Дасведчанняў": "Ад думак пра смерць больш прыкрым робіцца жыццё, ад думак пра жыццё — смерць".

У пасмяротнай кнізе Іва Андрыча "Знакі ўздоўж дарогі" ёсць філасофска-публіцыстычны эцюд пра бялградскага мэтрдатэля, вышкаленага рэстараннага кельнера, які, збольшага валодаючы замежнымі мовамі, угодліва, па-плябейску прыгінаючыся, сустракаў ангельцаў, італьянцаў, немцаў. Аднак з тутэйшымі наведвальнікамі, хто загаворваў да яго па-сербску, рабіўся хамаватым, шорсткім, са злоснымі вокрыкамі і пагрозамі.

Як заўважыў Андрыч, кельнеру здавалася, што быць далікатным на сербскай мове проста немажліва.

Не дзіва, што на маім родным праспекце Скарыны так шмат плакатаў, транспарантаў і вывесак з шыльдамі на замежных мовах. Тады-сяды мільгане беларускае слова, напісанае ці выстаўленае нават з нейкім зларадствам.

Як жа, аднак, шмат у нас нязводных кельнераў, угодлівых і па-рабску адданых усяму чужому. І як яны, закасаўшы рукавы, стаяць каля беларускага рэліктавага слова, што ўздымаецца папраўдзе, як сасна, нагадваючы сямісвечнік, з вагкімі, да адчаю наточанымі лесарубнымі сякерамі.

Порыстаю, як свежы пенапласт, беласіняватаю парошаю за ноч абнавіліся і пахарашэлі гарадскія двары і дахі. Сонца залоціць край цяжкай хмары, што, як падтоплены айсберг, асядае за доўгаю сцяною вохрыстых будынкаў. Малады ранак. Перадкаляднае хараство. Але за акно ўніз не зірнуць. Затуліўшыся за бытавыя сінія вагончыкі, пахмяляюцца маладыя мужчыны з апухлымі, бурачковымі ў тварах жанчынамі — разліваюць у белыя пластмасавыя "стаканчики" празрыстую гарэлку. Дастаюць з жоўтае аблушчанае сумкі, што стаіць пад нагамі, вялае сала і хлеб.

Страшна аднак робіцца ад нашага, ужо суцэльнага п'янства каля гарадскіх сметнікаў. Балазе, хоць гэтыя не шукаюць чым закусіць у блізкіх кантэйнерах з яшчэ непрыбраным смеццем.

Чалавек — грэшны. І шкодзіць найбольш сам сабе: распіўся, разбэсціўся. Але ж нехта дзеля нажывы свае ў кожным калгасе і саўгасе паставіў бровар — найноўшую шведскую гарэлачную лінію.

Змаганне ідзе не за чалавека і не за яго маральную чысціню і душу, а за спакуслівы долар з лабатым Франклінам у авальным крузе. І дзіва — усе трапляюць у гэты замкнёны круг.

Лепш, мусіць, чытаць Петруса Барэля, чым Петруся Броўку. Дзякуй Богу, я і не разгортваў "Калі зліваюцца рэкі", бо быў ужо хітрэйшы ці навучаны, пасмакаваўшы ў падлеткавыя гады гэтак называную прозу лясных салдатаў. Помніцца, як у школьным калідоры, не адступаючыся, прачытаў удэкараваную сталінскай прэміяй куляшоўскую паэму "Новае рэчышча" (яе перадрукавала, здаецца, газета "Звязда", якая і была вывешана на калідорнай дошцы), і быў не толькі расчараваны, а хутчэй — зняважаны, што не натрапіў ні на адзін радок, які адгукнуўся б у душы паэтычнаю струною. Я быў бескампрамісны, як і шмат хто ў свае пятнаццаць гадоў. Не прыняў, вядома, і куляшоўскага зборніка з непрыязнаю, гнятліва-палітычнаю назваю — "Камуністы". У светлыя маладыя гады магнэзам цягнула да зваблівa-прыгожага слова, таемна неразгаданага, узнёслага, можа, нават перасаладжанага:

***Падаюць сняжынкі — дыяменты-росы,***
***Падаюць бялюткі за маім акном...***

Шчымлівая, з непрыхаванай слязою, пералітая цераз край юначая шчырасць Паўлюка Труса была сугучна маёй душы, а цвярозая, утрамбаваная ці, дакладней, заасфальтаваная праўда Куляшова няміла адхіляла, бо за вершаваным сухаватым, рацыянальным радком угадваўся вымушаны фальш. Пазней, ужо ў шасцідзесятыя гады, я намагаўся зразумець раскаянае, балюча зраненае сэрца Аркадзя Куляшова.

Плод граху і плод справядлівасці. На гэтых шалях вагаецца наша душа. І мне прыгадаўся найвялікшы пакутнік Янка Купала...

***Любіць... Каго, за што любіці?***
***І ненавідзець сіл няхват.***
***О Божа праведны, ты сілу***
***Сваю вяліку акажы,***
***Не згінуць з бацькаўшчынай мілай***
***Свайму слузе дапамажы.***
***Сашлі мне светлую падмогу***
***Астаткі сіл сваім аддаць***
***І — не зрабіўшы брату злога —***
***Пад крыжам бацькавым сканаць.***

У забытага і зноў успомненага, як гэта бывае ў жыцці і літаратуры, рускага паэта Канстанціна Бальмонта тое ж дзівацтва, узнёсласць і дзіцячая наіўнасць, як у нашага Уладзіміра Караткевіча. І той жа ж пекны, прыўзняты на пальчыкі стыль: "...был на концерте Прокофьева. Он играл, как юный Бог! Это было волшебство". "Историк Haumant (Оман) сказал обо мне хвалебное слово и возвестил, что я не только солнечный поэт, но даже — проходящий по Земле — солнечный Бог".

А пісьмы Бальмонта міла-наіўныя, злосныя, помслівыя — і ўсё ж цікавыя. Ён мірыўся з ненавісным яму Меражкоўскім і змушаў цалавацца непрыязных адзін аднаму Купрына з Буніным. "Оборотни с волчьей пастью" — гэта ён, мусіць, пра Буніна з Меражкоўскім.

Пісьмы, светла-журботныя, да княгіні Шахоўскай, маладзейшай на 24 гады, у якую быў закаханы, і "золотистые плечи в вечернем солнце Москвы" і салодкія адбымкі з якою адзінока і журботна ўспамінаў у непрытульным Парыжы, — нагадваюць ліставанне Бальзака з Ганскай альбо Мерымэ з незнаёмкаю.

З усіх кастрычніцкіх астатніх дзён, як уквечаная шчасцем радасць, помніцца карычнявата-шэрая і стракатая, з грацыёзна-прыгожай шыяй дзікая гуска, што шчыпала зялёную траву на падстрыжаным гарадскім газоне недалёка ад высотнага дома на Юбілейным пляцы, аб антэны якога ў поцемку ночы яна ўкалечыла крыло. Ці доўга пражыве яна, адзінокая, у цэнтры горада, дзе так шмат сабак і катоў?

Успомніўся і самотны бусел, убачаны ў студзёную кастрычніцкую пару на плёсе каля густых троснікаў на рэчцы Ясельдзе ў часе майго даўняга падарожжа па Палессі.

Горна думаць, што і пташкі, як згубленыя ў вайну дзеці, якія ў патоку гнаных страхам бежанцаў адбіліся ад сям'і, засталіся на невядомы лёс.

Прыгадваецца ўжо бежанскі вырай сям'і майго дзеда Янкі Шайбака, які, пасадзіўшы на воз малых дзяцей, рушыў разам з усёй вёскаю ў невядомы свет. У Кашалёўскім лесе перад Наваградкам, дзе заторыўся і спыніўся на начлег бежанскі абоз, ад воза адбіўся трохгадовы сын, мой будучы дзядзька Юзап. Яго ўсю ноч шукалі сярод тлуму людзей, збітых фурманак і восеньскага цёмнага лесу і, нарэшце, знайшоўшы пад раніцу, рашылі вярнуцца дадому. Як прыгадвала маці, астатнія Шайбакі — дзедаў жанаты брат Іосіф, незамужняя сястра Разалія (Разэля) — паехалі далей. Бежанскі лёс закінуў іх ажно на Волгу, у мардоўскі горад Бугуруслан.

Незваротным аказаўся гэты вырай: бежанцаў напаткала рэвалюцыя, грамадзянская вайна, голад, халера. Праз сем гадоў у спаленую родную вёску вярнулася толькі адзінокая дзедава сястра Разэля.

І вось думаецца, застаецца яшчэ адна ненапісаная кніжка пра неспазнаныя дарогі беларусаў.

Спрабаваў разгарнуць рэрыхаўскае "Сэрца" — нудота і таўталогія пра чалавечае спадзяванне і шчасце.

Нарэшце знайшоў новаміраўскія кніжкі з дзённікамі Гебельса. У гэтага "доктара" фраза куды больш энергічная і вобразная. Ды і завязка ў дзённіках, як у сапраўдным дэтэктыве, што і павінна было скончыцца вядомаю развязкаю — пагібеллю яго "багатэра". Хіба не заінтрыгуе такі, напрыклад, сказ: "Няхай гэты сшытак садзейнічае таму, каб я стаў яснейшы духам, прасцейшы думкамі, больш даверлівы ў надзеі, палымяны ў веры і сціплы ў гутарцы".

Рэрых нават больш агрэсіўны: "Вялікая, вузкая і напружаная барацьба. Мы ведаем, як напяцце (напружанасць) адных прыводзіць да ўзмацнення другіх. Калі раюць зберагаць энергію, значыць сілы сабраныя для бітвы. Па ўсім свеце разліты пажар. Параўнаўча з цяперашнім мінулая вайна нішто".

Гебельс праз месяц таксама набярэцца адвагі і смеласці. У яго ўжо звініць нацятая струна: "Нам у Нямеччыне не хапае моцнай рукі. Мужа!!! Бісмарк, паўстань!".

І нарэшце фантанам струменіць вар'яцкая безаглядная рашучасць і неразважная смеласць: "Квінтэсенцыя новага чалавека — мы, маладыя, без роду і традыцыі. Мы — соль зямлі".

Ужо не дзівішся, пачуўшы напорыставаяўнічую гебельсаўскую фразеалогію з вуснаў маладых ваўкоў (псеўданім Гітлера), што вывеліся ў былым камсамольскім логаве, дзе так старанна гадавалі і выпешчвалі лідэраў — звышчалавекаў. Проста чалавек агрэсіўнай зграі не быў патрэбны. Патрэбны быў вольф — воўк з наіўна-звярынымі драпежнымі вачыма. Ды паслушны і пакорны народ у адзін голас крычыць — ПАЎСТАНЬ!

"Традиционная болезнь русских беллетристов — пешеходность фантазии, сюжетная анемия, всё ушло в живопись" — так жорстка ацэньваў сучасную яму прозу Яўгені Замяцін. Думаю, што гэткі ж злосны, але справядлівы дакор можна кінуць не толькі ў бок рускай, а нават і польскай літаратуры, хоць там авангард быў у модзе, не кажучы ўжо пра беларускую прозу.

Але мадэрнісцкі, няхай сабе і таленавіты пошук інжынера-будаўніка (будаваў самы буйны ледакол "Ленін") на арэне літаратуры толькі паказвае, што новая дарога тады выгодная, калі яна хадавая, а не заваленая лішне жалезным каркасам усемагутных канструкцый.

Прымаючы караля Уладзіслава ў сваім зацішным двары пад Зэльваю (Дзярэчын), бо меўся яшчэ знакаміты прыгожы палац пад Ружанамі, князь Сапега на велікодны стол выставіў чатырох — гэта адпавядала порам года — засмажаных дзікоў з каўбасамі, парасяткамі і шынкамі ў іх, дванаццаць — гэта раўнялася колькасці месяцаў — аленяў, на залацістых рагах якіх красаваліся

# Нагода дзеля сур'ёзнай размовы

*(Працяг. Пачатак на стар. 13)*

Новая літаратура абміне старую і пакіне яе літаратуразнаўцам. Вядома, не трэба так экзальтавана выкрываць папярэднікаў, абвінавачваць у сатанізме, вярэдзіць раны ветэранам (тут Дубавец перабраў). Літаратурны рух эвалюцыйны. У сённяшніх умовах яго немагчыма "закансерваваць" або загнаць у клетку, нават у асобна ўзятай краіне. Змены напрыканцы XX стагоддзя ў Еўропе адбываюцца агульныя. І калі культурніцкую прастору ў Беларусі пачнуць штучна стэрылізаваць, дык беларускі літаратурны працэс выплюхнецца за межы. Пагартайце сённяшнія польскія часопісы "Kartki", "Czas kultury", "Borussia" (хутка далучацца чэшскія, македонскія, балгарскія...) На іхніх бачынах вы знойдзеце багата беларускіх аўтараў. Калі культурніцкая прастора на бацькаўшчыне не здольная непрадузята адгукацца на "markознае і нетрадыцыйнае" ці ўвогуле на краснае пісьменства, дык беларуская літаратура новага часу з дапамогаю перакладаў знаходзіць іншага "спажыўца". У гэтым асаблівасць цяперашняй інтэграцыйнай сітуацыі на нашым кантыненце. Літаратура пакідае межы краіны са спадзевам вярнуцца, і чым раней, тым лепш. Яна кансервуецца (нават пішацца не ў стол), наадварот, пачынае актыўна самасцвярджацца, набываць новы твар, абагачацца за кошт традыцый іншых культур. Такой літаратуры немагчыма "перакрыць кісларод". Які сэнс ёй пачынаць вайну на родных гонях? Таму спадару Акудовічу не трэба хваляваца і развітвацца з "Хайдэгерам, Дэрыдой, "Бум-Бам-Літам, постмадэрнам..." Проста лапік, на якім мы раней прысутнічалі, раптам разгарнуўся ў абсяг, і жыццёвай прасторы стала ў сотні разоў болей — не толькі "Полымя", "Крыніца", "Маладосць", "Першацвет", "ЛіМ", "Наша Ніва" і "Мастацкая літаратура". Не толькі.

зайцы, цецерукі і фазаны з дрофамі, і 365 беларускіх пірагоў-бабаў, упрыгожаных цукатамі і распісанымі арабескамі.

Начыння і посуду — срэбных нажоў, відэльцаў, келіхаў — іншы раз не хапала, таму запрошаная знакамітая шляхта з акольных двароў прыязджала на ўрачысты банкет нават са сваім посудам.

Апранутыя ў прыгожыя рознакаляровыя строі маладыя вышкаленыя гайдукі разносілі заморскія віны — кіпрыйскія, вугорскія, італьянскія, гішпанскія. Акрамя нектару, легендарнага алімпійскага напою, ці амброзіі, напэўна ж быў і беларускі джын, выключна мужчынскі алкаголь, — знакамітая быценская ядлаўцоўка. Не абыходзілася, вядома, і без пейсахоўкі (слівовіцы) — кашэрнай гарэлкі пад "рыбу па-жыдоўску".

Клопату і рупнасці хапала не толькі гайдукам, але і стольніку з краўчымі і піўнічымі. Можна толькі ўявіць, што пасля такой шчодрасці колькі шляхціцаў, зваленых з ног, ляжала пад вугламі палаца альбо дзіка пастогвала на лаўках асыраватага начнога парку.

Чамусьці хочацца ўбачыць усё гэта намаляванае пяром будучага беларускага Рабле.

У звязку з нашаю беларуска-славянскаю гасціннасцю прыгадваецца і той, нашмат сціплейшы банкетны столік, які наладзіў маладым беларускім паэтам Купалу і Коласу свержаньскі ксёндз, і як біў у званы не запрошаны на бяседу і пакрыўджаны поп-сусед. Як вядома, у Свержані насупраць кацёла ўзнялася царква. Прыклад вечных і нязводных сімвалаў беларускага супрацьстаяння.

Ёсць, пэўна ж, спакуса напісаць тэле- ці радыёп'еску пад назваю "Абед на чатырох", бо пры ружовенькім ксяндзы красавалася маладзенькая зваблівая ахмістрыня.

Прачнуўся нібы пад глухаваты далёкі гром, толькі не нада мною, а пада мною, першай электрычкі ў метро і зноў разгарнуў дзённікі Юрыя Нагібіна. За нейкі асаблівы шык ці звышшчырасць выдаецца лаянка, жаргон маскоўскай падваротні, слоўцы блатнякоў і лагернікаў. Ад іншых старонак патыхае, як ад свінячага хлява. Толькі і дзівішся, адкуль узяўся такі кныр, ахоплены шалам гвалтаўніка? Чалавечая крыўда, боль падмененыя інтрыгамі, плёткамі і неадступнай схільнасцю да склешчвання.

І гэта ўсё замазвае ці зацяняе долю праўды пра брэжнеўска-андропаўскі час, калі дысідэнтаў (даўней гэтым словам называлі інаверцаў) "чорныя вораны" адвозілі ў псіхушкі. Верыш напісанаму пра заняпад і заўчасную смерць Юрыя Казакова на глухой, затуленай лесам падмаскоўнай дачы, як і пра непрабуднае п'янства невядомага мне празаіка Краўчанкі. Каб не гэты бруд і нечыстоты, што жоўтымі плямамі праступаюць на асобных старонках кніжкі...

Поўня, нібы малочны ліхтар, пры чорным насмоленым слупе. Плаўкія стрыжы, як скобкі падковаў, пад малінавымі хмаркамі. Чырвона-зыркія келіхі цюльпанаў на тонкіх ножках, што гарэлі ўдзень, закрыліся нанач, ператварыўшыся ў чатырохкутныя келіхі-чаркі.

Бела-ружовы, дымны цвет яблыняў. На зялёнай грушы — сподачкі ясна-белых кветак. У пышных вянках чарэшня.

Працую, як на прыгоне, толькі без прынукі цівуна альбо прыганятага. Не пішу, нават забываюся пра дзённік. Ад усходу сонца да яго заходу згодна ўставу аб павіннасцях баяр, слугаў і сялян. Рукі агрубелі, нібы ў вясковага каваля ці шашэйнага брукара.

А наўкруга цішыня — як працяг вечнасці.

Чаму і па якой асацыяцыі ўбачылася роднае поле, завешанае бэзавым туманам, росная рунь, лес на круглым бохане груда, трохкутныя піраміды валуноў уздоўж дарогі, лісіца, што рыжым агнём мільганула каля іх, і... стрыечны брат Ладак з сарамлівераю ўсмешкаю.

Ці жывы ён хоць там, у чужой, а можа, ужо асвойтанай Амерыцы, прайшоўшы салдатам вайну, а тулягаю — чатыры кантыненты свету?

Бо абсяг гэты пашырыўся і за кошт абуджэння рэгіёнаў. Вядома, былы "надзел" — наш фарпост, метраполія, з яе мы будзем "вербаваць" маракоў у сусветныя вандроўкі. А жаруць адзін аднаго няхай павукі ў слоіку.

Нядаўна ў інтэрв'ю для беларускай рэдакцыі польскага радыё Валерка Булгакаў сказаў, што сёння Беларусі патрэбны дзесятак "Нашых Ніваў" — розных. І я з ім згодны. Бо думка ні Дубаўца, ні Акудовіча, ні Федарэнкі не ёсць вердыкт апошняй інстанцыі. Новая іерархія выбудуецца як калектыўны прадукт, як супольны набытак. Але для гэтага трэба навучыцца быць шчырымі і талерантнымі.

**Алесь АРКУШ**

ПЕРАКЛАДЫ

# Урокі Дантэ

Выдавецтва "Мастацкая літаратура" выпусціла ў свет "Боскую камедыю" вялікага італьянскага паэта Дантэ Аліг'еры (1265—1321 гг.), перакладзеную мною на беларускую мову. Аўтар бессмяротнай паэмы — чалавек горды і высакародны, які "рос у любві да ісціны, заўсёды імкнуўся да яе і ненавідзеў ману". Ён — грамадзянін, для якога справядлівасць і права — усё, а насілле — нічога. Выгнаны ў 1302 годзе за палітычныя перакананні з роднай Фларэнцыі і асуджаны да спальвання на кастры, пісаў "Боскую камедыю" Дантэ. Толькі ў 1316 годзе ён быў амніціраваны і атрымаў дазвол вярнуцца на радзіму, але на зняважлівых умовах. Усе выгнаннікі павінны былі заплаціць грашовую пеню і прынесці публічнае пакаянне, як крымінальныя злачынцы. Дантэ не вярнуўся на радзіму. "Ці такім чынам, — пісаў ён свайму родзічу, — належыць клікаць на радзіму Дантэ Аліг'еры? Ці таго заслугоўвае мая ўсім і кожнаму відавочная невінаватасць? Ці такой я дачакаўся ўзнагароды за апантаныя заняткі навукай і паэзіяй? Нізкая пакорлівасць, па-зямному настроенае сэрца несумяшчальныя з філасофскім ладам думак, якіх я дасягнуў намаганнямі стольніх гадоў. Не такім шляхам, padre mio, вярнуся я на радзіму".

Дантэ не вярнуўся на радзіму пры жыцці. Ён памёр у выгнанні і ў беднасці, але затое стаў сцягам нацыі, які быў высока падняты дзеячамі нацыянальна-вызваленчага руху італьянскага народа супраць французскага і аўстрыйскага панавання ў XIX стагоддзі. Тасканская народная мова, на якой напісана "Боская камедыя", спецыяльным дэкрэтам была аб'яўлена дзяржаўнай мовай аб'яднанага Італьянскага каралеўства.

Дантэ сваім жыццём і сваім вялікім творам вучыць чытачоў не спыняцца ў развіцці, шанаваць Бога і "братоў сваіх адзінакроўных", быць разняволенымі духам. І робіць гэта пераканаўча і дасканала, бо кожнае слова, кожная думка выпакутаваны ім. Нібы залацінкі, я сабраў некаторыя думкі Дантэ ў адну скарбонку і хачу падзяліцца імі з чытачамі. Урокі Дантэ, як мне здаецца, карысныя заўсёды.

**Уладзімір СКАРЫНКІН**

*...Прынесці страшна зло сваім братам.*
*І больш, па сутнасці, няма нічога,*
*Чаго ў жыцці баяцца трэба нам.*

●

*...Няма пакут страшней, чым азірнуцца,*
*Калі з вас надта здзекуецца лёс,*
*І ў светлых днях душою апынуцца.*

●

*...О Госпадзі! Як намі пакарана*
*Уласная душа! О колькі мук*
*З-за нас ёй перажыць наканавана.*

●

*...Заўваж, аднак, што людзям з-за багацця*
*З раз'юшанасцю, лютасцю такой*
*Усё ж не варта біцца і змагацца,*
*Бо шчасце не ў багацці. Не цяжкой*
*Скарбонкаю, не залатым фларынам*
*Прыносіцца душэўны супакой.*

●

*...О чалавек пусты і бессэнсоўны!*
*Спрадвеку губіць невуцтва яго.*

●

*...Лягчэй разбіць ілбом каменны ўцёс,*
*Чым весці бойку з Воляй Непарушнай,*
*Аб перамозе марачы ўсур'ёз.*

●

*...Мастацтва, праца, веды кіраваць*
*Павінны намі, бо свой хлеб у поце*
*Чала свайго нам трэба здабываць.*

●

*...О злосць і скнарлівасць! З-за вас саслана*
*Душа навекі будзе ў яму, што*
*Крываваю ракой аблямавана.*

●

*...Ды ведайце: мне нават і за краты*
*Не страшна трапіць, толькі б я ні ў чым*
*Не быў перад сумленнем вінаваты.*

●

*..."Шчаслівы ты, што для сябе бясшкодна*
*Выказваць можаш, — крыкнулі яны, —*
*І ў Пекле думкі ўласныя свабодна".*

●

*...Хто па жыцці ідзе бязмэтна, лена,*
*Здабыць не можа славы — і ўспамін*
*Аб ім развеецца, як дым ці пена.*

●

*...Наш розум міласэрнасцю спыняцца*
*Заўжды павінен, раз яго дала*
*Нам воля Ўсемагутнейшай Пяшчоты.*
*Не мае права быць ён сродкам зла.*

●

*...Вы ў сэнс пранікніце людской прыроды!*
*Няўжо за рэшту нейкую жыцця*
*Сябе пазбавіць можна асалоды*
*Пад сонцам плыць да самазабыцця*
*У свет, яшчэ нікому невядомы,*
*Каб зведаць радасць першаадкрыцця?*

●

*...Пакуль жанчыны не згараць датла,*
*Кахання прагнуць іхнія натуры —*
*Паглядаў млосных, дотыкаў, цяпла.*

●

*...Дай Бог, каб вашы крылы палягчэлі —*
*І вы, узняўшы іх, ляцець маглі,*
*Свабодныя, куды б ні захацелі.*

●

*...О шумных поспехаў падман вялікі!*
*Тваю ліставу абарвуць гады,*
*Каб агаліць усе твае пралікі.*

●

*..Натоўпу шум — віхор, які падняць*
*І скінуць можа, ды ў якім кірунку*
*Падзьме віхор, нам не прадугадаць.*

●

*...Трава зялёная ад славы мала*
*Чым розніцца. Мяняе колер іх*
*Цяпло, якое іх узгадавала.*

●

*...Чаму пад ветрам, чалавечы род,*
*Ты гнешся, быццам парастак пахілы,*
*Калі твой натуральны стан — палёт?*

●

*...Чым болей злучаных паміж сабою*
*Любоўю душ — накшталт зярцал, яны*
*Лепш азараюцца адна адною.*

●

*...Знай, уяўленне, падабенствам кары*
*Зрабіцца можаш ты і заглушыць*
*Шматлікія і гучныя шафары.*

●

*..Чакаюць просьбы толькі людзі злыя,*
*Што іншым не жадаюць памагаць.*

●

*...Любоў — насенне. Шмат ускаласіла*
*Яна гірсы і збожжа. Дабрыня*
*Расце з яе і д'ябальская сіла.*

●

*...Дабра, дзе суцяшаецца жывая*
*Душа, імкнуцца дасягнуць усе,*
*Бо сутнасць чалавечая такая.*

●

*...Нялёгка ў ісціну пранікнуць тым,*
*Хто шчыра верыць, што любоў любая*
*Апраўдана паходжаннем сваім.*

●

*...Страсць існуе ў людзях, як у пчале*
*Сверб мёд рабіць. Той верад пачатковы*
*Непадуладны ганьбе і хвале.*

●

*...Даволі суму! Дол тапчы нагамі,*
*Ускінь пагляд, на небасхіл зірні,*
*Які нас робіць вечнымі царамі!*

●

*...Чаму вы, зоры мудрыя, маўчыце*
*І не гаворыце, ці прыйдзе той,*
*Хто прагнасць нашу задушыць злаўчыцца?*

●

*...Знак ачышчэння — моцнае жаданне*
*Узняцца ўгору і ажыццявіць*
*З насельнікамі іншых сфер яднанне.*

●

*...Свет пачатковы за Гасподні дар*
*Прымаў пад дубам адшуканы жолуд*
*І піў ваду з крыніцы, як нектар.*

●

*...Калі б распусніцы маглі ўявіць,*
*Што іх чакае за жыццёвым кругам,*
*Яны б ужо сягоння сталі выць.*

●

*...Калі святымі крыламі кране*
*Каханне сэрцы песняпеўцаў, пёры*
*Іх робяцца танчэйшыя ўдвайне.*

●

*...Шчаслівы той,*
*хто ўтаймаваў імкненне*
*Сваім губам і чэраву служыць.*

●

*...думкі пра паэта дурням звяга*
*Часцей навязвае, чым сам паэт,*
*Чым аб ягонай творчасці развага.*

●

*...Туды, дзе можна ўбачыць Божы лік,*
*Шпурляемся мы пругкай цецівою,*
*Каб там пачуўся гучны наш усклік,*
*Ды гэтак, як мастацтва твор з жывою*
*Выявай не стасуецца падчас,*
*Бо быў спярша матэрыяй глухою,*
*Ад вернага напрамку іншы раз,*
*Калі ў душы няма вышэйшай згоды,*
*Няўхільна штосьці адхіляе нас.*

●

*Хай будзе болей у людзей развагі.*
*Ацэньваць нельга загадзя ўраджай,*
*Пакуль яго не пакладзеш на вагі.*

●

*...Адзінага жадання малавата,*
*Каб узвышаў карону царскі сверб.*

●

*...Таму, хто на людзей глядзіць варожа,*
*Не здолець Божай волі, хоць жыве*
*Бог верай, што любоўю пераможа.*

●

*...Смяротныя! Судзіце асцярожна,*
*Бо ведае абраннікаў сваіх*
*Адзін Гасподзь, бо асуджаць бязбожна.*

●

*...Вярхоўны меч імклівы і круты*
*Для баязліўцаў, што яго баяцца,*
*Ды слаба кроіць смельчакоў шчыты.*

●

*...Падвержаныя свецкаму суду,*
*Паэт і кесар пах забылі лаўра —*
*Для чалавечай волі на бяду.*

●

*...Наш лёс увесь і наша існаванне —*
*У Божай волі. Толькі ў ёй адной —*
*Дазвол на радасць і на хваляванне.*

●

*...У волі Божай — мір наш і лагода,*
*Яна той акіян, куды цячэ*
*Ўсё, што стварае мудрая прырода.*

●

*...Тым, хто выконваць не хацеў заданне*
*Гвалтаўніка, ды выканаў, на гвалт*
*Грэх спасылацца як на апраўданне.*

●

*...Той, хто цярпець не можа рабскай долі,*
*З палону вырвецца на ўласны шлях,*
*Ды рэдкасць уладальнік цвёрдай волі.*

●

*...Прырода рысы Бога паўтарыла*
*У чалавеку — шчодрасцю спаўна*
*І дабрынёю ўдосталь адарыла,*

*Але галоўны дар, які яна*
*Дала яму, — дух вольны і свабодны,*
*Дух, на які не падае цана.*

●

*...Быць сорамна пярынкай, хрысціяне,*
*З якой гуляе вецер, і лічыць,*
*Што кожная вада цябе падмане.*

●

*...Каб толькі пахвалу яны любілі,*
*Лятаць не ўмелі б душы, як арлы,*
*І ўсю б любоў да неба разгубілі.*

●

*...Каб да любові Божай дарасці,*
*Павінен чалавек да паслушэнства*
*З пагорка ўласнай гордасці сысці.*

●

*...Калі б выконваў свет статут нябёс*
*І жыў у згодзе з мудраю прыродай,*
*Ён на плячах бы крыж цяжкі не нёс.*

●

*...Што знікне і што вечна існуе —*
*Не болей чым ідэі той зарніцы,*
*Якую Бог нам у любві дае.*

●

*...Прашу, Вышэйшы Розум, дай адказ,*
*Ці бачыш ты, хто сёння дым пускае,*
*Каб не дайшло святло тваё да нас.*

●

*...О бляск любві — гарачы і нястрымны!*
*Ты ўсмешку светлай робіш і святым —*
*Любы парыў, любы намер інтымны.*

●

*...Не можа быць Зямля прадметам мар*
*Таго, хто зненавідзеў зла прытоны*
*І шчыра марыць пра нябесны дар.*

●

*...Надзея — славы будучай чаканне.*
*Прыхільнасць Бога і карыснасць спраў,*
*Што здзейснены, — яе абгрунтаванне.*

●

*...О суд Гасподні! Пакарай ваўкоў,*
*Што пасвяцца сярод авечай цноты.*

●

*...О скнарлівасць! Як цяжка супыніцца,*
*Узняць пагляд над безданню тваёй*
*І безданню другой запаланіцца.*

●

*...Прывыклі ісціну вы думкай мераць.*
*Для вас галоўнае — сваю ману*
*Як толькі можна прыгажэй аперыць.*

●

*...О Вечнае Святло, о Светач мілы,*
*Які душу ператварае ў храм!*
*Дай памяці смяротнай болей сілы*

*І незгасальны бляск маім радкам,*
*Каб здолеў іскру Славы Першароднай*
*Падараваць я будучым вякам.*

*Успыхні, як зарніца, думкай, згоднай*
*З недасягальнай праўдаю тваёй*
*І для яе трыумфу неабходнай.*

СПАДЧЫНА

# Палімпсесты Ларысы Генюш

ДЫКТАТУРА заўсёды мае патрэбу ў паэтах. Пасля ўдалага закалоту ці мірнага захопу ўлады, збольшага вырашыўшы пытанні ўласнага існавання, кожны дыктатар ставіць пры сваім троне зэдлік для прыдворнага одапісца. І седала гэтае, звычайна, не пустуе, хіба што вершатворцу зручней агучваць свае хваласпевы стоячы на каленях.

Калісьці за складанне рыфмаванага гараскопа для царскай сям'і Сімяон Полацкі меў ад маскоўскага самадзержца шчодры па тым часе падарунак — паўпуда цукру. За прамінулыя з той пары тры з паловай стагоддзі ганарар з вяльможных рук істотна пабольшаў. Зрэшты, царская ўзнагарода ў розныя часы можа быць рознай і залежаць ад нораву таго, хто ўзнагароджвае. За вернападданніцкі панегірык паэт можа атрымаць афіцыйнае званне і пажыццёвы дабрабыт, а можа проста застацца на волі, што само па сабе ўспрымаецца як найвялікшая міласць.

Прыдворная літаратура адмірае разам са смерцю дыктатара і рэанімацыі не падлягае. У надта ўжо Выбраных творах Я. Купалы (1946 год) я налічыў каля паўсотні вершаў, прысвечаных правадыру. Творы гэтыя, даўжэзныя, як пугі, зоймуць паўтома Поўнага збору, які акурат цяпер выходзіць у свет. Чытаеш бясконцыя паўторы пра “мудрага Сталіна” і міжволі думаеш — не абцяжарваў сябе Купала пошукам якога свяжэйшага эпітэта, пісаў як адчэпнае. І пісанне гэтае да беларускага прыгожага пісьменства наўрад ці мае нейкае дачыненне. З Поўнага збору яго, вядома ж, не выкінеш, але ж і каментар павінен быць адпаведны.

Не будзем удакладняць, колькі праседзеў Я. Купала на тым мулкім калятронным зэдліку. У яго часы паэтаў, жадных да хваласпеваў правадыру, было ці не залішне, і рассадзіць іх можна было хіба на даўжэзных лавах. Але паэты — люд ненадзейны. Сёння, глядзіш, сядзіць разам з усімі, сачыняе тое, што ад яго чакаюць, а заўтра раптам падхопіцца, перакуліць лаву і выскачыць за дзверы. Нават той, “с фамилией чертовой”, і то аднойчы напісаў, што вечна на зямлі будзе абуджаць жыццё Сталін, а потым агрызнуўся, як загнанае ў кут ваўчаня: “Мы жывём, под собою не чуя страны...”

А дыктатары любяць паслухмяных, адданых творцаў. Змаганнем з непаслухмянымі заўсёды займаліся спецыялісты. Турма, псіхушка, пракрустаў ложак цэнзуры, шантаж — магчымасцяў запалохаць, зламаць чалавека ў іх хапала. І магчымасці гэтыя, трэба думаць, выкарыстоўваліся напоўніцу. І выціскаў з сябе спакутаваны нацыянальны геній: “Табе, правадыр, мае песні і думы...”

За пасляваенныя часы панавання камуністычнай ідэалогіі большасць беларускіх пісьменнікаў як бы змірылася з існаваннем цэнзуры. Нельга пра гэта пісаць? Не будзем. У гэтым была і свая засцянковая рацыя — кожны літаратар мог у выпадку чаго самаапраўдацца: я здольны быў на большае, мне не далі рэалізаваць свой талент і г.д. Насамрэч, змесціва шуфлядаў беларускіх літаратараў у постсавецкія гады, калі маскоўскія выдавецтвы не паспявалі выдаваць вялізнымі накладамі ўсё тое, што дзесяцігоддзямі пісалася ў стол, выглядала беднавата. Пісьменнікаў, якія адважваліся зрэдку запярэчыць сістэме, было нямала, асобаў, якія змагаліся з гэтай сістэмай, адстойваючы і сваю годнасць, і годнасць свайго народа, былі адзінкі.

У Ларысы Генюш ёсць верш, адрасаваны моладзі: “Трымайце лейцы моцна у далонях і не мыляйце роднай баразны”. Яна мела права на такі запавет, бо роднай баразны не мыляла нідзе і ніколі, бо ні на каліва не схібіла ў высокім служэнні Бацькаўшчыне.

Упершыню яе паслялагерныя вершы здолелі прабіцца на старонкі беларускай афіцыйнай перыёдыкі толькі ў 1963 годзе — у “Полымі”, “Голасе Радзімы”, “Гродненской правде” з'явіліся невялікія вершаваныя нізкі. І хоць аўтарка не спяшалася далучацца да дружнага хору савецкіх літаратараў, што не змаўкаючы напеўвалі дыфірамбы ўладзе, было вырашана дазволіць выданне яе кнігі. Праз чатыры гады пры спрыянні Максіма Танка зборнік “Невадам з Нёмана” з ураўнаважанай прадмовай Ю. Пшыркова пабачыў свет. Праўда, быў у той прадмове адзін фальшывы абзац, напісаны як бы навырост, з надзеяй, што так будзе, так павінна быць з беларускім пісьменнікам, кнігі якога выходзяць у дзяржаўным выдавецтве: “У гасцінным уласным доме Генюшаў часта бываюць пісьменнікі і журналісты з Мінска і Гродна, вучні мясцовых школ і грамадскія працаўнікі раёна. Ларыса Антонаўна часта выступае перад юнай зменай...” Магчыма, гэткая ідылія і ажыццявілася б, калі б паэтка прыняла савецкае грамадзянства, уступіла б, як ёй настойліва прапаноўвалі, у Саюз пісьменнікаў. Але нічога гэтага не адбылося, пастка спрацавала на́пуста.

Што ж уяўляла з сябе першая на Радзіме кніга Л. Генюш? Выбранае за амаль тры дзесяцігоддзі — з 1937 па 1966 год. Беларускі чытач прыняў зборнік прыхільна, з'явіліся рэцэнзіі (хоць часам іх аўтары мелі пэўныя непрыемнасці). Чытач радасна адкрываў для сябе новага Паэта і наўрад ці заўважаў, што для самога паэта выхад доўгачаканай кнігі быў добра-такі азмрочаны. Затое беларуская эміграцыя, якая творчасць Л. Генюш ведала не толькі па рэдкіх публікацыях у мінскіх перыёдыках, прыкмеціла, што нешта ў вершах не так. Віншуючы “вельмі паважаную і дарагую спадарыню” з шасцідзесяцігоддзем, Раіса Жук-Грышкевіч у лісце ад 22 чэрвеня 1970 года абмовілася: “Трымала ў руках Ваш зборнік “Невадам з Нёмана” й заўважыла, што “Зубры” зрэдагаваныя ў ім горай...”

Зборнік на грамадскіх пачатках адрэдагаваў Уладзімір Караткевіч, які на рэдактарскія заўвагі да свайго рамана “Каласы пад сярпом тваім” безапеляцыйна заявіў: “І коскі з месца не зрушу!”

Са зборніка Л. Генюш “Невадам з Нёмана” было выкасавана 120 радкоў.

Я не ведаю, дзе, калі і кім канкрэтна гэта рабілася, я проста канстатую факт, што шматлікія вершы Л. Генюш падпалі пад цэнзурныя скарачэнні, што, зразумела, адмоўна адбілася на іх змесце. Прычым, скарачэнні гэтыя насілі відавочны ідэалагічны характар. Так, напрыклад, з верша “Уздымам сэрц нашых шуміць Белавежа...” былі выкінуты дзве страфы, што неслі ў сабе асноўную сэнсавую нагрузку, служылі станавым хрыбтом усяго твора:

***Крывіч там стагоддзі***
***загон свой старожа,***
***а звычаі, мова жывуць***
***з году ў год...***
***Там Край, быццам казка***
***старая, прыгожы,***
***удалы і верны краіне народ.***
***. . . . . . . . . . . . . . . . . .***
***Калі для нас волі гарачай***
***світанне***
***цудоўнаю блісне***
***над Краем зарой,***
***ад Угры па Буг мы***
***спаткаць яго ўстанем***
***ўсёй дружнай, вялікай,***
***Крывіцкай сям'ёй.***

Выдавецкі апякун зборніка Анатоль Кудравец прыгадаў, што рукапіс трапіў да яго ўжо ў гатовым, “адрэдагаваным” выглядзе. Сапраўды, ці магла дзяржава даверыць такое адказнае рэдагаванне супрацоўніку выдавецтва? Гэткі аўтар заслужыў на больш высокую ўвагу (як вядома, рэдактарам Пушкіна таксама быў не Жукоўскі, і нават не Бэнкендорф). Высокая ўвага чамусьці на дух не пераносіла слова *крывіцкі*; калі надакучвала замяняць яго на *тутэйшы, бясстрашны, магутны* і нават *стыхійны*, з верша проста здымаліся цэлыя строфы, не бяда, што часам ён выглядаў, як знявечаны зламысна сякерай абрубак дрэва. У дзевяцістрофным вершы “Нішто так не міла” ахвярай савецкай цэнзуры сталіся шэсць (!) чатырохрадкоўяў, у тым ліку найкрамольныя радкі:

***Нішто так не міла,***
***як родны наш сцяг,***
***як нашы дзядоўскія гоні;***
***нішто так не міла,***
***як тое дзіця,***
***што сэрцам вітае***
***“Пагоню”!***

Цэнзарскі аловак нарозмаш выкрэсліваў месцы, дзе паэтка асмельвалася нагадаць пра даўнейшыя межы беларускай дзяржавы:

***Родны сцяг наш горда***
***уздымаўся ўгору***
***ад балтыйскіх хваляў***
***аж па Чорна мора!***

Здавалася б, пры перавыданнях да творчай спадчыны Л. Генюш выдаўцы павінны былі паставіцца больш уважліва. На жаль, гэтага не адбылося — выбранае “Белы сон” (1990 год, укладальнік Б. Сачанка) даслоўна паўтарыла ўсе ранейшыя купюры. Праз шэсць гадоў ужо і такі, “адрэдагаваны” варыянт выклікаў насцярогу ў дзяржаўных куратараў літаратуры. З установы, якая займаецца размеркаваннем дзяржаўных сродкаў у кнігавыдавецкай сферы, у “Мастацкую літаратуру” быў накіраваны забаронны ліст: “Зборнік твораў Л. Генюш здымаецца з пераліку фінансуемых з-за таго, што гэтая ж пазіцыя на гэты ж год запланавана ў “Юнацтве” вялікім тыражом, а таксама з-за неаб'ектыўнай прадмовы да зборніка М. Тычыны (ухваленне супрацоўніцтва з фашыстамі ў час Вялікай Айчыннай вайны)”. Вялікім накладам у “Юнацтве” была запланавана ўсё ж “Споведзь”, а не вершы, пра што ў пільнай установе, безумоўна, ведалі. А чаго варты пасаж наконт “неаб'ектыўнасці” аднаго з найсумленных даследчыкаў літаратуры Міхася Тычыны — маўляў, гэта аўтар прадмовы вінаваты, што кніга не атрымае датацыю... Які відавочны прагрэс — тое, што выдавалася ў 1942, 1967 і 1990 гадах, трапіла пад забарону ў 1996!

Нядаўна забаронная кампанія атрымала свой лагічны працяг. Месяц таму ў Г. Бураўкіна, У. Арлова і аўтара гэтых радкоў у дзесяці школах Гародні настаўнікі і вучні пыталіся: за што выключана са школьнай праграмы іх зямлячка Л. Генюш? Падчас адной з сустрэч абураныя настаўнікі паказалі нам ліст з гарана, дзе загадвалася не вывучаць на занятках творчасць Л. Генюш, Н. Арсенневай і М. Сяднёва. А незалежная гарадзенская газета “Пагоня” 27 студзеня 1998 года выйшла з кідкім загалоўкам на першай паласе “Ларысу Генюш рэпрэсавалі ў другі раз”.

А робіцца гэта ўсё ў дагоду і па камандзе тых антыбеларускіх сіл, якія сёння ладзяць валтасараў баль на Беларусі. Праўда, на іхнія апантаныя закліканні айчынная патрыятычная інтэлігенцыя адгукаецца не вельмі ахвотна. Прыходзіцца запрашаць плоймы чужаземцаў, якія заўсёды былі не супраць пачаставацца на дармаўшчыну. А беларускія творцы, духоўныя водцы нацыі — у апале і пад забаронай. Дзіўна, чаму да гэтай пары кнігі Л. Генюш і В. Быкава, забароненыя да выдання, не забраны з бібліятэк і не спалены прылюдна на пляцы. Люд засумаваў па відовішчах — у 30-я гады ў Германіі кніжныя аўтадафэ збіралі тысячныя натоўпы.

Сёлета мінецца пятнаццаць гадоў з дня смерці Ларысы Генюш. З далечы часу, асабліва сёння, калі разгарненне беларускага нацыянальнага супраціву робіцца жыццёвай неабходнасцю, асоба вялікай патрыёткі і паэткі паўстае ва ўсёй велічы. Слова яе павінна без перашкодаў даходзіць да чытачоў. І так будзе, нягледзячы на ўсе забароны — адразу ў некалькіх недзяржаўных выдавецтвах рыхтуюцца кнігі Генюш. Прыйдзе час, і яе творчасць, узноўленая ў сваёй першароднай красе, пазбаўленая цэнзурных скаротаў, сабраная ў дыхтоўны нешматтомнік, стане агульнанацыянальным здабыткам. І кажучы класічным Жылкавым словам, “з дзіўнай любасцю чытацьмем тое мы, што захавалася на палімпсесце”.”

**Міхась СКОБЛА**

Марцін КОЎЗКІ

# Доля праўды

Мякчэе, кажуць, еўрапейскі клімат, не тыя вёсны і не тыя зімы. Мякчэюць зімы? Што рабіць нам з тымі, якія лічаць: гэта немагчыма. Ім падавай былы зімовы клімат у адной асобна ўзятае краіне.

●

— Чуткі — як ботала, куды ад іх дзецца. — Чыстая работа, — заўважылі “спецы”. — Па вашай наводцы? Трэба было даўмецца... — Пра нас гэта плёткі, — запэўнілі “спецы”.

●

У міністэрстве замежных зносін на нешта яшчэ здольныя. Ладзім цяпер адносіны з Бермудскім трохвугольнікам. Зацвердзілі тэкст дагавора, персону амбасадора, адно шчэ знаем няцвёрда, у які гэта ехаць горад.

●

Прыйшоў з вёскі араты скардзіцца на ўлады. — Скажыце, ці маю я права? — Маеце, дзядзечка, маеце. — А ці магу я? — Вось гэтага не скажу я... Аб правах чалавека дыскусій у нас багата. А я ўсё ўзгадваю аратага на прыёме ў адваката.

●

Трызніць стары на бальнічным ложку: “Таварыш Ленін Іосіф Вісарыёнавіч, я — Пупко Андрэй Міронавіч”. Божа, з якіх шчэ прагалін пруць на нас Ленін і Сталін.

●

— Што там цвердзіць брахун на трыбуне? — Што спагадны з якой шчэ пары. Што самому Джардана Бруна даў бы з вогнішча прыкурыць. А з пакутамі ён знаёмы як былы сакратар абкома.

●

Калектыўнае — значыць, агульнае, значыць, сумеснае, значыць, нічыё. Наша, але і іхняе, замаскіраванае тваё і маё. Памыляліся рэвалюцыянеры, не ўласнасць спараджае хімеры, маёмасць вымагае сваё. Дазволілі прыватызаваць кватэры, нашы цяпер вокны і дзверы, а што яшчэ ў нас ё?

●

Тры месяцы былі без заробку, а завод неяк цялёпкаў. Выдалі ўсё адразу — і дэкаду стаіць завод. Запозненую зарплату абмывае народ.

●

З галаўнымі ўборамі народ не ўнік: што носяць падначаленыя, а што кіраўнік? Тут няма месца дэмакратыі, усе аўтарытэты — дутыя, кіраўнік ходзіць у андатравай, астатнія — у заечых і нутрыевых. Парадак усталяваны файны — кожнаму сваё, “едэн дас зайнэ”. А каму ахвота драць горла, хай падумае — не пра шапку — пра голаў.





ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

**Галоўны рэдактар**
**Уладзімір НЯКЛЯЕЎ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**
**Мікола ГІЛЬ** — *намеснік галоўнага рэдактара*
**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ,**
**Жана ЛАШКЕВІЧ,**
**Алесь МАРЦІНОВІЧ,**
**Барыс ПЯТРОВІЧ** — *першы намеснік галоўнага рэдактара,*
**Юрась СВІРКА,**
**Віктар ШНІП** — *адказны сакратар*

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
220005, Мінск, вул. Захарава, 19

**ТЭЛЕФОНЫ:**
прыёмная рэдакцыі — 2332-461
намеснікі галоўнага рэдактара — 2332-525, 2331-985

**АДДЗЕЛЫ:**
публіцыстыкі — 2332-525
пісьмаў і грамадскай думкі — 2331-985
літаратурнага жыцця — 2332-462
крытыкі і бібліяграфіі — 2331-985
паэзіі і прозы — 2332-204
музыкі — 2332-153
тэатра, кіно і тэлебачання — 2332-153
выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — 2332-462
навін — 2332-462
мастацкага афармлення — 2332-204
фотакарэспандэнт — 2332-462
бухгалтэрыя — 2682-667

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*
*Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*
*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.*

**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856.
Наклад 4498
Нумар падпісаны ў друк 19.2.1998 г. у 17.30.

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 999

Заказ 929/Г

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12